# САВЕЦКАЯ КРАЇНА





СТУДЗЕНЬ
№ 1
3

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

1931

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*



# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

СТУДЗЕНЬ

№ 1 (3)

МЕНСК — 1931

# За ўдарныя тэмпы ў перабудове краязнаўчай працы.

Выходзячы з генэральнай лініі партыі XVI зьезд УсеКП(б) адзначыў асноўныя задачы партыі на даным гістарычным этапе: „*Выканаць пяцігодку ў чатыры гады.* Перабудаваць у асноўным сельскую гаспадарку краіны на социялістычных началах. *Ператварыць СССР у краіну суцэльнай колектывізацыі* і на гэтай аснове *ліквідаваць кулацтва*—апошні аплот капіталістычнай эксплёатацыі ў краіне—такія гэтыя задачы“ (Праўда).

Сьнежаньскі аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б), падводзячы вынікі выкананьня першых двух гадоў пяцігодкі і за паўгода з часу XVI партыйнага зьезду, выходзячы з пастаноў апошняга, на базе разгорнутага соцбудаўніцтва, намеціў рэальны плян далейшага гіганцкага наступленьня на ўсіх франтох соцыялістычнага будаўніцтва.

Народна-гаспадарчы плян на 1931 год, зацьверджаны пленумам, ёсьць плян бальшавіцкіх тэмпаў, ударных тэмпаў нашага будаўніцтва на трэцім рашаючым годзе выкананьня асноўнага і рашаючага лёзунгу партыі і ўсёй рабочай клясы: „пяцігодка ў чатыры гады“. „На бязумоўным выкананьні намечанага пляну ва ўсіх яго частках і асабліва на якасных яго паказацелях (зьніжэньне сабекошту прамысловай продукцыі, зьніжэньне кошту будаўніцтва, павышэньне вытворчасьці працы, павышэньне ўраджайнасьці, паляпшэньне паказчыкаў працы транспорту, паляпшэньне якасьці продукцыі і г. д.), павінна быць згрупаваны максымум увагі, максымум энэргіі“. „Наша краіна, дзе соцыялістычны сэктар заняў абсолютна прэабладаючую ролю ў народнай гаспадарцы, уступіла ў пэрыод разгорнутага соцыялістычнага наступленьня, у пэрыод соцыялізму. Наступаючы 1931 год будзе годам новых дасягненьняў, новых буйнейшых посьпехаў соцыялізму ў яго барацьбе з капіталізмам. Выкананьне пляну ў галіне колектывізацыі дасьць абсолютную перавагу соцыялістычных элемэнтаў над капіталістымі ў вёсцы, умацуе змычку рабочае клясы з працоўнымі масамі сялянства і завяршыць пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі СССР. Гэта будзе перамога ўсямірна-гістарычнага значэньня“. (Аб'ядн. пленум ЦК і ЦКК)

Адзначаючы нянавісьць з боку клясавых ворагаў і абвостраную клясавую барацьбу як унутры нашага саюзу, так і з боку міжнароднага капіталізму, якая выклікаецца вялізарнейшым энтузыязмам і мобілізацыяй пролетарскай энэргіі на выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) падкрэсьлівае, што: „менавіта ў гэтых умовах патрабуецца ад нас максымальнае напружаньне сіл для далейшага разгортваньня індустрыялізацыі краіны і соцыялістычнага будаўніцтва, для ўзмацненьня абароназдольнасьці краіны“ (з пастановы сьнежаньскага пленуму ЦК і ЦКК).

Контрольныя лічбы на 1931 г., як і пастановы пленуму аб спажывецкай коопэрацыі—забесьпячэньне мясам і гароднінай, так і пастанова пленуму аб перавыбарах саветаў, патрабуюць ударных тэмпаў на ўсіх франтох социялістычнай стройкі.

Бясспрэчна і тое, што выкананьне пастаноў пленуму патрабуе ўдарных тэмпаў у навукова-дасьледчай працы, цалкам мобілізуючы яе на рашучае з усёй пролетарскай клясавай адказнасьцю выкананьне дырэктыў партыі.

Вурокі шкодніцкай і контр-рэволюцыйнай работы нацдэмаў у Беларускай Акадэміі Навук, Наркамасьвеце і іншых навуковых установах патрабуюць ад нас асабліва напружанай працы як па карэннай перабудове навукова-дасьледчай працы на рэйкі социялістычнага будаўніцтва, так і па выкрыцьцю ўсёй шкодніцкай і контр-рэволюцыйнай работы, якую праводзілі нацдэмы. Выкрыць і з усёй пролетарскай яскравасьцю паказаць перад працоўнымі масамі ўсю контр-рэволюцыйнасьць гэтых агентаў польскага фашызму, гэтых „адраджэнцаў“, гэтых „забаронцаў“ у саюзе з фашызмам „усяго беларускага народу“—наша баявая задача. Адначасова неабходна безадкладна ўключыцца ў социялістычнае будаўніцтва і ліквідаваць прарывы.

Зараз, як ніколі, з асобай вастратой высоўваецца неабходнасьць вывучэньня і вучот вытворчых сіл краіны і ўмоў разьвіцьця культуры.

Работа гэта ня можа быць выканана аднымі дзяржаўнымі навуковымі ўстановамі, калі да навукова-дасьледчай працы ня будуць прыцягнуты масы рабочых, колгасьнікаў, батрацтва, бядняцка-серадняцкі актыў і савецкая інтэлігенцыя. Гэту навуковую працу ў даны час трэба зьвязаць з краязнаўчым рухам—колектыўным вывучэньнем свайго раёну, свайго заводу, колгасу, саўгасу.

Праз краязнаўчыя організацыі мы павінны мобілізаваць масы на навукова-дасьледчую працу, каб яшчэ з большым посьпехам будаваць социялізм. Зараз мы маем дырэктывы ЦК КП(б)Б і ЦСПСБ і аб разгортваньні краязнаўчай працы на фабрыках, заводах, колгасах, саўгасах, у навучальных установах і аб шырокім уцягненьні ў краязнаўчую працу рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас. Партыя вяла і вядзе самую бязьлітасную барацьбу з контр-рэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам. АДПУ выкрыта контр-рэволюцыйная група нацыянал-дэмократаў, рыхтаваўшых інтэрвэнцыю. Наш друк шырока высьвятляе гэтую агідную працу клясавага ворага, аскаліўшага зубы супроць пасьпяховага наступленьня пролетарыяту, будуючага социялізм.

Шэраг раёнаў, выходзячы з дырэктыў партыі, безадкладна прыступілі да карэннай перабудовы краязнаўчай працы, ачышчаючы шэрагі краязнаўцаў ад варожых і нацдэмаўскіх элемэнтаў і папаўняючы іх новымі пролетарскімі і колгасьніцкімі масамі. Партыйныя організацыі гэтых раёнаў (Мозыр, Слуцак, Крычаў і інш.) аддалі належную ўвагу і падбору кіраўнічых работнікаў краязнаўчых організацый, што бясспрэчна зьяўляецца галоўнай задачай у перабудове ўсёй краязнаўчай працы. Але адначасова мы маем самыя безадказныя адносіны да адказьнейшага вучастку культурнай рэволюцыі. Мы маем такія факты, калі старшынёй раённага бюро краязнаўчага таварыства лічыцца асоба пазбаўленая выбарчых правоў (Асьвея). Калі шэраг раёнаў, на запытаньне ЦБК аб прысылцы вестак, паведамляе, што ў іх няма і ня было краязнаўчых організацый (Сьмілавічы). У сувязі

з выкрыцьцём контр-рэволюцыйнай нацдэмаўскай організацыі маюцца факты панікі і пакіданьня краязнаўчых гурткоў, заместа таго, каб мобілізаваць савецкую частку краязнаўцаў на ліквідацыю прарываў і на безагаворачнае і рашучае выкананьне дырэктыў партыі, пад кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі, райкому, гаркому. Ёсьць і поўная недаацэнка краязнаўчага руху для справы соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта тармазіць наша наступленьне, не дае магчымасьці мобілізаваць масы на масавую навукова-дасьледчую працу, якая зьяўляецца неабходнай часткай плянаваньня і разгортваньня соцыялістычнае гаспадаркі.

Тав. Хацкевіч у сваім дакладзе на 3 сэсіі ЦВК (сьнежань) зазначыў, што шэраг раённых і цэнтральных работнікаў, працуючы ў раёне і выжджаючы на працу ў раён, ня ведаюць яго, ня ведаюць вытворчага напрамку гэтага раёну. III сэсія ЦВК з усёй яскравасьцю ў сваёй пастанове дала дырэктыву аб вывучэньні раёнаў: „удасканаліць вывучэньне экономічнага становішча раёнаў, напрамак разьвіцьця гаспадаркі і экономікі ў мэтах спэцыялізацыі гаспадарчага і экономічнага разьвіцьця кожнага раёну“. Краязнаўчыя організацыі раёнаў павінны рашуча ўзяць на сябе значную долю працы па ажыцьцяўленьню гэтае дырэктывы ЦВК БССР.

Пытаньні політэхнізацыі школы, пытаньні падручнікаў для школ таксама патрабуюць ад нас ударных тэмпаў у краязнаўчай працы і ў першую чаргу ўдарнасьці ў яе карэннай перабудове. Мы да гэтых пор у масавай школе маем падручнікі з варожай пролетарыяту ідэолёгіяй, у той час як краязнаўчыя організацыі, вывучаючы гісторыю барацьбы пролетарыяту, грамадзянскую вайну, новы быт, новыя формы працы, разгортваньне колгаснага будаўніцтва,—далі-б багацейшы матар'ял для складаньня нашых падручнікаў, на якіх-бы вывучалася наша моладзь вялізарнейшаму энтузыязму рабочай клясы, энтузыязму барацьбы, імкненьню да хутчэйшай пабудовы соцыялізму.

Правадзімая краязнаўчая пяцідзёнка ёсьць толькі пачатак вялікай работы па мобілізацыі рабочых і колгасьніцкіх мас на разгортваньне краязнаўчай працы. Дабіваючыся правядзеньня краязнаўчай пяцідзёнкі, як масавай бальшавіцкай кампаніі, трэба з усёй адказнасьцю замацаваць усе пункты для далейшага разгортваньня краязнаўчай працы, выходзячы з дырэктыў партыі.

„КП(б)Б на чале культурнага будауніцтва“. Раённыя партыйныя організацыі павінны ўключыць у плян свайго штодзённага кіраўніцтва гэтым адказьнейшым вучасткам працы. Профорганізацыі, саветы, лепшая частка савецкай інтэлігенцыі, пад непасрэдным кіраўніцтвам парторганізацыі, павінны безадкладна паўдарнаму, пролетарскім мэтодам перабудаваць краязнаўчую працу на службу дыктатуры пролетарыяту, на будаўніцтва соцыялізму.

Краязнаўчая пяцідзёнка павінна зрабіць раённыя краязнаўчыя організацыі здольнымі праводзіць паўдарнаму, пад кіраўніцтвам партыі, адказьнейшую работу на культурным фронце. Партыйныя і савецкія організацыі павінны падабраць кіруючыя кадры раённых краязнаўчых бюро і краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, у навучальных установах, якія-б здольны былі змагацца за пролетарскую ідэолёгію. Патрэбна канчаткова аформіць раённыя бюро краязнаўчых організацый, якія-б сыстэматычна кіравалі краязнаўчымі ячэйкамі, дапамагаючы ім у іх практычнай працы, абагульваючы і пашыраючы іх удалы вопыт.

Плянавае вывучэньне раёну, выходзячы з плянавых заданьняў раённага выканаўчага камітэту — ударная задача ўсёй краязнаўчай працы раёну, на выкананьне якой павінны быць мобілізаваны ўсе колы раённых работнікаў для поўнага выканьня гэтай адказьнейшай і неабходнай задачы ў выкананьні пяцігодкі ў чатыры гады.

Раённы музэй і на сягоньня яшчэ чужы нашаму будаўніцтву. Усімі сіламі неабходна ўтварыць наш савецкі раённы музэй, ілюструючы ўсе бакі разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, дапамагаючы організацыі мас для далейшага наступленьня.

Сыстэматычная навукова-дасьледчая праца на заводзе, абагульненьне ўсяго вопыту ў організацыі вытворчасьці, рацыяналізацыя яе, скарыстаньне вынаходніцва, скарыстаньне рабочых прапаноў, організацыя працы, організацыя быту, вывучэньне рэволюцыйнай барацьбы пролетарыяту—задача штодзённай працы заводзкай краязнаўчай ячэйкі, організацыю якіх на прадпрыемствах неабходна скончыць як найхутчэй. Выходзячы з конкрэтных задач пяцігадовага пляну таго ці іншага раёну павінна разгортвацца і школьнае краязнаўства.

Разгортваньне краязнаўчай працы сярод студэнцтва, органічная ўвязка краязнаўчай працы з вытворчай практыкай студэнцтва—дасьць новых інструктароў-організатараў краязнаўчай працы на заводзе.

Краязнаўчыя організацыі на мясцох, працуючы пад кіраўніцтвам парторганізацыі, строга ўвязваючы сваю працу з мясцовымі організацыямі, павінны безадкладна пабудаваць пляны свае працы, разьлічаныя на ўдарныя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва.

Рашуча адмятаючы шкодніцкі, варожы, нацдэмаўскі элемэнт, краязнаўчыя організацыі навінны стаць масавымі ўдарнымі організацыямі—у выкананьні лёзунгу партыі „Пяцігодка ў чатыры гады".

Перабудаваць працу, ліквідаваць прарывы, адкінуць паніку, трусасьць, хвасьцізм, опортуністычныя „об'ектыўныя ўмовы", — баявая задача краязнаўчых організацый, якія павінны працаваць пролетарскім мэтодам ўдарнага наступленьня.

*В. Серафімаў.*

**В. Самцэвіч.**

# Пастановы XVI зьезду ЎсеКП(б) і задачы краязнаўчых організацый.

XVI зьезд УсеКП(б) у сваіх пастановах адзначыў, што СССР за пэрыод паміж XV і XVI зьездамі партыі ўвайшоў „у паласу *гіганцкага разгортваньня социялістычнага будаўніцтва*". Правільная ленінская політыка ЦК партыі забясьпечыла магутны размах і разьвіцьцё нашай социялістычнай індустрыі, хуткі тэмп якой стварыў базу для социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі; правільная політыка ЦК забясьпечыла вялізарны ўздым вытворчага энтузыязму ў рабочых масах, што дало магчымасьць партыі паставіць перад сабой вялікую задачу—выканаць пяцігодку ў чатыры гады. Вялізарныя посьпехі партыі ў разьвіцьці социялістычнае індустрыялізацыі краіны, у социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, у значным палепшаньні матар'яльнага і культурнага ўзроўню рабочае клясы (пры вялікім яе колькасным росьце) дасягнуты партыяй у барацьбе і перамозе труднасьцяй, стаяўшых на шляху социялістычнага будаўніцтва. Гэтыя труднасьці ў нас, у адрозьненьне ад капіталістычных краін, былі труднасьцямі росту, а не заняпаду. Яны выцякалі ў нас з патрэбы карэннай перабудовы нашай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі на аснове сучаснай тэхнікі; гэтыя труднасьці—труднасьці социялістычнай перабудовы прамысловасьці і сельскае гаспадаркі. Яны павялічваліся яшчэ ўзмацненьнем супраціўленьня кулацтва, шкодніцтва з боку буржуазнай інтэлігенцыі ды інш. Прысьпешаньне тэмпаў социялістычнага будаўніцтва і разгортваньне наступленьня па ўсяму фронту—асноўная ўмова пасьпяховай і хуткай перамогі памянёных труднасьцяй.

Грандыёзныя задачы нашага социялістычнага будаўніцтва вызначаны ў конкрэтных пастановах зьезду па справаздачы ЦК, па дакладу т. Куйбышава аб выкананьні пяцігадовага пляну прамысловасьці і па дакладу т. Якаўлева аб колгасным руху і павышэньні сельскае гаспадаркі. Выкананьне гэтых задач магчыма толькі пры ўмове максымальнага ўдзелу ў социялістычным будаўніцтве „дзесяткаў і сотняў тысяч, мільёнаў перадавых пролетараў і ўцягненьня мільённых мас рабочае клясы і бядняцка серадняцкіх мас колгаснага сялянства ў практычную работу па социялістычнаму будаўніцтву".

Цяперашні рэконструкцыйны пэрыод социялістычнага будаўніцтва, зьвязаны з наступленьнем социялізму на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту, патрабуе рашучай перабудовы работы ўсіх масавых організацый для найлепшага выкананьня задач, пастаўленых партыяй перад рабочай клясай і ўсімі працоўнымі масамі нашага Саюзу. Рашуча павінна быць перабудавана і работа нашых краязнаўчых організацый,

якія ў пераважнай сваёй большасьці не займаліся пытаньнямі соцыялістычнага будаўніцтва, не змагаліся за генэральную лінію партыі, а выконвалі часта заказ клясавага ворага пролетарыяту, працавалі пад ідэёвым кіраўніцтвам і ўплывам контр-рэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму.

Краязнаўства, як форма соцыялістычнага будаўніцтва, як форма навукова-дасьледчай работы мільёнаў працоўных, павінна быць цалкам падпарадкавана задачам соцыялістычнага будаўніцтва. Краязнаўчыя організацыі павінны прымаць самы актыўны ўдзел у ажыцьцяўленьні пастаноў партыі, у выкананьні пяцігодкі ў чатыры гады.

Якія-ж конкрэтныя задачы краязнаўчае работы выцякаюць з пастаноў XVI зьезду ЎсеКП(б)?

Спынімся спачатку на канечна патрэбнай і магчымай для краязнаўчых організацый рабоце ў галіне прамысловасьці.

У рэзолюцыі зьезду па дакладу т. Куйбышава аб выкананьні пяцігадовага пляну прамысловасьці падкрэсьлена, што „важнейшай умовай форсаванага разьвіцьця прамысловасьці і ўсяе народнае гаспадаркі ўцалку зьяўляецца ўзмацненьне і пашырэньне энэргетычнай базы Саюзу“ да разьмераў, патрэбных для бесьперабойнага разгортваньня прамысловасьці і ўсяе народнае гаспадаркі ва ўсіх раёнах. Краязнаўчыя організацыі павінны ўзяць на сябе абавязак *выяўленьня ўсіх мясцовых энэргетычных рэсурсаў* (пакладаў торфу, мясцовага вугалю, воднай энэргіі рэк і інш.). Краязнаўчыя організацыі павінны стаць выведчыкамі ўсіх мясцовых крыніц энэргіі. У мэтах „зьмягчэньня і потым поўнай ліквідацыі дэфіцыту апалу“ і максымальнага павялічэньня яго здабываньня краязнаўчыя організацыі павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на вывучэньне вялікіх пакладаў па ўсёй БССР торфу для скарыстаньня яго на нашых фабрыках і заводах, электрастанцыях і г. д. для паліва, а таксама і для прамысловых мэтаў.

Надзвычайна вялікае значэньне ў нашым Саюзе набывае „пасьлядоўнае правядзеньне хэмізацыі ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі ў напрамку разгортваньня ў форсаваных тэмпах вырабу штучных угнаеньняў і сродкаў барацьбы са шкоднікамі сельскае гаспадаркі“... Для выкананьня гэтае пастановы зьезду нашы краязнаўчыя організацыі могуць шмат чаго зрабіць у справе выяўленьня ва ўсіх раёнах БССР *пакладаў фосфарытаў, вапнякоў* і інш., яшчэ далёка нявыяўленых і нявывучаных у належнай ступені.

Тэмпы разьвіцьця нашай прамысловасьці зьяўляюцца вельмі шпаркімі; у наступныя гады пяцігодкі яны павінны яшчэ больш павялічыцца, а тым часам тэмпы геолёга-выведчае справы да гэтага часу адставалі і адстаюць ад тэмпаў разьвіцьця прамысловасьці, што не дае магчымасьці належнага разгортваньня пэўных галін прамысловасьці з прычыны несваечасовага выяўленьня і падрыхтоўкі мінэральнай сыравіны. Дзеля гэтага асабліва важнае значэньне набывае той пункт пастановы зьезду, дзе гаворыцца, што „забясьпечаньне разьвіцьця народнае гаспадаркі высоўвае канечную патрэбу надаць такія тэмпы геолёга-выведчай справе, якія павінны значна выперадзіць тэмпы разьвіцьця прамысловасьці з мэтай заўчаснай падрыхтоўкі мінэральнай сыравіны“.

Выведку па выяўленьні *мінэральнай сыравіны* могуць весьці ня толькія спэцыяльныя навукова-дасьледчыя ўстановы (Геолёгічны Інстытут БАН, Горны Аддзел ВСНГ), але і краязнаўчыя організацыі ў сваіх раёнах. Дзеля гэтага яны павінны дакладна азнаёміцца з вы-

нікамі ўсіх папярэдніх досьледаў па вывучэньні прыродных выкапняў у сваіх раёнах і з плянамі дасьледчае работы ВСНГ і Геолёгічнага Інстытуту. Цэнтральныя дасьледчыя ўстановы з свайго боку павінны ў поўнай меры выкарыстаць работу краязнаўчых організацый, як першапачатковых выведчых ячэек. У дасьледчую работу па выяўленьні мінэральнай сыравіны і прыродных багацьцяў нашай краіны павінны быць уцягнуты самыя шырокія колы працоўных (рабочыя, колгасьнікі, комсамольцы і інш.).

З году ў год павялічваецца ў нас будаўніцтва магутнейшых фабрык, заводаў, электрастанцый, рабочых гарадоў і г. д. Індустрыялізацыя народнае гаспадаркі патрабуе вялікіх тэмпаў разьвіцьця *будаўнічых матар'ялаў* (лес, цэмант, гліна і г. д.). Нам необходна выявіць на месцы ўсе віды матар'ялаў, прыдатных для рознага роду будаўнічых работ, запасы гэтых матар'ялаў і іх якасьць, магчымасьці дастаўкі ў пункты будаўніцтва і г. д. У гэтым напрамку мясцовыя краязнаўчыя організацыі могуць зрабіць вялікую і карысную работу, патрэбную для нашай дзяржайнай і коопэрацыйнай прамысловасьці.

„Улічваючы выключнае значэньне зьніжэньня сабекошту прамысловай продукцыі і кошту будаўнічага індэксу ў справе прысьпешаньня тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва", XVI зьезд УсеКП(б) у сваіх пастановах прапануе „асаблівую ўвагу ў практычнай рабоце прамысловасьці аддаць пытаньням соцыялістычнай рацыяналізацыі па лініі барацьбы за лепшую організацыю вытворчасьці, павялічэньня продукцыйнасьці працы, найбольш рацыянальнага скарыстаньня сыравіны, матар'ялаў, апалу і абсталяваньня, па лініі барацьбы са стратамі ў вытворчасьці і звароце, што павінна забясьпечыць выкананьне плянавых заданьняў па сабекошту пры абавязковым палепшаньні якасьці продукцыі". (З рэзол. аб выкананьні пяцігадовага пляну прамысловасьці). У гэтай пастанове зьезду яскрава і конкрэтна вызначаны тыя пытаньні, якімі на кожным прадпрыемстве павінны займацца і фабрычна-заводзкі „трыкутнік", і вытворчыя нарады рабочых, і інжынэрна-тэхнічны склад, і мясцовы друк, і кожны рабочы паасобку. Пытаньнямі *соцыялістычнай рацыяналізацыі, найлепшай організацыі працы, павялічэньня продукцыйнасьці працы, найбольш рацыянальнага скарыстаньня сыравіны, апалу і абсталяваньня, барацьбы са стратамі ў прамысловасьці і поўнага выкананьня прамфінпляну* павінны займацца і нашы краязнаўчыя організацыі, у першую чаргу—краязнаўчыя гурткі на прамысловых прадпрыемствах, увязваючы сваю работу з работай усіх фабрычна-завадзкіх організацый у мэтах сапраўднай дапамогі гэтым організацыям у выкананьні і перавыкананьні плянавых заданьняў. Сыстэматычная навукова-дасьледчая работа ў справе соцыялістычнай рацыяналізацыі пры самым шырокім і актыўным удзеле ў ёй саміх рабочых, ударнікаў, вынаходцаў вельмі патрэбна. Яна можа і павінна выявіць тыя шляхі і спосабы, якімі можна дасягнуць рацыяналізацыі ў вытворчасьці.

Краязнаўчыя організацыі аднэй з сваіх задач павінны паставіць пытаньне глыбокага вывучэньня і шырокай популярызацыі практыкі *рацыяналізатарскіх дасягненьняў* у дзяржаўных прадпрыемствах Саюзу з мэтай *абмену* гэтай практыкай. XVI зьезд УсеКП(б) паставіў проблему наладжаньня ўзаемаадносін паміж буйнай дзяржаўнай прамысловасьцю і прамысловасьцю дробнай, мясцовай і саматужнай, якая (асабліва коопэраваная), „разьвіваючы вытворчасьць рыначных вырабаў, павінна разам з тым быць дадаткам да буйнай прамысловасьці, выпрабляючы

па яе заданьнях рад дэталяй і поўфабрыкатаў і вызваляючы тым самым абсталяваньне буйнай прамысловасьці ад такіх вытворчых опэрацый, якія могуць быць выкананы ў дробных саматужных і рамесьніцкіх прадпрыемствах“. Вывучэньне організацыйна-вытворчых сувязяй і *ўзаемаадносін паміж буйнай дзяржаўнай і дробнай мясцовай і саматужнай прамысловасьцю* на сучасным этапе разьвіцьця социялістычнае народнае гаспадаркі зьяўляецца вельмі патрэбнай задачай у мэтах узмацненьня скарыстаньня ўсіх наяўных вытворчых магчымасьцяй і павялічэньня тэмпаў разьвіцьця прамысловасьці. Краязнаўчыя організацыі павінны ўзяцца за вывучэньне, у якой ступені, у якіх формах і ў якіх умовах дробная, мясцовая і коопэраваная прамысловасьць можа быць выгадным дадаткам да буйнай дзяржаўнай прамысловасьці.

XVI зьезд партыі вызначыў таксама і цэлы рад конкрэтных задач у справе далейшай социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. У выращэньні гэтых вялікай важнасьці задач сусьветна-гістарычнага значэньня краязнаўчыя організацыі разам з усёю рабочаю клясаю, колгасьнікамі, батрацтвам і бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі павінны прыняць самы актыўны ўдзел.

На аснове разгорнутай колектывізацыі і будаўніцтва буйных саўгасаў партыя ўжо вырашыла найцяжэйшую збожжавую проблему. Шляхам разьвіцьця колектыўнае і дзяржаўнае гаспадаркі партыя мае мажлівасьць вывесьці з труднасьцяй, непераможных для дробнае гаспадаркі, і ўсе іншыя галіны сельскае гаспадаркі — жывёлагадоўлю, тэхнічныя культуры і інш.

Выходзячы з канечнай патрэбы хуткіх тэмпаў колектывізацыі, вызначаных пастановай ЦК ад 5/I-1930 г. і пацьверджаных на практыцы, XVI зьезд партыі прызнаў патрэбным „карэнным чынам перагледзець пяцігадовы плян разьвіцьця сельскае гаспадаркі“, каб адначасова з прысьпешаным разьвіцьцём збожжавых і тэхнічных культур забясьпечыць „узмоцненае *разьвіцьцё жывёлагадоўлі* шляхам перш за ўсе організацыі спэцыяльных жывёлаводных саўгасаў аналёгічна збожжасаўгасам, масавага стварэньня высока-гатунковых колгасных фэрм і хуткага пашырэньня кармовай базы“. (З рэзол. аб колгасн. руху і павышэньні сельскай гаспадаркі).

Перагляд пяцігадовага пляну разьвіцьця сельскае гаспадаркі СССР патрабуе перагляду плянаў і паасобных раёнаў, вывучэньня іх прыродна-эканомічных умоў, вызначэньня характару тых гаспадарак, што організуюцца (гародна-малочныя, сьвінаводныя і г. д.). У гэтай вялікай і вельмі адказнай рабоце пачэснае месца павінны заняць і краязнаўчыя організацыі разам з гаспадарчымі і плянуючымі ўстановамі раёнаў.

XVI зьезд партыі даручыў Сел.-Гаспадарчай Акадэміі імя Леніна „распрацаваць пытаньне аб рацыянальным разьмяшчэньні сельскае гаспадаркі на тэрыторыі СССР па галінах, культурах; аб замене менш выгадных культур больш выгаднымі культурамі“ і інш. Гэта дасьледчая работа, якая будзе мець вялізарнейшае практычнае значэньне ў сэнсе атрыманьня найлепшага эканомічнага эфэкту ў социялістычнай сельскай гаспадарцы, ужо распачата, у яе ўцягнуты ўсе дасьледчыя с.-г. установы, дасьледчыя станцыі, у ёй прымаюць і будуць прымаць актыўны ўдзел масы колгасьнікаў, рабочыя саўгасаў, беднякі і серадпякі вёскі. Ва ўсіх раёнах БССР праводзіцца вывучэньне найлепшых для кожнага раёну, сельсавету, колгасу або саўгасу гатункаў

розных культур у мэтах правільнага гатунковага раёнаваньня (аж да паасобных буйных дзяржаўных ці колектыўных гаспадарак) культур у залежнасьці ад кліматычных, глебавых і інш. умоў. У гэту работу павінны неадкладна ўключыцца і ўсе мясцовыя краязнаўчыя організацыі.

У сувязі з пастановай зьезду аб тым, што т. зв. „спажываючая паласа" (а значыць і БССР—*В. С.*) у бліжэйшыя гады павінна быць ператорана ў „важнейшы малочна-гародна-сьвінаводны і ільняны раёны" на аснове разьвіцьця саўгасаў і колгасаў, партыйныя організацыі пры дапамозе адпаведных гаспадарчых, плянуючых і дасьледчых установ і організацый павінны ўзмацніць работу па выпрацоўцы „тыпу буйнае гаспадаркі ў галінах, характэрных для даных раёнаў"... Работа нашых краязнаўчых організацый павінна быць і накіравана якраз на выяўленьне тыпу буйных гаспадарак у розных раёнах БССР і на падвядзеньне пад іх належнай тэхнічнай базы. Нашы краязнаўчыя організацыі павінны таксама зьвярнуць вялікую ўвагу на вывучэньне коопэрацыйных організацый бядняцка-серадняцкага сялянства (пасялковыя т-вы, вытворча-збытавыя коопэрацыйныя аб'яднаньні) і таварыстваў па колектыўнай апрацоўцы зямлі, якія павінны быць пераходнымі формамі да с.-г. арцелі. Краязнаўчыя організацыі павінны выявіць найлепшыя мэтоды пераводу найпрасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў у с.-г. арцелі для выкарыстаньня гэтых мэтодаў для практычнай работы.

Практычная работа краязнаўчых організацый па выкананьні пастаноў XVI зьезду партыі ў справе колгаснага будаўніцтва выцякае з тых задач і проблем, якія партыя ў даны момант паставіла перад сабой і ўсёй рабочай клясай, а менавіта: „задача далейшага ўцягненьня ў колгасы бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак на добраахвотных асновах, проблема організацыі працы ў колгасах, разьмеркаваньня ўраджаю ўнутры колгасу, проблема падрыхтоўкі кадраў, павышэньня культурнага ўзроўню колгасных мас, перамогі дробна-буржуазных хістаньняў унутры колгасаў, усямернага замацаваньня колгасаў, як апорных пунктаў соцыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы". Гэтыя задачы ставяць цэлы рад зусім акрэсьленых тэм для навукова-дасьледчае і практычнае карыснае работы краязнаўчых організацый па колгаснаму будаўніцтву.

Правільная політыка партыі і яе ЦК забясьпечыла пасьпяховы пераход раздробленых сялянскіх гаспадарак на рэйкі буйнага соцыялістычнага земляробства, пасьпяховае „разгортваньне *суцэльнай колектывізацыі і пераход да практычнага ажыцьцяўленьня лёзунгу ліквідацыі кулацтва, як клясы*". Краязнаўчыя організацыі павінны выявіць актыўны ўдзел у ажыцьцяўленьні гэтага лёзунгу, павінны заняцца дэталёвым вывучэньнем клясавай барацьбы ў вёсцы, вывучэньнем форм і мэтодаў гэтай барацьбы (асабліва з боку кулацка-капіталістычных элемэнтаў), што патрэбна нам для практычных мэт пасьпяховага разгортваньня соцыялістычнага наступленьня.

Краязнаўчыя організацыі павінны займацца таксама і вывучэньнем пытаньняў, зьвязаных з ажыцьцяўленьнем *культурнай рэволюцыі*, як аднэй з найважнейшых проблем рэконструкцыйнага пэрыоду (ліквідацыя няпісьменнасьці, правядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня, вызваленьне мас ад рэакцыйнага ўплыву рэлігіі, інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне і г. д.).

Рабочая кляса пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі з надзвычайным творчым уздымам выконвае пастановы XVI зьезду партыі,

разгортваючы соцыялістычныя мэтоды працы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва, вядучы рашучую барацьбу з шкодніцтвам, прадажнасьцю буржуазнай інтэлігенцыі, са скажэньнямі лініі партыі, адкідаючы ўсе нягодныя элемэнты, якія сваімі тэорыямі і практыкай перашкаджаюць і затрымліваюць пасьпяховы рост соцыялізму. У соцыялістычнае будаўніцтва ўцягваюцца мільённыя масы колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства, якое ідзе за рабочай клясай па шляху соцыялістычнага будаўніцтва. Краязнаўчыя організацыі, як масавыя організацыі, павінны таксама прыняць самы актыўны, самы дзейны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве, у выкананьні практычных і неадкладных задач соцыялістычнага будаўніцтва, вызначаных XVI зьездам партыі.

Ф. П. Садоўскі.

# Выкарчаваць контр-рэволюцыйныя нацдэмаўскія ўстаноўкі ў экономічных пытаньнях.

Удзел шырокіх рабочых і працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве—неабходнейшая ўмова пабудаваньня соцыялістычнага грамадзтва. Вышукаць розныя формы прыцягненьня шырокіх працоўных мас да ўдзелу ў гэтым будаўніцтве—наша першачарговая задача. Аднэй з форм гэтага ўдзелу зьяўляецца савецкае краязнаўства. Ужо з сказанага выяўляецца роля і значэньне савецкага краязнаўства ў соцыялістычным будаўніцтве краіны.

Уся шкоднасьць, уся варожасьць беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму ў краязнаўстве заключаецца, іменна ў тым, што ён усімі спосабамі імкнуўся праз краязнаўства адцягнуць увагу шырокіх мас ад удзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, зацямніць іх галовы мінуўшчынай, старасьветчынай, царкоўшчынай, і гэтым шляхам, побач з непасрэднай шкодніцкай контр-рэволюцыйнай работай па падрыхтоўцы інтэрвэнцыі супроць СССР, імкнуўся зьнішчыць краіну дыктатуры пролетарыяту, утварыць сваю капіталістычную БНР.

Задача ўсёй грамадзкасьці і навукі па даным этапе заключаецца ў тым, каб, ваяўніча змагаючыся і выкрываючы рэшткі беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, выяўніча змагаючыся за марсыцка-ленінскі мэтод у экономіцы,—мобілізаваць удзел шырокіх мас у соцыялістычным будаўніцтве народнай гаспадаркі. Дасягнуць гэтага мажліва толькі дасканалым вывучэньнем і ваяўнічым змаганьнем з ўстаноўкамі нацдэмаў ва ўсіх галінах тэорыі і практыкі, у тым ліку і ў экономічных пытаньнях.

Устаноўкі нацдэмаў у экономічных пытаньнях мы бяром для крытыкі ў тым іх выглядзе, у якім яны зьмяшчаліся нацдэмамі ў краязнаўчым часопісе „Наш Край", які, да слова сказаць, быў імі сапраўды зроблены трыбунай для публічнай пропаганды і агітацыі сваіх контр-рэволюцыйных поглядаў, „тэорый", установак. Зразумела, гэты часопіс, як орган не спэцыяльна экономічнага характару, ня можа даць дэталёвай экономічнай програмы нацдэмаў ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, але-ж і па тых экономічных матар'ялах, якія зьмяшчаліся ў часопісе „Наш Край", можна вывесьці пэўныя, контр-рэволюцыйныя ўстаноўкі нацдэмаў у экономічных пытаньнях.

Выявіць гэтыя ўстаноўкі, з відавочнасьцю паказаць шырокім масам рабочых, колгасьнікаў, батрацтва, беднаты, серадняцтва, савецкай інтэлігенцыі і вучнёўскай моладзі ўсю контр-рэволюцыйнасьць гэтых установак,—мы і ставім задачай гэтага артыкулу.

Для таго, каб уявіць сабе экономічную програму беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, неабходна спыніцца на агульных яго ўстаноўках, неабходна перш за ўсё высьветліць чым тлумачацца тыя абставіны, што беларускія нацыянал-дэмократы ўвесь час нылі аб тым, што савецкая сыстэма ня спрыяе іх працы ў архівах па адшуканьню элемэнтаў мінуўшчыны, самабытнасьці; і старажытнасьці; чым тлумачыцца, што іх імкненьні, іх сымпатыі накіроўваліся да буржуазнага капіталістычнага Захаду, да адрыву ад РСФСР і потым СССР.

Гэта становіцца зусім зразумелым пасьля выяўленьня тых паводзін махровага контр-рэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму, якія характэрны для іх у часы панаваньня на БССР цьвёрдай рукі окупанта—спачатку нямецкага, а потым польскага.

Калі выявіць тут іх настроі, калі выявіць тут устаноўку нацыянал-дэмократаў, іх шчырае прывітаньне і цьвёрдага нямецкага окупацыйнага бота, які тут таптаў Рабоча-Сялянскую Беларусь, і разьюшанага белапольскага окупанта, які зьдзекваўся над рабочымі і сялянамі Беларусі,—то стануць зусім зразумелымі іх адносіны да савецкай сыстэмы. Тут неабходна напомніць паводзіны беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму ў часе нямецкай окупацыі; неабходна прывесьці ўсім вядомы надзвычайна важны докумэнт аб тым, як Сакратарыят Беларускай Нацыянальнай Рады зварачаўся да Вільгельма II. У гэтым докумэнце нацдэмы констатуюць, што, паколькі Беларускі ўрад, як прадстаўнік беларускага народу, не падпісваў Берасьцейскага дагавору, пастолькі ня можа быць і гутаркі аб тым, што Беларусь застаецца ў складзе РСФСР. Яны ўніжана просяць, каб квітнела буржуазная Беларусь пад міласэрдным протэктаратам Германскай Імпэрыі, пад аховай яго імпэратарскай вялікасьці кайзэра Вільгельма II, бо толькі пад яго протэктаратам, на думку махровага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, можа разьвівацца буржуазная Беларусь, беларуская нацыя і г. д. Вось тэкст гэтага агіднага докумэнту:

„Яшчэ ў 1918 г. БНР зьвярнулася да Германскай Імпэрыі з просьбай аб прызнаньні акту незалежнасьці БНР, выданага 25 сакавіка, палагаючыся на тое, што Берасьцейскі мір заключаны і ад імя Беларусі, якая тады зьяўлялася часткай Рас. фэдэрацыі і ратыфікаваны ўрадам, дзейнічаўшым без упаўнаважаньня Беларусі, павінен быць перагледжаны. БНР выказвае сваю ўпэўненасьць, што ў гэтым напрамку яна сустрэне спачуваньньне нямецкага ўраду і, дзякуючы гэтаму, дасягне свае галоўнае мэты—дзяржаўнага аб'яднаньня беларускага народу. Рада, як выбраная прадстаўніца беларускага народу, зьвяртаецца да вашай імпэратарскай вялікасьці са словамі глыбачайшай падзякі за асвабаджэньне Беларусі нямецкімі вайскамі з цяжкага ўціску, чужога пануючага зьдзеку і анархіі. Рада БНР дакляравала незалежнасьць цэльнае і незалежнае Беларусі і просіць вашую імпэратарскую вялікасьць аб абароне ў яе кіраваньнях дзеля ўмацаваньня гасударственнай незалежнасьці і недзялімасьці краю ў зьвязі з Германскай імпэрыяй. Толькі пад абаронай Гэрманскай імпэрыі бачыць край сваю добрую долю ў будучыні“.

Прадажная палітыка контр-рэволюцыйных нацдэмаў яшчэ больш яскрава выяўляецца ў паводзінах іх ў часе польскай окупацыі. Калі Пілсудзкі прыбыў у Менск, зграя беларускіх нацыянал-дэмократаў прывітала яго. Тут справа ня толькі ў тым, што яго віталі. Ня ў гэ-

тым справа. Часам здараецца, што слабейшы вітае больш моцнага, каб вызваліцца ад яго кулака, ад яго ўціску і г. д. Але справа ў тым, што яны пасьля прывітаньня даказалі Пілсудзкаму сваю шчырую адданасьць тым, што назаўтра пасьля прывітаньня яны вербавалі беларускія легiёны для барацьбы супроць, як яны называлі „Маскоўкоўскага імпэрыялізму, прыбраўшагася на гэты раз у чырвоную адзежу бальшавізму". Вось гэтае прывітаньне Пілсудзкага вуснамі А. Гаруна:

„Пану начальніку дзяржавы польскай,—стаўшаму на яго „роднай зямельцы Беларусі". Ужо шосты тыдзень, як мы жывем спакойным жыцьцём. Разьвеяўся чырвоны туман, разьвеялася відма галоднай сьмерці. Гэты цуд ёсьць дзела польскага гэроічнага войска, якога вы ёсьць начальнікам... выслаўляю гарачую падзяку за звальненьне Менску і Меншчыны ад новага цяжкага нападу Маскоўскага імпэрыялізму, які на гэты раз прыбраўся ў бальшавіцкую вопратку. Але плачуць яшчэ маткі ў Віцебску, стогнуць людзі ў Магілеве, маўчыць, бо забаронен, хаўтурны голас у імшэлых граніцах Смаленску. Мы верым і спадзяемся, што разам з вольнымі Менскам, Вільняй і сівай Гародняй вольнымі і шчасьлівымі будуць выратаваны вольнай і незалежнай Белар. Рэспубліцы нашы адвечныя астрогі на рубяжох Масквы—Віцебск, Магілеў і стары Смаленск. Гэтага мы спадзяемся, у гэта мы верым, а гэтай верай і надзеяй абдараваў нас братні народ, якога слаўнаму прадстаўніку гатовы мы сказаць на Меншчыне ня толькі нашае сягоньнешняе „дзякуй", але і заўсёды здароў будзь! Прыходзь да нас, наш гасьцю мілы, суседзе дарогі".

Гэты самы контр-рэволюцыйны поэт Алесь Гарун па загаду нацыянальнага камітэту Беларускай Рады сам удзельнічаў у вайсковай справе, сам стаяў на чале вайсковай камісіі, вербаваў беларускае насельніцтва, беларускую моладзь у шэрагі польскай арміі для „вызваленьня" Беларусі ад чырвонага імпэрыялізму, ад бальшавізму.

Калі прыняць пад увагу іх устаноўкі, іх імкненьні ў свой час пазбавіцца ад бальшавізму, дык для нас будзе зразумела іх агульная ўстаноўка на рэстаўрацыю капіталізму, на „вольную", тах званую, капіталістычную буржуазную Беларусь. Зразумела будзе ўся тая дзікая нянавісьць, якую яны адчувалі ды Чырвонай Маскоўшчыны, якую яны адчувалі да бальшавікоў, да ўсёй савецкай сыстэмы. Напэўна зразумела будзе і тое, што ва ўсіх навуковах галінах — і гісторыяграфічнай, і экономічнай, і літаратурнай, і мовазнаўчай і інш.—нацдэмы ненавідзелі бальшавіцкую РСФСР, клічачы і вядучы да буржуазнага капіталістычнага фашысцкага захаду. Вось чаму зразумелаю будзе ўстаноўка нацдэмаў у галіне экономічных пытаньняў, якая заключаецца ў імкненьні іх да рэстаўрацыі капіталізму, ці то ў выглядзе „прышчэпаўшчыны", якую яны выслаўлялі, ці то ў выглядзе непасрэднай падрыхтоўкі інтэрвэнцыі капіталістычнага сьвету супроць СССР. Прыкрываючыся старажытнасьцю, мінуўшчынаю, ідэалізуючы далёкае мінулае, беларускую своеасаблівасьць і самабытнасьць, нацдэмы цягнулі да капіталізму. Іх концэпцыя яскрава выражана вуснамі Лёсіка, гэтага тыповага прадстаўніка махровай беларускай контр-рэволюцыі, які ў свой час пісаў у савецкім афіцыйным часопісе, што выдаваўся Наркамасьветы і насіў назву „Вольны Сьцяг". У гэтым часопісе Лёсік пісаў:

**„І вось, выяўляючы духоўную істоту свайго народу, нашае пісьменства павінна бараніць сваю народнасьць ад захватніцкіх імкнень-**

няў (сьвядомых і несьвядомых) дужэйшых за нас суседзяў. Чаму? Таму, што—„Народ беларускі цяпер стаў цёмным і бедным. Няма яму простору, каб выявілася яго здатнасьць. Багатая зямля яго радзіла не яму, як не яму служаць здабыткі новачаснай культуры. Ён як стаў, так яшчэ і досі застаецца толькі гноем, каб на ім маглі вырастаць пышныя кветкі чужое культуры, выпіваючы з яго ўласнага грунту ўсе сокі жывыя“.

Вось адкуль гэтая самабытнасьць літаральна па ўсіх пытаньнях, вось куды цягне Лёсік пры вялізарным патураньні нацыянал-опортуністых на чале з Ігнатоўскім, Баліцкім і інш. Зразумелы і ўсе тыя размовы, што экономічнае разьвіцьцё БССР пачынаецца ня з прыходам савецкай улады, не пасьля Кастрычніка 1917 г., а значна раней, з часоў „Нашай Нівы“ і г. д. Зразумелы нацдэмаўскія скавытаньні Лёсіка аб тым, што нібыта разьвіцьця беларускага народу да гэтага ня было, што беларускі народ да гэтага часу быў толькі гноем для расквітненьня іншых, мацнейшых культур.

У краязнаўчай галіне нацдэмы ўвесь час выходзілі з неабходнасьці захоўваць беларускую самабытнасьць, знаходзячы яе ў тых мясцох, куды не дайшла яшчэ гарадзкая культура—палескіх куткох Беларусі: у Мазыршчыне, Случчыне, Бабруйшчыне. „Высьвятленьне пановаму старых куткоў нашае мінуўшчыны і вышукваньне новых куткоў—адна з важных задач сучаснага краязнаўства на Беларусі“. Рост вытворчых сіл, іх соцыялістычнае разьвіцьцё амаль ня цікавілі нацдэмаў, якія кіравалі краязнаўствам у БССР да канца 1930 г. Вось чаму ўвесь час яны крычаць на старонках часопісу аб нацыянальным разьвіцьці вольнай Беларусі, разумеючы пры гэтым, мусіць, толькі не Савецкую Беларусь, як гэта неабходна заключыць з вышэйпрыведзеных фактаў. У першым нумары часопісу яны так і гавораць аб разьвіцьці вольнае Беларусі на грунце нацыянальнага самавызначэньня: „...разьвіваючыся экономічна і політычна на грунце нацыянальнага самавызначэньня, вольная Беларусь, пашыраная ў сваіх межах, мае магчымасьць пазнаць сама сябе“. Зразумела, зьбіраючы фольклёр, зьбіраючы розныя этнографічныя „пэрлы“, контр-рэволюцыйны нацыянал-дэмократызм ня мог абыйсьці разьвіцьця вытворчых сіл, але вывучаць іх дасканала ў пэўным соцыялістычным напрамку было ня ў мэтах нацдэмаў, вось чаму далей фіксацыі паасобных момантаў, апісаньня фактаў справа ў гэтай галіне ня ішла.

Артыкул Васілеўскага „Стагодзьдзе краязнаўчай працы“ зьяўляецца свайго роду програмай, праўда, ня менш, чым і артыкул Касьпяровіча „Наша Ніва“ і краязнаўства“. Аўтары пішуць, што сапраўдным краязнаўствам зьяўляецца мінуўшае, старажытнае, самабытнае. Аўтары пералічаюць цэлы шэраг матар'ялаў паліцэйскіх і фіскальных устаноў, матар'ялаў ахранкі і г. д., і ўсё гэта падносяць масаваму чытачу, масаваму ўдзельніку краязнаўчых організацый, як чысьцейшай вады краязнаўства. Вось што гаворыць Васілеўскі ў гэтым артыкуле, значнае месца з якога патрэбна працытаваць для яскравасьці:

> „звыклі думаць, што краязнаўства гэта гісторыка-археолёгічнае дасьледваньне краю, вывучэньне яго мінулага. А за гэтым нашы краязнаўцы жаляцца на недахоп літаратуры і, асабліва, ведаў аб працы па дасьледваньні Беларусі ў мінулым. Звычайнай зрабілася скарга, што Беларусь зусім не дасьледваная старонка, што на Беларусі няма каштоўнасьцяй культуры, багацьцяў, пры-

гожасьці прыроды....пакуль краязнаўцы скардзяцца на недахоп друкаваных крыніц,—найкаштоўнейыя кнігі пра Беларусь стаяць на паліцах бібліотэк, пад пылам даўных гадоў... Патурбаваны сялянскім непакоем генэрал-губарнатар князь Хаванскі яшчэ ў 1824 годзе пісаў цару, што адзінай мерай да ўздымку краю ў лепшы стан і паляпшэньня цяжкага палажэньня сялян ёсьць утварэньне Вольна-Экономічнага Таварыства. Мэта таварыства—паляпшэньне сельскае гаспадаркі і дамаводзтва на Беларусі. Клопаты панства перад царскім урадам аб адчыненьні на Беларусі земляробскай школы высунулі проект організацыі земляробскага вучыліща ў Горках, якое было адчынена ў 1840 годзе...

Другім вынікам дзейнасьці Беларускага Вольна-Экономічнага Таварыства было выданьне ў 1841 годзе першага краязнаўчага зборніку пад назвай „Летопись Белорусского Общества сельских хозяев"... Самы цікавы артыкул „Флора Витебской губернии". З гэтага часу друкаваньне прац па краязнаўству шырака распаўсюдзілася па Беларусі.

У палове XIX сталецьця Беларусьсю цікавіцца вайсковае міністэрства царскага ўраду, як мажлівым тэатрам вайны; пачалася паласа вайсковых досьледаў Беларусі; пачаткам яе можна лічыць выданьне вядомай кніжкі ген. М. Бэз-Карніловіча „Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ней-же относящихся". Кніга гэтая надрукавана ў 1855 годзе друкарняй „III отд. собств. ЕИВ канцелярии"...

Пасланыя на Беларусь афіцэры генэральнага штабу пільна працавалі, і з 60-х гадоў пачалі зьяўляцца ў друку іх „труды" пад агульнай назвай „Материалы для географии и статистики белорусских губерний". Віленская, Горадзенская, Менская, Смаленская губэрні апісаны добра афіцэрамі генэральнага штабу, а для Віцебскай і Магілеўскай губэрань гэту працу закончыць давялося Губэрскім Статыстычным Камітэтам. Вучонымі рэдактарамі тут былі губарнатары: у Віцебскай губ. князь В. М. Доўгарукаў, а па Магілеўскай губ. віцэ-губ. А. С. Дамбавецкі. Губарнатарскія выданьні ня згубілі сваёй вартасьці і ў нашы дні. Пакуль няма лепшых выданьняў—можна карыстацца фактычнымі матар'ялам гэткіх „казенных" выданьняў.

Дзейнасьць статыстычных камітэтаў на Беларусі заслужыла ўвагу сучасных краязнаўцаў. Пад фірмай статыстыкаў працавалі прыраджэнцы Бэларусі, якія часта запраўды любілі сваю бацькаўшчыну і шчыра працавалі на карысьць роднага краю.

Вышаўшы з працоўнае Беларусі, але атрымаўшы расійскую адукацыю, дасьледчыкі з беларусаў падваіліся ў сваёй працы. Афіцыяльныя пасады і мэты буржуазнае навукі цягнулі іх у бок Расійскай дзяржавы, але замілаваньне да роднага краю і культуры схілялі іх да Беларусі. У іх працах адчуваецца недагаворанасьць. Пачыналі яны на расійскі лад, а ў канцы міжвольна выходзілі на праўду і дагаварваліся часам, як А. П. Сапуноў, да прызнаньня самастойнай культуры і мовы беларуса, да яе асьветніцкай ролі ў Масковіі".

Розныя таварыствы з дасьледчымі мэтамі ўтвараліся на Беларусі з даўных часоў. Брацтвы і цэхі мелі сваімі другараднымі мэтамі дасьледваньне свайго кутка Беларусі, царкоўныя

брацтвы ня толькі адчынялі школы, бібліотэкі, а і зьбіралі, захоўвалі старыя рэчы, граматы.

У Вільні пачала друкавацца іскарка беларускага адраджэньня—„Наша Доля, „Наша Ніва“, залажыліся выдавецкія суполкі. Ад Вільні не адставаў Менск і другія куткі Беларусі. Працоўныя пачалі вывучаць Беларусь на карысьць яе культуры. Варушэньне рабочага люду Беларусі пачула беларуская інтэлігенцыя розных колераў. Мэтамі сабе таварыства ставіла: а) „сачыць за посьпехамі прыродазнаўчых і гістарычных навук; б) пашыраць прыродазнаўчыя, гістарычныя, экономічныя веды сярод насельніцтва; в) устанаўляць гістарычныя і прыродазнаўчыя музэі; г) займацца вывучэньнем прыродных умоў краю, яго фаўны, флёры, мінэралёгіі, глебы, мэтэоролёгіі, этнографіі, экономікі; д) адшукваць і распрацоўваць гістарычныя матар'ялы да мінуўшчыны краю“.

Зразумела, што гэта не магло не адбіцца на характары ўсёй працы, у тым ліку і экономічнай, краязнаўчых організацый БССР. Характэрна адзначыць тут яшчэ адну абставіну, што фактычна і ў экономіцы, і ў гісторыяграфіі, і ў краязнаўстве нацыянал-дэмократы даводзілі, што не Кастрычнікавая рэволюцыя дала магчымасьць займацца экономікай, гісторыяграфіяй, краязнаўствам, а „нашаніўская“ пара зьявілася пачаткам беларускага „адраджэньня“.

Тут мы маем такое становішча, што ў кіруючых артыкулах аб зьмесьце краязнаўчай працы даецца ўстаноўка „Нашай Нівы“, амаль даслоўна з яе даюцца ўказаньні аб вывучэньні асаблівасьцяй беларускага жыцьця. Вось гэтыя ўстаноўкі па артыкулу Касьяровіча „Наша Ніва“ і краязнаўства“. Для паўнаты і тут прыводзім хоць доўгую, але патрэбную цытату.

„У першую чаргу меркавалася выяўляць усе асаблівасьці беларускага жыцьця. „Наша Ніва“ лічыла, што „кожны лёгка зразумее, якую цану павінна мець для нас кожная беларуская асобнасьць, дзе-б яна ні спаткалася, ці то як прыкраса, ці то як форма грамадзкага жыцьця; усюды, дзе-б мы ні спаткалі гэту родную асобнасьць, орыгінальнасьць, мы павінны берагчы і захоўваць, а хто дуж—разьвіваць і шырыць“. Па сялянскіх палескіх хатках крыецца бязьмернае багацьце народнага орнамэнту ў дрэве, тканінах і вырабах з кары. Урэшце, ня гледзячы на тагочасныя цяжкія ўмовы, „Наша Ніва“ манілася з'організаваць сваю ўласную выстаўку. „Нам, беларусам, трэба пільна зьбіраць і парадкаваць кожную рэч, якая мае на сабе знак аздобніцтва, бо гэта знак нашай роднай культуры“, пісала яна. Вось-жа ўжо жменя тутэйшых людзей надумала ўстроіць на другі год беларускую выстаўку, каб паказаць людзям, што і беларусы мелі і маюць як у штодзённым жыцьці, так і ў артыстычных вырабах нешта сваё роднае, асобнае, што і яны адчуваюць патрэбы красы ў сваёй шэрай долі.

Большае месца, зразумела, займала грамадзка-экономічнае вывучэньне краю, якое больш адпавядала задачам культурна-нацыянальнага адраджэньня, г. зн. задачам самой газэты. З гэтай прычыны яна вельмі ахвоча адгукнулася на думку чытача Аніські аб правядзеньні гутарак з сялянамі на тэму: „Хто мы

такія“; вынікі гэтых гутарак газэта мела друкаваць на сваіх старонках.

Па думцы „Нашай Нівы“, навучны запіс вымагае: 1) запісваць слова ў слова так, як пяецца песьня, нічога не перарабляючы, не адкідаючы і не дадаючы, ды стараючыся аддаць у запісі выгавар і ўдарэньні; 2) словы незразумелыя для запісваючага або мала зразумелыя адзначыць і ў вынасцы запісаць, як іх разумее той, хто пяе, гэтак сама рабіць трэба і з незразумелым сэнсам песьні, асобамі, успамінанымі ў песьні, а калі песьня гістарычная, то і тое, як разумее той, хто пяе, данае гістарычнае здарэньне; 3) пад кожнай песьняй павінна быць запісана, хто яе пяяў, колькі яму гадоў, граматнасьць яго, селянін, мешчанін ці шляхціч, вёска, воласьць, павет, губэрня, дзе запісана песьня. Гэтак сама трэба апісаць і голас (ноту) песьні, хто яго дыктаваў і хто запісваў.

Вялікую заслугу зрабілі-б людзі (і) для народнай беларускай літаратуры, каб запісалі ўсё, што ведаюць аб батлейках, яcьлях, „казе“, „мядзьведзі“, „цыганох“ і т. д., у каторых адбілася і этнографія нашага краю, і гумар, і псыхіка нашага народу“. „У „казе“, „мядзьведзі“ засталіся перажыткі дахрысьціянскіх часоў; у гэтых гульнях, як у люстры, адбіваецца старасьвецкая паганская вера беларускага племені“.

У галіне культурна-гістарычнага вывучэньня краю „Наша Ніва“ асабліва клапацілася аб выяўленьні і ахове помнікаў старасьветчыны. Даўшы, напр., агляд курганоў Беларусі, як помнікаў нашай старасьветчыны, паведаміўшы аб тым, што знаходзілі ў курганох вучоныя, вытлумачыўшы вялікае значэньне курганоў для беларускай навукі, газэта заклікала: „Браткі-сяляне, шануйце гэтыя магілы-курганы, бо тут ляжаць косьці нашых дзядоў. Не разоруйце іх бяз лішняй патрэбы, не раскапвайце, бо гэта справа вучоных-археолёгаў“. Далей, „Наша Ніва“ цікавілася пахаджэньнем беларусаў, зьбірала апавяданьні, успаміны аб паншчыне і г. д. Тутака да рэчы трэба адзначыць, што яна надрукавала першую беларускую гісторыю і што гэты факт у гісторыі беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня меў вялікае значэньне.

Такім чынам, з усяго вышэйсказанага відаць, што „Наша Ніва“ была першым беларускім краязнаўчым цэнтрам. Яна вызначала задачы беларускай краязнаўчай працы, друкавала парады, програмы, інструкцыі і анкеты, зносілася з вялізным лікам мясцовых краязнаўцаў, старалася каардынаваць іх працу, атрымлівала масу краязнаўчых матар‘ялаў з месц і ўтварала з іх агульна-беларускі музэй і навукова-краязнаўчы архіў, арганізоўвала выстаўкі-конкурсы і г. д. Асаблівае значэньне краязнаўчай чыннасьці „Нашай Нівы“ складаецца з таго, што яна, наперакор польскай і рускай краязнаўчай працы на Беларусі, якая мела мэтаю „поработить“ беларусаў або пад польскага пана, або пад рускага цара, распачала беларускую краязнаўчую працу з мэтаю нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня беларускага народу“.

Гэта, па сутнасьці, і была генэральная ўстаноўка ў краязнаўчай працы.

У радзе краязнаўчых артыкулаў наццэмаў цікава адзначыць замілаваньне беларускасьцю.

Кармянскі ў сваім артыкуле „30 дзён дэмографічнага перапісу" асабліва вялікае месца адводзіць проста беларускаму нацыяналізму, альбо шовінізму, асьмейвае быт аднэй вёскі стараверау, маскалёў і захлёбваючыся расказвае аб тым, якую ён адчувае асалоду, чуючы беларускую мову.

„Нашу мілагучную і прыгожую песьню „Сорам дзеўцы, сорам краснай" там сьпяваюць на свой лад, з сваім вымаўленьнем слоў і акцэнтам.

Добрыя, прыгожыя галасы неяк асабліва падкрэсьлівалі: „поздна вечирам гулять"...

— Дзяўчаткі, прасьпявайце якую-небудзь беларускую песьню! — папрасілі мы з таварышом, жыхаром Сьвяцку.

— А нет, мы ужь лучьшы-та сваю спаем... — і сьпявалі пра нейкую дзяўчыну, якая „чирис каво-та в гроп пашла..."

— Ну, дык, дзяўчаты, пойдзем на вёску? — прапанавалі мы „масковачкам".

Тыя пераміргнуліся паміж сабою і адна з іх заўважыла:

— Чиво мы там не бачили? Шчо бы которая з іх в фізію заехала?... Ну іх...

— Чаму вы лічыце сябе вялікарусамі? — запытаўся я, канчаючы апытваць.

— Хто ево знаіт. Самі то мы народівшись тут, в Беларусі... Может деды когда в Московщіне былі. А язык то у нас свой, чыстый, — дадаў ён з гонарам.

Такое-ж захлёбваньне, нацыянальная гордасьць беларускага нацыянал-дэмократа чуецца ў Азбукіна ў яго артыкуле „Краязнаўства ў Марыйскім краі", дзе ён, гаворчы аб дасягненьнях у краязнаўчай рабоце краю, заяўляе: „Зразумела, у Марыйскім краі няма такіх дасягненьняў, таго размаху краязнаўста, зразумела, размах другі, бо маштабы ня тыя, як у Беларусі".

„Зразумела, што марыйскія музэі далёка адсталі ад Менскага Дзяржаўнага Музэю, але пры ацэнцы марыйскіх дасягненьняў трэба помніць марыйскі маштаб, а галоўнае — адсутнасьць буйных культурных асяродкаў, слабую сувязь з знадворным сьветам і спрадвечную адсталасьць гэтага глухога невялікага кутка, забітага царскім урадам".

Пераходзячы конкрэтна да экономічных твораў нацыянал-дэмократаў, неабходна падзяліць устаноўку ў гэтых экономічных творах на тры асноўныя пэрыоды, характарыстыка якіх будзе зразумела, калі паставіць у сувязь экономічную програму нацыянал-дэмократаў з агульнай устаноўкай на капіталістычную рэстаўрацыю Беларусі. Першы пэрыод—да рашучага наступленьня соцыялізму ў галіне сельскай гаспадаркі, гэта, прыкладна, да XV зьезду ЎсеКП(б), Тады, разглядаючы НЭП, разам з сусьветнай буржуазіяй, як пераход да капіталізму, ускладаючы вялікія надзеі на „прышчэпаўшчыну" з яе ўстаноўкай на хутарызацыю, на капіталістычнае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі, нацыянал-дэмократы Беларусі акрыліліся надзеяй, што ў выніку пашырэньня НЭП'у на вёсцы, у выніку ажыцьцяўленьня „прышчэпаўшчыны", Беларусь Савецкая сама сабою перародзіцца ў капіталістычную краіну.

Індывідуальная сялянская гаспадарка, хутарская ці атрубная, зьяўляецца базай для росту капіталізму, — гэта добра разумелі нацдэмы, і таму гэты пэрыод трэба лічыць пэрыодам надзвычайнага росквіту экономічных „пэрляў", экономічных твораў нацыянал-дэмократаў.

Другі пэрыод—гэта пэрыод ад XV-га зьезду да канца 1929 году, калі рашуча стала ажыцьцяўляцца пытаньне аб суцэльнай колектывізацыі, аб соцыялістычным наступленьні па ўсіх франтох. Гэты пэрыод характарызуецца поўным „нашаніўствам" у экономічных творах: пасыўнасьць, замоўчваньне актуальных задач соцыялістычнага будаўніцтва з боку контр-рэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму.

І, нарэшце, трэці пэрыод, калі нельга ўжо было не гаварыць у экономічных творах аб будаўніцтве соцыялізму, аб суцэльнай колектывізацыі, аб соцыялістычнай рэконструкцыі прамысловасьці. У экономічнай літаратуры, якая зьмяшчалася ў „Нашым Краі" ў гэты пэрыод, мы наглядаем зьмяшчэньне артыкулаў экономічнага характару, дзе ўпамінаецца неабходнасьць і будаўніцтва соцыялізму. Але цікава, што гэтыя артыкулы зусім не мобілізуюць мас на сапраўдны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве. Кідаецца ў вочы ўбогасьць гэтых артыкулаў, адсутнасьць мобілізацыі волі мас, імкненьня іх да будаўніцтва соцыялізму. Замест гэтага ў іх простае апісаньне, пералічэньне фактаў, упамінаньне аб саўгасах ці колгасах. Зьдзіўляе адсутнасьць пэўнага ўяўленьня аб гаспадарчым разьвіцьці колгасаў і саўгасаў, адсутнасьць асноўнай устаноўкі ролі коопэрацыі. Праводзіцца капіталістычнае разуменьне с.-г. коопэрацыі. Вось чым у агульных рысах характарызуецца кожны з указаных пэрыодаў у экономічных творах беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму.

Асноўная маса дырэктыў Цэнтральнага Бюро Краязнаўства і ў гэты пэрыод складалася таксама з „славутай" самабытнасьці, старажытнасьці. У гэтых дырэктывах, як і раней, ігноруецца неабходнасьць удзелу краязнаўчых організацый у соцыялістычным будаўніцтве народнай гаспадаркі. У артыкуле „Што рабіць раённым краязнаўчым таварыствам" за 1926 г. аўтар указвае на неабходнасьць апісаньня паверхні, гідрогеографіі, кліматычных умоў, расьліннасьці, глебы, жывёлагадоўлі, археолёгіі і гісторыі, на неабходнасьць апісаньня быту насельніцтва па розных нацыянальных групах, мовазваротаў, грамадзкіх адносін і асабліва (падкрэсьлена амаль не ва ўсіх разьдзелах) на неабходнасьць апісаньня помнікаў, касьцёлаў, цэркваў, каплічак, сынагог і г. д., плянаў зямельных плошчаў, хутароў, бюджэту сялян, заможнага, серадняка, бедняка; але зусім не даецца дырэктывы апісваць ні плянаў колгасаў, ні бюджэтаў колгасьнікаў.

Далей, у 1927 г. даецца дырэктыва запісваць народныя паданьні, аповесьці, організоўваць вечары ўспамінаў, прысьвечаных гісторыі краю, апісаць археолёгічныя помнікі, раскопкі і г. д. Як відаць з прыведзенага, у гэтых дырэктывах зусім не ўпаміналася аб соцыялістычным будаўніцтве данага раёну, аб пашырэньні соцыялістычных элемэнтаў у данай мясцовасьці, бо гэта пярэчыла програме, поглядам і ўстаноўцы контр-рэволюцыянэраў нацдэмаў, якія кіравалі тады краязнаўчай працай БССР, пры недапушчальным патураньні нацыянал-опортуністых.

У 1928 годзе ЦБК наладжвае выстаўку. Можа выстаўку дасягненьняў у галіне соцыялістычнага будаўніцтва? Нічуць ня бывала. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства наладжвае выстаўку фотографічных

здымкаў, прычым на выстаўцы дэмонструецца ўсё тая-ж мінуўшчына, далёкая сівая старасьветчына.

„Выстаўка мае па мэце: а) выявіць дасягненьні ў справе фотографаваньня і зарысоўваньня розных раёнаў БССР, а таксама запасы краязнаўчых ілюстрацыйных матар'ялаў; б) зьвярнуць увагу на значэньне рысунку і фотографіі для краязнаўчай працы“.

Клапоцяцца нацдэмы і аб вывучэньні хатніх рамёстваў. Выдаецца інструкцыя, у якой павінна было быць закранута пытаньне аб росьце вытворчых сіл і г. д. На справе-ж даецца дырэктыва аб тым, што рамяство вывучаецца з пункту погляду яго паходжаньня, яго мінуўшчыны; запісваюцца легэнды, казкі, песьні, якія зьвязаны з гэтым рамяством, і толькі ў адным месцы ўпамінаецца аб неабходнасьці падаць сваю думку ў Цэнтральнае Бюро Краязнаўства аб магчымасьці мэханізацыі рамяства ў Савецкай Беларусі.

„Кожнаму мясцоваму дасьледчыку можа зьявіцца шырокая мажлівасьць сабраць каштоўны апісальны матар'ял ад дзядоў і баб аб тым, як пралі і ткалі ў старыя гады, а таксама запісаць біографіі мясцовых больш здатных ткачоў і ткачых, дадаўшы, калі гэта мажліва, і фотографічныя здымкі і абавязкова запісаць паданьні, павер'і, прыкметы, пагаворкі, песьні, частушкі, казкі, якія зьвязаны з даным рамяством, альбо ў якіх яно адбіваецца, а разам з гэтым і абрады, напрыклад, пры навучаньні дзяўчат прадзеньню і г. д. Высьветліць мажлівасьці мэханізацыі гэтага рамяства. „Дайце поўнае апісаньне процэсу тканьня: а) утварэньне зева, б) праца рук (пракідваньне чаўнака і прыбіваньне ўточных нітак бёрдам і набілкамі), в) праца ног (кіраваньне нітамі), г) ужываньне пругоў, д) спусканьне ўтку з задняга навою і навіваньне палатна, е) спосаб замацаваньня навояў.

*Увага:* Пры апісаньні процэсу тканьня неабходна вельмі падрабязна адзначаць функцыі асобных дробных частак, напрыклад: панажоў, нітоў, набілак, сабачак, блёкаў і інш. Пакажэце, як канчаецца процэс тканьня і як вымаецца палатно. Дзе яно захоўваецца да часу бяленьня“.

Цікава адзначыць тое, што ўстаноўка Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускай Культуры ня мае зусім конкрэтных паказаньняў, конкрэтных шляхоў садзейнічаньня і актыўнага ўдзелу ў разьвіцьці вытворчых сіл краіны ў напрамку росту соцыялізму. Нагогул соцыялістычнае разьвіцьцё краіны зусім забываецца, затое тут-жа ў канцы 1928 г. ужо ў каторы раз даецца дырэктыва аб апісаньні помнікаў, аб запісе нацыянальнай народнай творчасьці, аб апісаньні замкаў, запісе прыказак і казак, песьняў калядных, вясельных, русалкавых, хрэзьбінных і г. д. Тут, як і заўжды, няма сучаснага патрэбнага, чым павінен жыць кожны, чым павінна было займацца Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.

Чыя тут рука дзейнічала, чыя тут устаноўка праводзілася? Займайся чым хочаш, толькі не разьвіцьцём вытворчых сіл у соцыялістычным напрамку, займайся чартаўшчынай, усякімі замовамі, але ня справай пабудовы соцыялізму ў Савецкім Саюзе. Вось які вывад мы павінны будзем зрабіць з таго, што тут прыведзена.

1929 год таксама ня прынёс зьмен у характары дырэктыў мясцовым організацыям. У артыкуле: „Чарговыя задачы краязнаўства“ мы маем таксама поўнае ігнораваньне актуальных пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва. Тут гаворыцца аб мэтодах працы ў інтарэсах

падрыхтоўкі рабочых кадраў, аб сэмінарыях, аб зьездах, аб сувязі з акруговымі таварыствамі, аб зьбіраньні для выстаўкі народных тканін, аб папулярызацыі краязнаўства ў разуменьні нацдэмаў і абсолютна нічога не гаворыцца аб перабудове краязнаўчай працы ў напрамку савецкага краязнаўства, як формы масавага ўдзелу шырокіх колаў насельніцтва—рабочых, колгасьнікаў, батрацтва, беднаты і серадняцтва—у соцыялістычным будаўніцтве.

Пераходзячы зараз да зьместу экономічных твораў у першы пэрыод, у пэрыод пашырэньня НЭП'у на вёсцы, у пэрыод „прышчэпаўшчыны", трэба заўважыць, што нацыянал-дэмократы добра зразумелі, што праз „прышчэпаўшчыну", праз пашырэньне НЭП'у на вёсцы Беларусь можа прыйсьці да непасрэднай рэстаўрацыі капіталізму праз дробныя сялянскія гаспадаркі. Вось тут пачынаецца, уласна кажучы, праца нацыянал-дэмократаў па прапагандзе „прышчэпаўшчыны".

Кісьлякоў у артыкуле „Тып беларускай сялянскай гаспадаркі" дае конкрэтна тую гаспадарку, якая ў яго ўяўленьні павінна быць у Беларусі, але для якой трэба ўтварыць пэўныя ўмовы, бо пры савецкай сыстэме, па думцы Кісьлякова, спрыяючых умоў няма. Бярэцца з 14 абсьледваных для гэтага раёнаў адна з гаспадарак заможна-серадняцкая і па ёй выводзіцца тып сялянскай гаспадаркі. Перш за ўсё—гэта тып індывідуальнай гаспадаркі, заможнай гаспадаркі, якая павінна перарасьці ў кулацкую гаспадарку. Што-ж ён гаворыць тут? Ён гаворыць наступнае:

> „Кожная сялянская гаспадарка для атрыманьня найвышэйшага прыбытку павінна быць дакладна прыстасована да тых умоў, у якіх яна знаходзіцца. Знадворных умоў, ад якіх залежыць будова гаспадаркі, надта многа: тут і прыродныя ўмовы (глеба, вільгаць, колькасьць сонцавай энэргіі і яе разьмеркаваньне на працягу году і г. д.); тут і юрыдычныя ўмовы (правы землекарыстаньня, арэнды, права найму, дадатковае працоўнае сілы і г. д.). Сялянскія гаспадаркі, ня гледзячы на іх індывідуальныя адзнакі, маюць у межах тае ці іншае краіны, раёну агульныя рысы і належаць да аднаго і таго-ж тыпу. Селянін заплаціў падатку—41,29 жытн. адз. Ці ня многа гэта? Пры тым стане гаспадаркі, у якім яна цяпер знаходзіцца,—бязумоўна многа; і падатак гэты зьяўляецца ня толькі арэнднай платай (рэнтай), якую селянін павінен плаціць дзяржаве, а і падаткам на сялянскі капітал (маемасьць)".

Вось той тып сялянскай гаспадаркі, які нацыянал-дэмократамі даецца, як самы пажаданы для іх, мілы іх сэрцу тып гаспадаркі.

Гэты-ж Кісьлякоў не забывае і с.-г. коопэрацыі, але-ж надае ёй чыста капіталістычнае значэньне, як спосаб, які дасьць мажлівасьць селяніну-кулаку выгадней прадаць продукты сельскай гаспадаркі праз прывядзеньне, шляхам некаторай іх апрацоўкі, у больш выгодны выгляд. Перабудоўчага соцыялістычнага значэньня с.-г. коопэрацыі нацдэмы вуснамі Кісьлякова не прызнаюць.

> „Гаспадар разам з суседзямі аб'яднаецца ў с.-г. коопэратыў, які дапаможа яму больш выгодна прадаць продукты жывёлагадоўлі, а таксама прывесьці іх, шляхам нязначнай апрацоўкі, у больш каштоўны выгляд. Гаспадар пашырыць высеў траў на нізкіх і цяжкіх глебах і высеў бульбы на лёгкай глебе, што дасьць яму магчымасьць лепш карміць жывёлу".

Самцэвіч у артыкуле сваім пад назвай: „Вывучэньне вёскі—неадкладная задача краязнаўства“, пяе дыфэрамбы і пропагандуе на ўсе лады мілую сэрцу нацдэмаў „прышчэпаўшчыну“, хутарызацыю.

„Шмат якія вёскі расьсяліліся цяпер на хутары і на пасёлкі, дзе жыцьцё ўжо ідзе інакш, чым ішло раней у самай вёсцы. Вёска з яе звычаямі і традыцыямі ўсіх уцягвала ў адно жыцьцё, прымушала ўсіх жыць і гаспадарыць аднолькава старымі спосабамі. Зараз зьнішчаецца цераспалосіца, паляпшаецца тэхніка сельскай гаспадаркі, ствараецца новы тып земляроба-культурніка. Так, напр., мяшчанска-шляхецкія элемэнты вёскі выдзяляліся з „мужыцкай“ масы і сваёй вопраткай, і сваімі звычаямі, і сваімі хатнімі ўмовамі жыцьця. Мяшчанска-шляхецкія сем'і цягнуліся да местачковай і гарадзкой культуры, пераймалі матар'яльную і духоўную культуру гарадзкога мяшчанства. „Мужыцка“-сялянскія групы насельніцтва трымаліся сваіх вясковых парадкаў і звычаяў. І толькі моладзь, якая ўхадзіла на адхожыя промыслы, на фабрыкі, на чыгункі, вярнуўшыся да сваіх хат, уносіла элемэнты быту рабочае клясы. Наогул трэба сказаць, што вёска перажывае момант, калі нязвычайна хутка вымірае стары ўклад яе жыцьця і нараджаецца новы лад, новыя формы гаспадаркі і быту, нарастае новая ідэолёгія, новая поэзія вёскі. У гэты момант зьяўляецца вельмі неабходным вывучэньне вёскі ў яе пераходным становішчы. Для будаўніцтва гаспадаркі на новых асновах трэба знаць усе экономічныя ўмовы, становішча сельска-гаспадарчай тэхнікі, культурнасьць насельніцтва, а таксама і тыя традыцыі, якія маюць месца ў тэй ці іншай вёсцы“.

У гэтым артыкуле Самцэвіч пяе дыфэрамбы хутарской „прышчэпаўскай“ беларускай вёсцы, у хутарох ён бачыць крок наперад у экономічным разьвіцьці вёскі. Характэрны для Самцэвіча і агульны падыход да сялянства. Сялянства ён падзяляе не паводле клясавай прыметы, але паводле станавай на „шляхту“ і на „мужыкоў“. Трэба сказаць, што Самцэвіч у гэтым артыкуле гаворыць аб пераломным моманце вёскі, гаворыць аб новым пачатку ў вёсцы, але як відаць з яго ўстаноўкі ў пачатку артыкулу, гэта пераломны момант для вёскі—хутарызацыя „прышчэпаўшчына“, капіталістычнае перараджэньне. Абсолютна не гаворыцца, забываецца Самцэвічам, што пераломны момант для вёскі не хутарызацыя сялянскай гаспадаркі, а колектывізацыя праз сыстэму вытворчага коопэраваньня. У гэтым артыкуле 1927 г. т. Самцэвіч зьяўляецца яскравым выяўнікам нацыянал-дэмократычнай экономічнай програмы.

У гэты-ж пэрыод пачынаюцца ў сельскай гаспадарцы досьледы НДІ пад кіраўніцтвам нацдэма гора-акадэміка Гарэцкага, які, гаворачы аб рабоце дасьледчага інстытуту, абсолютна не ўспамінае аб досьледах у соцыялістычным сэктары народнай гаспадаркі. Увесь час ён гаворыць аб дасьледчыках-сялянах, аб індывідуальных досьледах індывідуальных сялянскіх гаспадарак. Заўжды бярэцца об'ектам дасьледваньня па дырэктыве ЦБК сялянскі двор.

Надзвычай характэрны докумэнт—артыкул Квяткоўскага. У гэтым артыкуле выражаецца захлёбваючаеся схіленьне контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму перад распусьціўшым сваё павуціньне і акутаўшым акружаючае сялянства запраўскім кулаком уладаром гаспадаркі „Фатынь“ Язэпам Марозам. Вось што пішацца ў артыкуле: „Фатыньская гаспадарка і яе значэньне“.

„Выдатным, вельмі цікавым і навучальным кутком у Лепельшчыне і бадай ва ўсім нашым краі трэба прызнаць фальварак Фатынь, які ляжыць на паштовым тракце „Старое Сяло Лепля“ ў 30 в. ад гораду. Фатынь уваходзіў калісь у лік зямельных угодзьдзяў езуітаў, а затым пры „сэквістры“ іх маёнткаў, гэты фальварак дастаўся сярод іншых маёнткаў, аднаму расійскаму чыноўніку Мэрлінгу... У 1888 годзе Язэп Мароз адкупіў фальварак Фатынь у чыноўніка Мэрлінга. Язэп Мароз разьбіў гаспадарку на тры часткі: а) садоўніцтва, б) гародніцтва і в) пчалярства... У 1890 г. коняй было сталых—8, кароў—15 і маладняк, але праца звычайна ішла, як і раней, па сыстэме трохпольнага севазвароту. Толькі з 1900 году Язэп Мароз зусім узмацніўся, меў ужо каля 40 штук кароў і каля 12 сталых коняй. З таго часу ён пачаў зьмяняць севазварот, але ня так хутка. Перш-на-перш пачаў сеяць канюшыну, віку і інш... З 1900 да 1903 г. Язэп Мароз і яго сыны пасадзілі з уласнага гадавальніка каля 8 дзесяцін саду... Гадавальнік разьведзены на 4000 шт. Ён здавальняе ня толькі патрэбы гаспадароў, але служыць, галоўным чынам, мэтай збыту... Асабліва добрым яблыкам для гандлю зьяўляецца паласаты яблык пад назвай „Штрэйфлінг“, які расьце вялікім і моцным... Для аколічнага сялянства фатыньская гаспадарка зьяўляецца як-бы ўзорнай. Штодзённая праца ў садзе зацікавіла ўсё сялянства; яны прыходзілі да Мароза, і ён даваў ім тую ці іншую параду, як і што рабіць... Капуснай рассадай гаспадар здавальняў усю аколіцу. Да яго прыяжджалі сяляне за 30 в. купіць добрага гатунку расады капусты, з якой выраcталі дужа вялікія качаны... Ёсьць у цяпліцах шмат гатункаў розных кветак, але гандлю на іх бадай няма. Налічваецца вульляў больш 40 і ўсе яны вышэйшай конструкцыі, пад назвай „Маларасійская дуплянка“ профэсара Куланды, якая ў добрыя гады дае больш прыбытку ад рамачных... Да апошняга часу ён карыстаўся 5-ціпольным севазваротам, а ўжо ў 1925 годзе ён перашоў на 9-ціпольны севазварот... З прылад да апрацоўкі зямлі гаспадар Мароз мае наступныя: дзіскавых барон—2, спрунж.—2, плугоў-сакоўскіх—2, плугоў простых парачных—6, барон драўляных—4 пары і інш... У фальварку Фатынь ёсьць уласныя майстэрні: а) сталярня, кузьня, сьлясарня і пераплётная, у якіх працуюць сыны гаспадара Мароза, яны навучыліся самі майстраваць на ўсе рукі... Не забыўся т. Мароз адчыніць мэтэоролэгічную станцыю, якая існуе ўжо больш як 20 год. Колькасьць душ у фальварку Фатынь сваіх—24, яны разьмяркованы так: дарослых мужч.—7, жанч.—7 і дзяцей—10... Нанятых усяго трое“.

З паданае вынятку яскрава відаць, як павукападобна сьсе сокі гаспадарка гэтага кулака з ваколічнага сялянства. Пытаньне збыту расады. Расадай Мароз забясьпечвае аколіцу ў радыусе 30 вёрст, прыяжджаюць да яго, кланяюцца яму, плацяць тыя грошы, што ён патрабуе, карыстаючыся монополіяй, якую яму прыпісалі нацдэмы і Прышчэпаў „культурнага гаспадара“.

Вось самая ўзорная, самая прыймальная для контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму сялянская гаспадарка. Але ўзорнасьць яе будзе зразумела тады, калі напомніць аб двух шляхох разьвіцьця сельскай гаспадаркі—капіталістычным і соцыялістычным. Усе гаспадаркі такімі, як гаспадарка Мароза, ня могуць быць, такая гаспадарка можа быць толькі на падставе выціскаyьня сокаў, высмоктваньня крыві з дзесяткаў і соцен бядняцкіх гаспадарак.

З рашучым пераходам на рэйкі колектывізацыі наглядаецца заняпад экономічнай думкі контр-рэволюцыянэраў нацыянал-дэмократаў.

Гэта надзвычай характэрна. Характэрна адзначыць, што мястэчка „Пагост“ апісваецца выключна з пункту погляду гісторыі старажытнасьці. Тое самае наглядаецца і ў апісаньні раду іншых мястэчак. Аб разьвіцьці вытворчых сіл гэтых мястэчак, аб клясавых узаемаадносінах у гэтых мястэчках амаль нічога не гаворыцца ў экономічнай літаратуры другога пэрыоду.

У артыкуле Троські: „6 экскурсій па гор. Магілеву“ гэтаму гораду, які ў нашых умовах зьяўляецца больш-менш прамысловым цэнтрам, рэкомэндуецца пайсьці не на фабрыкі і заводы, а па цэрквах, касьцёлах, сынагогах і г. д. Вось якую чартаўшчыну раяць глядзець экскурсантам па г. Магілеву. Зусім забываюцца на тое цікавае, што так і б‘е крыніцай, што дае аб сабе знаць і адчуваць, забываюцца на соцыялістычнае будаўніцтва.

У той-жа пэрыод Кавалёнак піша аб культуры хмелю на Беларусі і характэрна тое, што гаворачы пра хмелеводзтва на Беларусі, у прыватнасьці пра яго разьвядзеньне, ён абсолютна не закранае магчымасьці разьвядзеньня хмелю ў сельскай гаспадарцы соцыялістычнага сэктару—у колгасах. Ён бярэ індывідуальную гаспадарку, бярэ кулацкую прамысловую гаспадарку Салаўёва з Бялынкавіцкага раёну і гаворыць, што толькі Салаўёў (чытай адзінаасобнік, кулак), які ведае гэтую справу, можа разьвіваць хмелеводзтва. Экономічнага аналізу выгоднасьці хмелеводзтва на Беларусі Кавалёнак не дае.

Адносна прадзіва і ткацкага рамяства, як ужо гаварылася, цікавіліся ня самым фактам, наколькі данае рамяство ўплывае на разьвіцьцё вытворчых сіл краіны, на палепшаньне матар‘яльных умоў жыцьця паасобных груп насельніцтва, але бярэцца гісторыя рамяства і толькі ў канцы для сьмеху ўстаўлена пытаньне пра думкі наконт магчымасьці мэханізацыі прадзіва на Беларусі. Дасьледчыкі прадзіва і ткацтва больш цікавіліся легэндамі, паданьнямі, забабонамі, якія зьвязваюцца з гэтым рамяством у насельніцтве.

Такія-ж недахопы мае артыкул Лур‘е „Экономіка Віцебшчыны“. Ён, даючы ўсебаковае апісаньне фактаў, забываецца на важнейшыя экономічныя мерапрыемствы, накшталт—чаму Віцебшчына характэрна тым, што там каля 75% землеўпарадкаваных за савецкай уладай перайшлі на хутары пры дробнай зямельнай плошчы, якая ў гэтым роля „прышчэпаўшчыны“ і самога Прышчэпава, які да ўзбуйненьня БССР кіраваў там зямельнай політыкай.

Наогул у экономічных творах гэтага пэрыоду можа кінуцца ў вочы чытачу агульны падыход да сялянства вёскі ў Беларусі „бясклясавасьць“, агульна-нацыянальны падыход, процістаўленьне, што беларусы працоўныя сяляне—земляробы, яўрэі пераважна гандляры (Шпілеўскі і Бабровіч аб Койданаве, Самцэвіч аб м. Багушэвічах).

„Жыхары мястэчка—мяшчане займаліся землеробствам, яўрэі выключна гандлем, а татары—вырабам скур.

У 1883 годзе ў мястэчку было 5000 чалавек і 400 будынкаў.

Каля 1890—95 гадоў у Койданаве збудавалі купцы-яўрэі паравы млын, бровар і шчацінны завод для сартыроўкі шчаціны і накіроўваньня яе ў розныя гарады.

Па перапісу 1897 году ў мястэчку налічвалася 4744 чал., з якіх пераважная частка (3154) было яўрэяў. У працягу апошніх 50 гадоў яўрэяў прыбавілася на 657 чалавек.

Да 1917 г. у мястэчку ніякай коопэрацыйнай установы ня было і ўвесь гандаль знаходзіўся ў руках прыватных гандляроў—яўрэяў“.

Антысэміцкі душок так і нясе ад такіх „экономічных“ па духу нацдэмаў твораў.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што нацдэмы, зьяўляючыся махровымі контр-рэволюцыянэрамі, затушоўвалі клясавую барацьбу, накіроўвалі ўвагу шырокіх мас ад клясавай барацьбы на агульна-нацыянальную справу „адраджэньня“.

„... у процівагу расійскаму і польскаму дарэволюцыйнаму краязнаўству, стаў магутным масавым рухам на карысьць адбудовы краіны, на карысьць працоўных.

Усе галіны этнографічнай Беларусі вывучаліся ў розных краязнаўчых організацыях з розных бакоў. Такім чынам у аснове сваёй дарэволюцыйнае краязнаўства імкнулася да ўсебаковага пазнаньня Беларусі... Пасьлярэволюцыйнае беларускае краязнаўства мае задачай — усебаковае вывучэньне краю кожнай краязнаўчай організацыяй. Дарэволюцыйныя краязнаўчыя організацыі былі пераважна організацыямі беларусазнаўчымі, у той час як пасьлярэволюцыйныя зьяўляюцца выключна організацыямі краязнаўчымі, якія вывучаюць ня ўсю краіну, а кожны асобны край.

У той час як у некаторых іншых губэрнях б. Расіі краязнаўства было ў значнай меры тэорэтычным, на Беларусі краязнаўства было цалкам практычным. Менскі царкоўна-археолёгічны камітэт імкнуўся сваёй дзейнасьцю паказаць мясцоваму насельніцтву, чым яно было ў асобе сваіх продкаў у мінулыя часы, якія гістарычныя і рэлігійныя фазы перажывала на працягу сваёй шматвяковай гісторыі і адсюль — чым яно павінна быць у цяперашні час. Такім чынам задача цалкам практычная як з боку расійскага краязнаўства на Беларусі, якое імкнулася падняволіць Беларусь пад рускіх дваран, так, праўда ў іншых формулёўках, і з боку польскага краязнаўства, якое хацела падняволіць Беларусь пад уладу польскага пана... наша краязнаўства мае задачай вывучэньне краю для перабудовы яго на карысьць працоўных...“

Цікава, таварышы, што клясы не заўважаюцца ня толькі ўдзельнікамі часопісу нацыянал-дэмократамі, клясаў не заўважаюць і тыя, хто ня можа быць залічаным да нацыянал-дэмократаў, напрыклад, Кулакоў, які апісвае колькасьць кароў на двор, не бярэ жывёлы, як крытэрыю для падзелу сялянства на соц. групы, ён кажа, што кароў трымаюць для гною. Калі прыняць пад увагу, што ён даўно супрацоўнічае ў часопісу „Наш Край“, то стане зразумелым уплыў на яго нацыянал-дэмократаў.

Але „бясклясавасьць“ нацдэмаў надзвычайна і двойча клясавая, калі прыняць пад увагу ўсе паданыя вышэй іх установкі.

Што датычыцца характарыстыкі экономічных артыкулаў апошняга пэрыоду, то, я паўтараю, што яны зьяўляюцца данiною часу, без адпаведнай вартасьці, бяз пэўнай мобілізацыі мас на социялістычнае будаўніцтва. Тут мы знойдзем у інструкцыі канечную патрэбу вывучэньня разьвіцьця колгаснага руху, рад артыкулаў зьмешчана аб задачах социялістычнага будаўніцтва, аб соцспаборніцтве, як мэтоду работы. Але цікава, што ў артыкулах роля мясцовых і раённых таварыстваў зводзіцца да пасыўнага констатаваньня процэсаў, а не актыўнага ўдзельнічаньня ў самім гэтым процэсе з боку масавіка. Гэта прызнае нават сам нацдэм Трамповіч, калі ў артыкуле „Вывучэньне прыродных вытворчых сіл Беларусі“ піша:

„Агульная вывучанасьць геолёгічнага акрыцьця Беларусі нездавальняючая. Няма даных аб генэзісе паасобных выхадаў. Няма іх

эканомічнае ацэнкі і разьведкі. Таму да гэтага часу месцы выхадаў карысных выкапняў не падзелены ў залежнасьці іх значэньня і эканомічных магчымасьцяй на агульна-саюзныя, рэспубліканскія і мясцовыя.

Узоры, якія ўзяты з зарэгістраваных выхадаў, толькі часткова апрацаваны хэмічна, і мы яшчэ ня маем дасканалай якаснай ацэнкі, так неабходнай пры эксплёатацыі гэтых карысных выкапняў.

Камэральная апрацоўка ідзе надта павольна, з прычын невыстарчальнага абсталяваньня хэмічнай лябораторыі і адсутнасьці патрэбнай колькасьці штатных працаўнікоў.

Тым часам, цэлы шэраг пералічаных выкапняў, пры ўмове рацыянальнае апрацоўкі, мог-бы паступіць у эксплёатацыю і даць рэспубліцы шмат карысьці.

Асablівасьці і якасьць беларускіх глеб зусім ня вывучаны".

Зразумела, не да эканомічных твораў было тут нацдэмам, яны ў гэты пэрыод мянялі формы свае барацьбы з бальшавізмам, з ненавіснай ім савецкай сыстэмай.

Нельга абыйсьці і артыкулу аб Асінбудзе і Асінторфу. Аўтар гэтага артыкулу т. Жураўскі аддае дань нацыянал-дэмократызму ў недаацэнцы таго, што ўзрастаючыя індустрыяльныя прадпрыемствы ва ўмовах Беларусі быццам-бы ня робяць уплыву на ваколічнае насельніцтва. У яго гэта выражана так, што Асінбуд і Асінторф для асноўных сваіх работ запрашае рабочых з іншых мясцовасьцяй СССР, а дабрабыт мясцовага насельніцтва не паляпшаецца. Зразумела, такое катэгорычняе запэўненьне зьяўляецца абсолютна няправільным. Зразумела, для Асінбуду і для Асінторфу і для іншых кваліфікаваных работ запрашаецца кваліфікаваная рабочая сіла з іншых мясцовасьцяй, але асноўная маса чорнарабочай сілы бярэцца тут, на месцы, што паляпшае дабрабыт ваколічнага насельніцтва.

„Мясцовае насельніцтва аднак вельмі нязначна скарыстоўваецца на працах Асінторфу, з прычыны непрыстасаванасьці яго да працы пры тарфяных машынах. З ліку 552 работнікаў (на 15/VIII-28 году) беларусоў (з вакольных вёсак) налічвалася толькі 30 чалавек,—галоўнай масай зьяўляюцца арцелі з губэрань Разанскай (487 ч.) і Тульскай (35). Беларусы галоўным чынам капаюць канавы і расчышчаюць балота ад кустоў і дрэў. Падзённая плата работнікам ад 2 р. 50 к. да 3 р. 50 к. і за расчыстку ад гэктара ад 30 да 60 руб. З будучага году для ачысткі і паліроўкі балота выпісваецца спэцыяльная машына—фрэзэр, коштам 15-16 т. руб., якая будзе мэханізаваць працу".

У артыкуле: „Аб практычных задачах мясцовых краязнаўчых організацый у соцыялістычным будаўніцтве" тав. Самцэвіча можна падумаць ёсьць значны крок наперад у тым, што тут ставіцца пытаньне аб колектывізацыі, але конкрэтнасьці ўсё-ж такі няма. Гэтае пытаньне закранута ў агульных рысах, бяз пэўнай програмы ўдзелу ў гэтым будаўніцтве. У канцы-ж аўтар і тут сымпатызуе кулаку Марозу, пяе дыфэрамбы „прышчэпаўшчыне".

„Для пабудовы соцыялізму неабходны скарэйшы пераход сялян да колектыўных форм земляробства, да ўзбуйненьня гаспадарак. Між тым мы ня маем належнага дасьледваньня аб тым, як жывуць і працуюць колектыўныя гаспадаркі і арцелі, як ідзе рост пасёлкаў, якія перашкоды сустракаюцца на шляху да колектывізацыі і ўзбуйненьня гаспадарак. Матар'ялы ведамственных абсьледваньняў ляжаць у канцылярскіх шафах ці портфэлях. Перад краязнаўчымі організацыямі стаіць вялікай важнасьці задача заняцца ўсебаковым вывучэньнем

і апісаньнем нашых савецкіх гаспадарак (хлебных фабрык), колектыўных гаспадарак і гаспадарак пасёлкавага тыпу.

Нам неабходна папулярызаваць новыя формы сельскай гаспадаркі, але разам з тым і заняцца вывучэньнем, чаму, напр., досыць часта распадаюцца сельска-гаспадарчыя хаўрусы і колектыўныя гаспадаркі.

Аднэй з асноўных задач комуністычнай партыі і савецкай улады зьяўляецца падняцьце ўраджайнасьці нашых палёў. І тут краязнаўчыя організацыі шмат могуць зрабіць, выяўляючы сялян-дасьледчыкаў і розныя іх дасягненьні ў справе падняцьця сел.-гаспадарчай тэхнікі, ужываньня штучных угнаеньняў і г. д. Досыць адзначыць, напр., што дасьледчык Мароз (у Фатыні) стаў вядомы на мясцох галоўным чынам праз краязнаўцаў і краязнаўчы часопіс „Наш Край“.

Цэлы рад артыкулаў апісальных адносна колгасаў не знайшлі належнага месца ў часопісу, яны зьмяшчаліся на задворках; вось напрыклад, „Па колгасах Азарыцкага раёну“ зьмешчана ў хроніцы. У такіх артыкулах не ўспамінаецца пра ўплыў саўгасаў на соцыялістычную пераробку сельскай гаспадаркі, а часам наадварот, ёсьць сьцьвярджэньні, што саўгас зьяўляецца прычынай пэўнага нездаволеньня сялянства суседняй вёскі, бо саўгас павялічвае малазямельле гэтае вёскі. Калі прыняць пад увагу, што гэтымі словамі беларускія нацыянал-дэмократы наогул выказвалі сваю програму адносна саўгасаў, то стане зразумелым, што іх устаноўка, што іх програма— гэта актыўная барацьба і агітацыя супроць саўгасаў, бо яны бачылі і не маглі ня бачыць свае гібелі ў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

„Заўважаецца нездаволеньне сялян в. Бранчыц прысутнасьцю саўхозу, дзякуючы якому яны да гэтага часу адчуваюць безьзямельле“.

Вайтко піша пра што хочаце, і вельмі прыгожа, вельмі мастацка нават, але абсолютна не заўважае клясавага рассластаваньня на вёсцы.

Што да артыкулу Крыцкага аб сельскай гаспадарцы Случчыны, дык тут апрача таго, што зусім не заўважаецца рэконструючая роля колгасаў і саўгасаў, зусім пра гэта не ўспамінаецца, але праводзіцца выразна не бальшавіцкая, не марксыцкая тэорыя аб урастаньні ў соцыялізм гэтых паасобных сялянскіх гаспадарак. Так літаральна ён і выражаецца.

„У сваім росьце сельская гаспадарка ўрастаецца ў соцыялістычны сэктар усяе гаспадаркі па лініі росту коопэраваньня па ўсіх відах коопэрацыі“.

У артыкуле „Па саўгасах Чэрвеншчыны“ ў той-жа пэрыод, даецца таксама бясклясавая ацэнка, не заўважаецца рэконструючая роля саўгасаў у соцыялістычнай перабудове вёскі.

Трэба сказаць некалькі слоў аб навуковай, апісальнай, стастыстычнай і іншай вартасьці ўсіх гэтых матар'ялаў. Могуць сказаць, што калі зьмяшчаліся матар'ялы, у якіх гаварылася пра соцыялістычнае будаўніцтва і пра вытворчыя сілы БССР, дык мабыць яны маюць вялікую вартасьць з пункту погляду статыстыкі, апісаньня. Мы павінны канставаць, на падставе пэўных докумэнтаў, што іх апісальная статыстычная вага зусім нязначная. Напрыклад, калі Крукоўскі гаворыць аб карысных выкапнях—аб рудзе на Мазырышчыне, то ён гаворыць толькі аб самым факце знаходжаньня руды, не гаворачы аб яе якасьці, аб яе хэмічным складзе, месцы яе заляганьня разьмерах і г. д.

Калі ўзяць другі артыкул аб карысных выкапнях—то і там аўтар таксама толькі констатуе, што іменна знойдзена ў такім вось раёне, але якое значэньне гэтага факту для разьвіцьця вытворчых сіл краіны—пра гэта не гаворыцца.

У артыкуле аб значным росьце драўніны ў Цэльскай лясной дачы на Бабруйшчыне адзначаецца факт, што мэліорацыя ў 1880 годзе была прычынай надзвычайна хуткага вырастаньня драўніны. Апрача таго, што ў артыкуле не адзначана іншых больш важных прычын, аўтар толькі гэтым і абмежаваў экономічны артыкул.

У часопісу „Наш Край“ знаходзілі месца артыкулы аб дробязях, як, напрыклад „Фаўна сасновага пня“ і ўпускаліся актуальнейшыя пытаньні, проблемы сучаснага соцыялістычнага будаўніцтва. Я не кажу, што аб „Фаўне сасновага пня“ ня трэба пісаць. Гэта таксама мае пэўную навуковую вартасьць, але такімі артыкуламі нельга затуляць найважнейшыя актуальныя пытаньні сучаснасьці.

Характэрна для нацдэмаў тое, што ўмовы для разьвіцьця вытворчых сіл БССР для іх утвораны не Кастрычнікам, але значна раней,—з „нашаніўскай“ пары пачынаецца для іх беларускае „адраджэньне“.

Ігнараваньне, неразуменьне гэгэмоніі пролетарыяту і яго ролі ў будаўніцтве соцыялізму, ідэалізацыя „нашаніўскай“ пары, ідэалізацыя дробна-буржуазных партый прасякае сабою творы нацдэмаў; напрыклад, на барысаўскіх прадпрыемствах адзначаецца, што кіруючай партыяй у рабочым руху ў 1905 годзе была партыя „Бунд“. Соцыял-дэмократычнай партыі нацдэмы ня бачаць.

Савецкая ўлада ня спрыяе разьвіцьцю культуры. Яна, на іх думку, нішчыць яе.

„У пажары грамадзкае вайны загарэлася панскае дабро, а сумесна з ім і тыя рэшткі беларускай культуры, якія захоўваліся па маёнтках ад старадаўніны. Камісіі па вучоту і ахове помнікаў мінулага, якія працавалі пры кожным аддзеле нарасьветы, цягалі старыя кнігі і рэчы ў свае валасныя і павятовыя асяродкі.

Фактычна архівы БССР памянёную працу правялі на працягу пяці апошніх гадоў з часу выданьня дэкрэту аб архівах 12 верасьня 1922 г. Першыя пяць гадоў рэволюцыі былі ў нас вельмі неспагаднымі для працы над архіўнымі матар‘яламі“... Адсюль відаць, якую культуру разумеюць нацдэмы пад беларускай культурай.—Гэта культуру паноў-экспёататараў.

„Умовы жыцьця і працы рабочых гуты да 1905 г. былі цяжкія: як вышэй было зазначана, рабочы дзень быў ровен 12 гадз.; зарплата 15—25 рубл. у месяц выдавалася неакуратна. Клясавая сьвядомасьць рабочых была неаднолькавая: частка рабочых, бедната вёсак, была досыць цякучым элемэнтам на гуце і амаль што зусім ня мела клясавага выхаваньня, але на гуце ўжо была група (12 чал.) рабочых, якія ўваходзілі ў організацыю „Бунд“ і вялі належную працу сярод рабочых. 1-га жніўня 1905 г. рабочыя гуты прад‘явілі трэбаваньне да ўласьніка гуты аб палепшаньні іх матар‘яльнага становішча і аб‘явілі забастоўку. Уласьнік гуты прымушаны быў згадзіцца на 6-проц. павышэньне зарплаты, але рабочыя патрабавалі выпаўненьня ўсіх іх патрабаваньняў ( якіх—дакладна невядома). 4 жніўня забастоўка спынілася пасьля таго, як уласьнік гуты пайшоў на некаторыя ўступкі рабочым, а рабочыя ад некаторых запатрабаваньняў адмовіліся. У сувязі з агульным ростам рабочага руху ў Барысаве і рабочыя гуты прымаюць

удзел у дэмонстрацыях (напр., 18 кастрычніка 1905 г.) і сходах пад кіраўніцтвам організацыі „Бунд“. У 1906 г. рабочыя гуты дабіваюцца палепшаньня свайго становішча і рабочы дзень каля ванны быў паменшаны да 10 гадз., а ў іншых аддзяленьнях да 9 гадз., зарплата павялічана на 10—15 проц. Пад кіраўніцтвам „Бунду“ на заводзе была праведзена чатырохдзённая забастоўка рабочых. Праца вялася і сярод вайсковых часьцей, якія былі ў Н.-Барысаве. Урэшце група ў 12 чал. найбольш актыўных рабочых была заарыштавана і прысуджана да турмы (ад 1 да 3 м-цаў). Цікава адзначыць, што ўсе рабочыя па адбыцьці наказаньня зноў вярнуліся на свае месцы. 1907—1914 гг. у гісторыі рабочых заводу праходзяць бяз усякіх выступленьняў. З пачаткам імпэрыялістычнай вайны найбольш кваліфікаваная і клясава сьвядомая частка рабочых, як ужо гаварылася, была ўзята на вайну; іх месцы на гуце занялі жанчыны і падлеткі з вёсак. Зразумела, што рабочы рух на гуце павінен быў у значнай меры спыніцца“.

З усяго сказанага вышэй выцякае наступнае:

1) Контр-рэволюцыйная ўстаноўка нацыянал-дэмократаў была накіравана і вяла да рэстаўрацыі капіталістычнага ладу. Гэтае рэстаўрацыі яны чакалі ў пэрыод да 15 зьезду з непасрэднага пашырэньня, на іх погляд, капіталістычных элемэнтаў у нашай краіне ў выніку „прышчэпаўшчыны“. Калі 15-16 зьезды рашуча сталі на шлях соцыялістычнага будаўніцтва, яны пачалі мяняць сваю тактыку барацьбы з партыяй, падрыхтоўваючы інтэрвэнцыю супроць СССР.

Тут іх надзеі пачалі накіроўвацца на польскі фашызм, на замежную капіталістычную інтэрвэнцыю, на падрыхтоўку гэтай інтэрвэнцыі і з сярэдзіны.

2) Мажлівасьць рэстаўрацыі капіталізму нацдэмы бачылі ў дробнай вытворчасьці ў нетрах раздробленай прыватна-ўласьніцкай сельскай гаспадаркі „каждадзённа, каждачасна раджаючай з сябе капіталізм“. Вось чаму ўся іх экономічная програма—гэта програма капіталістычнага разьвіцьця сельскай гаспадаркі, жывёльная нянавісьць да соцыялістычных элемэнтаў вёскі, што чырвонай ніткай праходзіць ва ўсіх іх экономічных творах. Гэтым тлумачыцца і тое, што пытаньню буйнай прамысловасьці нацдэмы амаль не ўдзяляюць увагі, ігноруюць яе. Тут справа зусім не ў недаацэнцы. Нацдэмы добра даацэньваюць сваю гібель праз буйную соцыялістычную прамысловасьць, а таму яны рабілі від, што не прыкмячаюць, недаацэньваюць яе. Гэтым тлумачыцца і тое, што заместа прамысловасьці яны вывучалі рамёствы, але ня з пункту гледжаньня ператварэньня саматужнай прамысловасьці ў буйную, а з пункту гледжаньня ідыліі, зьвязанай з рамяством, ідэалізацыі яго, вывучэньня легэнд, паданьняў, прыказак і казак, зьвязаных з рамяством. Гэтым тлумачыцца імкненьне нацдэмаў закрыць ад чытача мажлівасьць заўважыць гэгэмонію пролетарыяту, гэтым тлумачыцца і імкненьне іх прытупіць клясавыя пачуцьці чытача, падмяніць клясавасьць агульна-нацыянальнымі лёзунгамі адраджэньня, проціпаставіць беларускую нацыю іншым, асабліва яўрэйскай, выхаваць у масах чытачоў зьвярыны шовінізм, прымаючы форму антысэмітызму і зьвярынай нянавісьці да вялікарусаў. У гэтым аспэкце зразумелы роднасьць і блізкасьць сымпатыі нацдэмаў да белапалякаў. Як-жа інакш—у белапаляках, у польскім азьвярэлым фашызьме моцныя надзеі нацдэмаў на зьнішчэньне з твару зямлі савецкай сыстэмы, у ім надзеі ўтварэньня свае, мілай сэрцу нацдэмаў, капіталістычнай Б. Н. Р.

3) „Самабытнасьць“ нацдэмаў зьяўляецца толькі зброяй у іх руках адарваць БССР ад СССР, адарваць беларускіх працоўных ад працоўных усяго Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Як толькі справа датыкалася фашыстоўскай белай Польшчы, то, як відаць з усіх докумэнтаў, ад „самабытнасьці“ Беларусі не заставалася нічога, яны прыпадалі да фашыстоўскага інтэрвэнцкага боту Пілсудзкага, прадавалі і аддавалі яму „сваю БНР“ оптам і ў раздробку, абы ён, Пілсудзкі, абараніў іх ад бальшавіцкага „іга“, яны ўдахнаўлялі Пілсудзкага на паход да „імшэлых званіц Смаленску“. З гэтага зразумела і тая жывёльная нянавісьць беларускіх нацдэмаў да СССР, да РСФСР, да УССР і замілаваньне, сымпатыі да фашыстоўскай Польшчы, да шляхецтва, да магнатаў, князёў і графаў, гэтых насіцеляў—па думцы нацдэмаў—беларускай культуры. Вось сапраўднае контр-рэволюцыйнае нутро нацдэмаў, вось іх установкі, задачы, мэты.

Задачы, выцякаючыя адсюль, самі сабой зразумелы. Яны заключаюцца ў неабходнасьці выкарчаваць з карэньнямі беларускі контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм.

Трэба накіраваць усе сілы на змаганьне і выкарчоўваньне нацыянал-дэмократызму на ідэолёгічным фронце, на фронце навукі, за паскарэньне, за пасьпяховы ход далейшага соцыялістычнага будаўніцтва.

В. Шчарбакоў.

# Проблема навуковых кадраў у БССР.

Проблема кадраў у рэконструкцыйны пэрыод, ва умовах шпаркага росту соцыялістычнага будаўніцтва і абвастрэньня клясавай барацьбы ў нашай краіне, мае найважнейшае гаспадарчае і грамадзка-політычнае значэньне. Гэта проблема ва ўсёй сваёй завостранасьці ўстала перад намі непасрэдна пасьля XV зьезду ЎсеКП(б), калі мы ад рэконструкцыйнага пэрыоду перайшлі да пэрыоду соцыялістычнай рэконструкцыі, а разам з гэтым да рашучага наступу на капіталістычныя элемэнты.

„Шпаркі тэмп разьвіцьця народнай гаспадаркі,—падкрэсьлівае т. Кагановіч на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б),—з аднаго боку, адсталасьць нашых тэхнічных кадраў і клясавая барацьба, якая ўзмацняецца і выклікае новыя формы больш абвостранай барацьбы буржуазнай часткі інтэлігенцыі супроць пролетарскай дзяржавы—з другога боку, не маглі ня ўзьняць перад партыяй ва ўсёй шырыні проблемы кадраў, і гэта пытаньне было рубам пастаўлена т. Сталіным на пленуме ЦК у красавіку месяцы“.

Партыя, паставіўшы перад сабой гэту проблему, прыступіла да практычнага яе вырашэньня. Былі мобілізаваны максымальныя сілы і сродкі, была завострана ўвага ўсёй нашай партыі на вырашэньні гэтай найважнейшай проблемы. Рашучае вылучэньне лепшых пролетараў для працы на важнейшых пунктах гаспадарчага будаўніцтва і дзяржаўнага апарату, камандыраваньне ў нашы вузы і тэхнікумы ў масавай колькасьці рабочых, арабочваньне гэтых устаноў, паскораньне тэмпаў падрыхтоўкі новых спэцыялістых, пашырэньне прыёму ў вузы і тэхнікумы, організацыя спэцыяльных аддзелаў і сэктароў кадраў пры ўсіх найважнейшых гаспадарчых, савецкіх і профсаюзных організацыях, цэлы шэраг мерапрыемстваў па перавыхаваньні лепшых існуючых спэцыялістаў, бязьлітасная барацьба з шкодніцкімі элемэнтамі,—вось найважнейшыя мерапрыемствы нашай партыі ў справе вырашэньня гэтай проблемы. І ўжо ў сучасны момант мы маем значныя дасягненьні ў гэтай галіне, хоць мы яшчэ далёка ня вырашылі гэтай проблемы. У нашых умовах шпаркага соцыялістычнага будаўніцтва яна застаецца самай вострай проблемай. У такім стане знаходзіцца проблема кадраў, якія патрэбны для ўсіх абсолютна вучасткаў нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

У якім-жа стане знаходзіцца проблема навуковых кадраў ва ўсім нашым Савецкім Саюзе і прыватна ў Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы? Навуковыя кадры—вузкае месца ў проблеме кадраў наогул. Усім нам ужо добра вядома, наколькі рэзка адстаем

мы на фронце навукова-дасьледчай працы ад бурнага гаспадарчага будаўніцтва. У сувязі з гэтым будаўніцтвам, у сувязі з тымі зрухамі вялікага грамадзкага значэньня, якія адбываюцца ў нашым грамадзкім жыцьці, у нашай вытворчасьці, у сувязі з абвастрэньнем клясавай барацьбы і сапраўдным будаўніцтвам соцыялізму, перад намі ўстае вялікая колькасьць найважнейшых проблем, якія патрабуюць тэорытычнай прапрацоўкі, глыбокага навуковага аналізу. Кожны асобны этап нашага поступу да соцыялізму, усялякага роду зьмены ў клясавых суадносінах, найшырачэйшы размах нашага тэхнічнага пераабсталяваньня гаспадаркі краіны, соцыялістычная рэконструкцыя нашай гаспадаркі,—усё гэта вымагае глыбокага навуковага асьвятленьня, глыбокага тэорытычнага аналізу.

„Вядома“, казаў т. Сталін на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў, „што тэорыя, калі яна ёсьць сапраўдная тэорыя, дае практыкам моцнасьць орыентоўкі, яскравасьць пэрспэктывы, упэўненасьць у працы, веру ў перамогу нашай справы“.

Кастрычнікавая рэволюцыя і дыктатура пролетарыяту адчыніла перад намі самыя шырокія магчымасьці ў галіне навукова-дасьледчай справы. І, ня гледзячы на ўсё гэта, мы страшэнна адстаем на фронце навукі. Гэтая адсталасьць адчуваецца як ва ўсім нашым Саюзе, так і ў паасобных нацыянальных рэспубліках.

У чым асноўная прычына гэтай зьявы? Ня будзем датыкацца ўсяе глыбіні гэтага пытаньня. Бярэм толькі адно пытаньне—гэта пытаньне аб нашых навуковых кадрах. Аналіз навуковых кадраў БССР будзе з гэтага боку вельмі паказальным.

Савецкая Беларусь мае колёсальныя дасягненьні як на фронце гаспадарчага, так і нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Тэмпы яе гаспадарчага і культурнага разьвіцьця, дзякуючы вялікай і бязупыннай дапамозе Саюзнага Ураду, куды больш шпаркія, параўнальна з тэмпамі агульнасаюзнага маштабу. Досыць адзначыць, што гаспадарка БССР толькі за адзін 1929-30 г. дае рост у 74%.

Паводле гаспадарчага пляну, гэты рост у 1931 г.—у трэцім годзе пяцігодкі—будзе яшчэ больш высокім: ён будзе роўны 104%. Па лініі культурнага будаўніцтва мы ў БССР у галіне вышэйшай асьветы за адзін мінулы год вырасьлі болей, як у два разы: колькасьць вузаў узрасла з 4 да 12. Мы ўжо не гаворым аб іншых паказальніках гаспадарчага і культурнага росту.

І вось на грунце такога магутнага гаспадарчага і культурнага росту БССР асабліва кідаецца ў вочы наша страшэнная адсталасьць на фронце навукі. Якую-б галіну навуковай творчасьці мы ні зачапілі, усюды мы будзем бачыць гэта адставаньне. Мы да гэтага часу ня маем ніводнага больш-менш блізкага да марксызму, ня кажучы ўжо аб марксыцкім, падручніка па гісторыі Беларусі. Нашы школы да гэтага часу вывучалі і цяпер вывучаюць гісторыю Беларусі па падручніках Ігнатоўскага, якія насычаны буржуазна-нацыяналістычнай, нацыянал-дэмократычнай концэпцыяй. Тое самае трэба сказаць і аб гісторыі беларускай літаратуры, аб экономічнай географіі, аб мовазнаўстве. Самыя важныя галіны тэорытычнай працы да самага апошняга часу знаходзіліся, як нам вядома, у руках беларускіх контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмократаў, якія навуку і шэраг нашых найважнейшых навуковых устаноў здолелі перавярнуць у сродак барацьбы супроць дыктатуры пролетарыяту і за буржуазную рэстаўрацыю. Замест будаўніцтва пролетарскай культуры нацыянальнай па форме, нацдэмы бу-

давалі буржуазную нацыяналістычную культуру. Этнографія, мовазнаўства, літаратура, мастацтвазнаўства, гісторыя і шэраг іншых галін навуковай працы цалкам знаходзіліся ў іх руках, у руках беларускай нацыянальнай контр-рэволюцыі. Сваёй мэтодолёгіяй, сваімі ідэолёгічнымі ўстаноўкамі яны запоўнілі ўсе самыя важныя вучасткі навукова-дасьледчай працы, найважнейшыя тэорытычныя дысцыпліны.

Горш за ўсё гэта тое, што мы ня толькі раней, але ў значнай меры яшчэ і цяпер, ня ведалі і ня ведаем нашага навуковага фронту і тых кадраў, якія працавалі і працуюць на гэтым фронце. Досыць падкрэсьліць, што і цяпер, пасьля таго як былі выкрыты найвялікшыя прарывы на культурным фронце наогул і на навуковым яго вучастку ў прыватнасьці, ёсьць шэраг найважнейшых організацый і асабліва Дзяржплян БССР, у папках якога, апрача бязладзіцы, ніякіх даных адносна нашага навуковага фронту і яго кадраў, даных, больш-менш блізкіх да сапраўднасьці, няма. Трэба сказаць, што і ў маштабе ўсяго нашага Саюзу вельмі мала аддавалі ўвагі пытаньню вывучэньня навуковых кадраў і гэтых апошніх як сьлед ня ведалі і імі не кіравалі. І да гэтага часу ў распараджэньні адпаведных саюзных устаноў няма ніякіх даных, якія цалкам характарызавалі-б твар навуковых кадраў СССР.

У БССР адносна гэтага пытаньня справа да самых апошніх дзён была ня лепш. Толькі ў самы апошні момант нам у значнай меры ўдалося вывучыць гэта пытаньне аб навуковых кадрах і атрымаць тыя даныя, якія даюць нам магчымасьць характарызаваць гэтыя кадры Савецкай Беларусі.

Да Кастрычнікавай рэволюцыі на тэрыторыі Беларусі навуковай працы амаль ніякай ня было. Тут ня было ні адной навукова-дасьледчай установы, ніводнага вузу. Толькі Кастрычнікавая рэволюцыя і створаная пролетарыятам савецкая ўлада адчынілі перад намі самыя шырокія магчымасьці ў справе разьвіцьця навукова-дасьледчай працы.

Ужо адразу пасьля нямецкай окупацыі і стварэньня БССР тут ставіцца пытаньне і прымаюцца меры да адчыненьня Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Белапольская окупацыя сарвала гэты пачын. Толькі пасьля выгнаньня белапалякаў у 1921 г. ў Менску адчыняецца Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. У канцы 1922 г. адчыняецца Дзяржаўны Інстытут сельскай гаспадаркі. Яшчэ раней, ў 1920 г., быў адчынен Політэхнікум. У 1922 г. засноўваецца Інстытут Беларускай Культуры. Вакол гэтых першых вузаў і першых навукова-дасьледчых устаноў і ячэек зьбіраюцца навуковыя кадры. На 1-ае кастрычніка 1923 г. ў адным толькі Дзяржаўным Унівэрсытэце і Сельска-Гаспадарчым Інстытуце працуе 172 навуковых працаўнікоў і 46 профэсароў, 56 выкладчыкаў і 70 асьпірантаў.

Чым далей, тым маштаб культурнага будаўніцтва ўсё больш павялічваецца, а разам з гэтым растуць і навуковыя кадры.

Ужо ў 1925-26 г. ў БССР у 4 вузах працуе навуковых працаўнікоў 436 чал., ў 1926-27 г.—492 чал., ў 1927-28—504 навуковых працаўнікоў, сярод іх сяброў партыі было 54 асобы, ці 10%, жанчын таксама налічвалася 54 асобы.

У цяперашні час у сэнсе размаху працы, ня гледзячы на самыя глыбокія прарывы на фронце культуры і навукі, мы маем вялікія дасягненьні. Цяпер у БССР у 12 вузах і 15 навукова-дасьледчых установах працуе, паводле нашых даных, 734 навуковых працаўнікоў; гэта апрача асьпірантаў, якіх у БССР рыхтуецца 260 чал. Важней-

шымі цэнтрамі, дзе сконцэнтраваны навуковыя кадры Савецкай Беларусі, зьяўляюцца: Беларуская Акадэмія Навук, Інстытут соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, Інстытут прамысловасьці, Інстытут аховы працы і шэраг вузаў, з якіх больш моцнымі зьяўляюцца: Дзяржаўны Унівэрсытэт, Сельска-гаспадарчая Акадэмія, Комвуз, Хэміка-тэхнолёгічны Інстытут, Будаўнічы Інстытут, Вэтінстытут і інш.

Такім чынам, мы бачым досыць вялікі колькасны рост навуковых кадраў. Але тыя 734 чал., якія працуюць у нас у вузах і навукова-дасьледчых установах, ні ў якай меры ня могуць нас ужо цяпер задаволіць. Каб на сёньнешні дзень задаволіць нашы патрэбы ў навуковых кадрах, нам трэба было-б мець яшчэ мінімум 320 чал. Мы гэтых апошніх ня маем. Адгэтуль перш за ўсё выплывае вялікая перагрузка існуючых навуковых працаўнікоў, з гэтае прычыны шэраг дысцыплін не выкладаецца альбо выкладаецца малакваліфікаванымі працаўнікамі, з прычыны чаго шэраг навукова-дасьледчых устаноў ня можа разгарнуць як сьлед сваёй працы. Нам не хапае для замяшчэньня катэдраў і інстытутаў 42 профэсароў, 56 вучоных спэцыялістаў, 54 доцэнтаў, 48 навуковых супрацоўнікаў і больш за 100 асыстэнтаў. Больш за ўсё не хапае навуковых працаўнікоў па такіх дысцыплінах, як: тэорытычная экономія—24 чал., сельска-гаспадарчыя дысцыпліны—29 чал., індустрыяльныя—29, біолёгічныя—17, мовазнаўства—21, гістарычныя навукі—15 і г. д. Больш за ўсё не хапае працаўнікоў для Сельска-гаспадарчай Акадэміі, Акадэміі Навук, Вэтінстытуту, пэдінстытутаў. Найбольшая колькасьць навуковых працаўнікоў сконцэнтравана на такіх дысцыплінах, як: мэдыцына—125, сельская гаспадарка—123, хэмія—57, біолёгічныя навукі —45, індустрыяльна-тэхнічныя —40, гістарычныя—25, тэорытычная экономія—22.

Але сутнасьць пытаньня ня толькі ў тым, што ў нас не хапае навуковых працаўнікоў, што мы гэты недахоп нейкім чынам павінны запоўніць. Справа стаіць яшчэ больш сур'ёзна ў адносінах да якасьці існуючых навуковых кадраў. Чым зьяўляюцца гэтыя кадры? Паводле формальнай кваліфікацыі, якая, да рэчы кажучы, не дае нам сапраўднага адлюстраваньня якасьці нашых навуковых кадраў, мы маем зараз: 11 акадэмікаў (6 акадэмікаў контр-рэволюцыйных беларускіх нацыянал-дэмократаў нядаўна выключаны Саўнаркомам БССР з Акадэміі і пазбаўлены годнасьці акадэмікаў), 104 профэсары, 92 доцэнты, 66 вучоных спэцыялістых, 155 навуковых супрацоўнікаў і 306 асыстэнтаў. Сярод усяе гэтае колькасьці ёсьць 300 чалавек з сярэдняй і 2 з ніжэйшай асьветай.

Для нас больш важны іншыя паказальнікі, якія характарызуюць якасны склад навуковых працаўнікоў БССР. Пачнем з соцыяльнага складу. Сярод 734 чал. мы маем па соцыяльнаму складу: 59, ці 8% усяго складу рабочых, 227 чал.—32% сялян, 330 чал.—45% служачых і 118, ці 15% з чужых нам пластоў—памешчыкаў, гандляроў, папоў, рабінаў. Гэтыя лічбы яскрава кажуць аб вельмі нездавальняючым соцыяльным складзе навуковых працаўнікоў. Праплястоўка з рабочых і сялян складае толькі 40%. Мы маем шырокую праплястоўку з соцыяльна-чужых нам выхадцаў. Усё гэта ня можа не выяўляцца ў палітычных настроях нашых навуковых працаўнікоў, аб чым нам давядзецца больш падрабязна гаварыць ніжэй. Асабліва нездавальняючым зьяўляецца соцыяльны склад такіх вузаў, як Дзяржаўны Унівэрсытэт, дзе на 112 чал. ёсьць толькі 7 чал. з рабочых, 15 з сялян, затое жучая нам праплястоўка складае 42 чал., у Вэт'інстытуце на 58 чал.,

ёсьць 26 чал. з чужых прапластовак. Мы ня маем даных, ды іх, здаецца, зусім і няма да гэтага часу, якія характарызуюць социяльны склад навуковых працаўнікоў СССР. Такія даныя мы маем толькі аб навуковых кадрах інстытутаў ВСНГ. Соцыяльны склад навуковых працаўнікоў гэтых інстытутаў наступны: з рабочых—7,8%, з сялян—5,8%, з служачых—75,8%, з іншых чужых пластовак—10,6%. Гэтыя даныя таксама кажуць аб вельмі дрэнным соцыяльным складзе навуковых працаўнікоў інстытутаў ВСНГ. І ўсё-ж такі процант навуковых працаўнікоў з чужых прапластовак тут значна меншы, як у нас, у БССР.

Калі мы зьвернем увагу на соцыяльны склад найбольш кваліфікаваных нашых навуковых працаўнікоў—профэсароў і доцэнтаў, дык убачым, што тут становішча яшчэ больш небясьпечнае. На 104 профэсары мы маем з рабочых—3 чал., ці 3%, з сялян—14 чал.—14%, з служачых 63 чал.—60% і з чужых соцыяльных пластоў 24 чал., ці 23%. Склад доцэнтуры некалькі лепшы за склад профэсуры, але значна горшы за ўвесь склад навуковых працаўнікоў. На 92 доцэнты выпадае з рабочых 5 чал.—5%, з сялян—17 чал.—18%, з служачых 53 чал.—59% і іншых 17 чал.—18%.

Усе гэтыя даныя сьведчаць аб тым, што партыя павінна прыняць рашучыя меры для паляпшэньня соцыяльнага складу нашых навуковых працаўнікоў. Трэба скарыстаць усе магчымасьці для павялічэньня % рабочых сярод навуковых працаўнікоў. Трэба шукаць новыя формы для ўцягненьня рабочых у навукова-дасьледчую працу. З другога боку, нам трэба быць вельмі асьцярожнымі ў справе вылучэньня навуковых працаўнікоў з іншых прапластовак, між іншым, з соцыяльна-чужых нам груп. Трэба сказаць, што ў нас, у БССР, на гэта зварачалі і зварачаюць вельмі мала ўвагі.

Партыйны склад навуковых кадраў БССР. На тую самую лічбу 734 навуковых працаўнікоў мы маем 111 членаў і кандыдатаў нашай партыі. Такім чынам, партыйная частка навуковых працаўнікоў складае ў нас 15%. Па СССР гэта прапластоўка, паводле даных за 1929 г., значна меншая: там на 25.286 навуковых працаўнікоў партыйцаў было 1.590 чал., ці 6,3%. Па РСФСР партыйная прапластоўка сярод навуковых працаўнікоў яшчэ меншая за СССР (4,6%).

Ня гледзячы на тое, што сярод навуковых працаўнікоў БССР партыйцаў у процантных адносінах значна больш, як у Савецкім Саюзе, мы ня можам задаволіцца гэтым і павінны і надалей партызаваць свой склад, тым больш што сярод навуковых працаўнікоў-партыйцаў ёсьць досыць значны лік выхадцаў з другіх партый і з партыйнымі спагнаньнямі.

З 1927 г. мы маем павялічэньне партыйнай часткі навуковых працаўнікоў з 10 да 15%.

Палова ўсіх партыйцаў навуковых працаўнікоў сконцэнтравана ў нас на соцыяльна-экономічных дысцыплінах. Так, па дыялектычнаму матар'ялізму працуе ўсяго 14 чал., і партыйцаў сярод іх—12; па тэорытычнай экономіі працуе ўсяго 22 чал., з іх 13 партыйцаў, па гістарычных навуках працуе ўсяго 28 чал., з іх 12 партыйцаў. Іншы малюнак мы маем адносна партыйнай прапластоўкі сярод навуковых працаўнікоў прыродазнаўчых і прыкладных дысцыплін: сярод матэматыкаў 12% партыйцаў, сярод геолёгаў—5%, сярод навуковых працаўнікоў па с.-гаспадарчых дысцыплінах партыйцаў 6%. Трэба адзначыць, што

партыйная прапластоўка сярод навуковых працаўнікоў соцыяльна-экономічных дысцыплін з 1929 г. зьменшылася.

Нацыянальны склад навуковых кадраў БССР такі. Сярод усіх 734 чал. мы маем 333 чал., ці 45% беларусаў, 170 чал.—23% расійцаў, 160 чал.—22% яўрэяў, 71 чал.,—10% іншых нацый. У нацыянальных адносінах мы гэты склад лічым здавальняючым, хоць у паасобных вузах і навукова-дасьледчых установах ён і ня можа нас задаволіць, як, напр., Дзяржаўны Унівэрсытэт, Інстытут аховы працы, Пэд'інстытут і некаторыя іншыя. Тут карэнізацыя навуковых кадраў вельмі слабая.

Значна горш стаіць справа адносна нацыянальнага складу профэсуры і доцэнтуры. Сярод профэсароў ёсьць усяго 15 чал., ці 14% беларусаў, затое расійцаў 41 чал.—40%, яўрэяў 26%, іншых 10%. Сярод доцэнтаў: беларусаў 24%, расійцаў 24%, яўрэяў 32%, іншых 11%.

Таксама малы процант і жанчын. На 734 чал. мы маем 108 жанчын, ці 14%. Параўнальна з 1927-28 г. процант жанчын узрос з 10 да 14, але гэты рост далёка невыстарчальны, тым больш што па РСФСР ён ужо вышэй (18%). Вылучэньне жанчын на навуковую працу—наша чарговая задача.

Далей пяройдзем да ацэнкі якаснага складу нашых навуковых кадраў. Мы маем магчымасьць характарызаваць навуковых працаўнікоў па іх друкаванай продукцыі. У гэтых адносінах мы разьбілі ўсіх навуковых працаўнікоў на тры групы: першая—тыя працаўнікі, якія маюць друкаваныя працы асобнымі кніжкамі; другая група—працаўнікі, якія маюць толькі часопісныя артыкулы, і трэцяя група—тыя, якія зусім ня маюць друкаваных прац, нават часопісных артыкулаў. Даныя гэтага характару кажуць нам аб надзвычай нізкай навуковай кваліфікацыі нашых навуковых кадраў, аб надзвычай нізкай навуковай продукцыі. Да першай групы навуковых працаўнікоў, якія маюць адну і больш кніг, з 734 чал. належаць 118 працаўнікоў, ці 17%; 306 чал., ці 41% маюць толькі часопісныя артыкулы і 310 чал., ці 42% усяго складу навуковых працаўнікоў ня далі нам ніякай продукцыі, ня маюць ні кніг, ні часопісных артыкулаў. Такая зьява, што амаль палова ўсіх навуковых працаўнікоў яшчэ ня мае абсолютна ніякай продукцыі, кажа аб тым, што якасны склад нашых працаўнікоў вельмі нізкі,—гэта па-першае; па-другое, тут ёсьць і іншыя моманты. Мы ня можам гэту зьяву тлумачыць толькі нізкай кваліфікацыяй нашых навуковых працаўнікоў. У нас ёсьць і досыць кваліфікаваныя кадры, тымчасам яны продукцыі не даюць. Якая прычына гэтага? Мы лічым, што прычын некалькі. Разам з тым, што і кваліфікацыя адыгрывае тут сваю ролю, трэба падкрэсьліць і іншыя, найбольш яскрава прыкметныя прычыны. Гэта, па-першае, вялікая нагрузка, вялікае сумяшчэньне. Людзі займаюцца заработкам грошай, трацячы на гэта ўвесь свой час. З гэтае прычыны мы ня толькі не атрымоўваем ад нашых навуковых працаўнікоў належнай друкаванай продукцыі, але маем і моцную адсталасьць у навуцы, у некаторых выпадках і дэкваліфікацыю навуковых працаўнікоў. Значная частка навуковых працаўнікоў не працуюць над сабой так, як трэба. Гэта другая важнейшая прычына. Трэба адзначыць і трэцюю асноўную прычыну—гэта непадрыхтаванасьць значнай часткі, калі ня большасьці, навуковых працаўнікоў у галіне мэтодолёгіі. Масы навуковых працаўнікоў і нават частка комуністаў яшчэ не аўладалі адзінай навуковай марксыцкай мэтодолёгіяй, ня ўмеюць прыстасаваць яе ў асобных галінах тэорытычнай навукі. Гэта

вядзе да таго, што частка навуковых працаўнікоў не даюць продукцыі ад страху: як-бы не зрабіць вялікіх мэтодолёгічных і гістарычных памылак. Гэта акалічнасьць вядзе да таго, што цэлы шэраг працаўнікоў імкнуцца, каб іх працы былі прагледжаны абавязкова марксыстымі-комуністымі і толькі ў гэтым выпадку яны згаджаюцца аддаваць свае працы ў друк. Частка найбольш рэакцыйных навуковых працаўнікоў проста ня хочуць пісаць і ня пішуць.

Побач з тым, што продукцыя, якую даюць навуковыя працаўнікі, вельмі малая і ня можа нас задаволіць, у якасных адносінах яна вельмі нізкая і вельмі часта варожая для нас. У гэтым напрамку асабліва вызначыліся беларускія нацдэмы, якія да самага апошняга часу сваёй нямалай продукцыяй умелі атручваць мазгі савецкага чытача і перш за ўсё моладзі. У галіне друкаваных прац і прац над асобнымі проблемамі мы маем яшчэ тую хібу, што гэтыя проблемы вельмі часта зусім ня зьвязаны з гаспадарчым і культурным будаўніцтвам БССР.

Гаворачы аб навуковай продукцыі навуковых працаўнікоў, трэба коратка спыніцца на навуковай продукцыі навуковых працаўнікоў-комуністаў. Па-першае, неабходна падкрэсьліць, што сярод іх мы мем некалькі большы процант тых, якія маюць свае друкаваныя працы. У той час як праппастоўка навуковых працаўнікоў, што маюць свае працы, адносна ўсіх навуковых працаўнікоў складае 18%, дык комуністы-навуковыя працаўнікі складаюць 26%. Гэта вельмі характэрная зьява. Яна перш за ўсё кажа аб тым, што нельга слабую продукцыю навуковых працаўнікоў тлумачыць выключна перагрузкай, бо такая перагрузка, асабліва партыйная і грамадзкая праца, больш за ўсё кладзецца на навуковых працаўнікоў-комуністаў.

Трэба таксама адзначыць, што і соцыяльны склад навуковых працаўнікоў-комуністаў значна лепшы, чым склад усіх навуковых працаўнікоў. Рабочая, напр., праппастоўка сярод комуністаў складае 13%.

Якія настроі наглядаюцца сярод навуковых працаўнікоў БССР і якія варожыя нам ідэолёгічныя ўхілы можна заўважыць сярод іх? На гэтым пытаньні нам патрэбна коратка спыніцца. Перш за ўсё трэба констатаваць наяўнасьць значнага ліку такіх навуковых працаўнікоў, якія імкнуцца заставацца ўбаку ад сучаснага жыцьця, ад палітычных падзей унутранога і міжнароднага значэньня, сьведкамі і ўдзельнікамі якіх мы зьяўляемся. Значная частка навуковых працаўнікоў ня ўдзельнічае і ня хоча ўдзельнічаць у грамадзкім жыцьці і ў грамадзкай працы. Яна замыкаецца ў сябе, у сваю шкарлупіну. Гэтая частка агульныя сходы не наведвае, а калі наведвае, дык застаецца няпрыкметнай, ня прымае актыўнага ўдзелу ў грамадзкай працы, у абмеркаваньні адпаведных пытаньняў. У большасьці выпадкаў гэта частка адмоўчваецца. Сярод пэўных п р а п л а с т о в а к навуковых працаўнікоў існуюць шовіністычныя настроі: ёсьць прыхільнікі і носьбіты вялікадзяржаўнага шовінізму, нацыянал-дэмократы і яўрэйскія нацыяналістыя. Вялікадзяржаўныя шовіністыя імкнуцца нажыць сабе капітал на арыштах беларускіх контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмократаў і ўсялякім чынам імкнуцца скарыстаць у сваіх інтарэсах тую ідэолёгічную барацьбу, якая цяпер разгорнута ў БССР супроць беларускіх нацыянал-дэмократаў, іх мэтодолёгіі і ідэолёгіі, барацьбу, якая тут вядзецца адначасна з рашучай барацьбой супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі ў даны момант. Прыхільнікі нацыянал-дэмократаў усялякім чынам спачуваюць арыштава-

ным нацдэмам і ў прыватнасьці імкнуцца абараняць нацопортуністых, асобліва т. Ігнатоўскага, тлумачачы ўсе яго „ўпушчэньні“ мяккім характарам.

Сярод навуковых працаўнікоў БССР да самага апошняга моманту ёсьць яшчэ прыхільнікі рэлігіі. Некаторыя з іх (праўда, такіх адзінкі) нават адчынена абараняюць рэлігійныя пераконаньні. Гэта, між іншым, мела месца ў часе наладжанага сэкцыяй навуковых працаўнікоў дыспуту па пытаньні аб рэлігіі, антырэлігійнай барацьбе і навуковых працаўніках.

Трэба спыніцца яшчэ на вельмі важным пытаньні аб пэрспэктывах падрыхтоўкі навуковых працаўнікоў, аб мерапрыемствах і плянах гэтай падрыхтоўкі. Здаецца, ні ў аднэй галіне нашага будаўніцтва мы не наглядаем гэткай хаотычнасьці і стыхійнасьці, як у галіне падрыхтоўкі навуковых кадраў. Да гэтага часу Дзяржплян БССР ня мае ні гадавога ні пяцігадовага пэрспэктыўнага пляну падрыхтоўкі навуковых кадраў. Ня маюць яго іншыя органы. Тут цалкам адсутнічае плянаваньне. Дзяржплян нават ня ведае, колькі ёсьць у БССР навуковых працаўнікоў і колькі іх не хапае на сёньня. Між тым проблема навуковых кадраў як ва ўсім Савецкім Саюзе, так і асабліва ў БССР, ёсьць самая вострая і адначасова самая складаная проблема, над якой трэба сур'ёзна папрацаваць.

Мы маем цяпер 734 навуковых працаўнікоў. Якасьць гэтых працаўнікоў нам ужо вядома. На сёньня мы маем недахват больш 300 навуковых працаўнікоў. Такім чынам, каб задаволіць на сёньня нашы запатрабаваньні, нам трэба было-б мець больш тысячы навуковых працаўнікоў. Патрэбы ў гэтых кадрах з кожным днём усё больш павялічваюцца. Ужо праз паўгода мы будзем мець значна павялічанае запатрабаваньне на навуковых працаўнікоў. У БССР у гэтым годзе адчынілася 7 новых вузаў. Покуль што гэтыя вузы маюць толькі першыя курсы. Вясною і ўвосень 1931 г. будуць адбывацца новыя прыёмы студэнтаў. Усё гэта вымагае значнага павялічэньня навуковых кадраў. Распачатая ў вузах праца па пераводу сыстэмы заняткаў на актыўныя мэтоды навучаньня таксама выкліча і ўжо выклікае новае запатрабаваньне на навуковых працаўнікоў. Шпарка разгортваецца навукова-дасьледчая справа ў краіне, асабліва калі прыняць пад увагу тыя гіганцкія тэмпы гаспадарчага і культурнага разьвіцьця, якія мы тут наглядаем.

Па нашых мінімальных падліках мы павінны будзем увосень 1931 г. павялічыць нашы навуковыя кадры ў паўтара разы, г. зн. давесьці лічбу іх да 1.500 чал. Калі-ж улічыць 300 чалавек, якіх нам зараз не хапае, дык нам трэба будзе ў 3-ці год пяцігодкі павялічыць нашы кадры ў 2 разы.

Якія пэрспэктывы мы маем у гэтым напрамку? Дзе тыя крыніцы, з якіх мы будзем браць патрэбныя нам кадры навуковых працаўнікоў?

Перш за ўсё трэба зьвярнуцца да асьпірантуры. Ці зможам мы, дзякуючы асьпірантуры, задаволіць нашы патрэбы? Ні ў якім разе. Мы зараз маем у БССР 260 асьпірантаў. Частка іх—новапрынятыя і да гэтага часу ня зьнятыя з практычнай працы. Калі нават усе 260 асьпірантаў будуць пасьпяхова рабіць свае заданьні, дык і ў гэтым выпадку мы ніякім чынам не задаволім свае патрэбы. Колькасьць іх вельмі нязначная ў параўнаньні з запатрабаваньнямі на навуковыя кадры. Праўда, яны дадуць нам магчымасьць некалькі палепшыць соцыяльны і партыйны склад нашых навуковых працаўнікоў. Сярод

асьпірантаў процант рабочых значна вышэйшы, як сярод навуковых працаўнікоў наогул, але і ён вельмі нізкі—18%, сялян—48%, служачых—34%. Досыць значны процант партыйцаў сярод асьпірантаў—58%, комсамольцаў—16% і беспартыйных 26%. Але-ж гэтых 260 асьпірантаў мы выпусьцім толькі праз 2-3 гады: 136 чал. з іх прыняты толькі ў гэтым годзе. Такім чынам, толькі ў 1933 г. усе (і ці ўсе?) гэтыя 260 чал. асьпірантаў будуць у шэрагах навуковых працаўнікоў. К таму часу нашы навуковыя кадры, маючы на ўвазе пэрспэктывы нашага будаўніцтва, павінны ўзрасьці ў 2½-3 разы параўнальна з тым, што ёсьць цяпер, г. зн. яны павінны быць у ліку, прыблізна, 2.000—2.500 чалавек. Да канца пяцігодкі мы павінны будзем даць краіне новых 1.500 навуковых працаўнікоў. Асьпірантура ў 260 чал. параўнальна з гэтым ёсьць кропля ў моры. Адкуль-небудзь трэба-ж узяць гэтыя дадатковыя кадры. Апошняя пастанова ЦК КП(б)Б аб концэнтрацыі падрыхтоўкі асьпірантуры ў Беларускай Акадэміі Навук і організацыя інстытуту асьпірантуры значна палепшыць справу падрыхтоўкі навуковых працаўнікоў, але і гэтым пытаньне аб навуковых кадрах у БССР яшчэ не вырашаецца.

Вось чаму проблема навуковых кадраў у БССР зьяўляецца і будзе яшчэ доўгі час зьяўляцца самай вострай проблемай. У Савецкім Саюзе яна таксама зьяўляецца вострай. І там, паводле некаторых даных, навуковыя кадры з 25.000 чал. к канцу пяцігодкі павінны павялічыцца да 70.000 чал. Але ўсё-такі для БССР гэта проблема ёсьць найбольш складаная. Бо яе трэба будзе вырашаць ня толькі ў колькасным напрамку, значна павялічваючы існуючыя кадры; яе трэба вырашаць і ў якасных адносінах: узьняць продукцыю навуковых працаўнікоў, зрабіць гэту продукцыю адпаведнай усім патрэбам дыктатуры пролетарыяту і соцбудаўніцтва, наблізіць навуковых працаўнікоў да задач соцыялістычнай рэконструкцыі, палепшыць іх соцыяльны склад, правесьці карэнізацыю.

Каб вырашыць усе гэтыя пытаньні, трэба перш за ўсё зьвярнуць пільную ўвагу на проблему навуковых кадраў, трэба сур'ёзна працаваць над гэтай проблемай, вывучаць яе, вывучаць існуючыя навуковыя кадры. Да гэтага часу мы не займаліся як сьлед гэтай проблемай.

Трэба сур'ёзна падумаць над пытаньнем аб крыніцах вярбоўкі, вылучэньня і падрыхтоўкі навуковых кадраў.

---

Л. Бабровіч, Ів. Шпілеўскі.

# Супроць контр-рэволюцыйных нацдэмаўскіх тэорый у этнографіі.

Яшчэ многа можна спаткаць такіх людзей, якія ўяўляюць сабе навуку бясклясавай, аполітычнай, бесстароньняй. Гэткія ўяўленьні аб навуцы зусім няправільныя. Здавалася-б, што можа быць супольнага паміж такімі чыстымі навукамі, „як матэматыка, геомэтрыя, фізыка, біолёгія, археолёгія",—і клясавай барацьбой. Сапраўды-ж выходзіць, што буржуазныя вучоныя, выконваючы соцыяльны заказ сваёй клясы, прабуюць пры дапамозе матэматыкі даводзіць існаваньне бога або пры дапамозе фізыкі даводзіць немагчымасьць пабудовы соцыялізму. На сувязь навукі з клясавымі і палітычнымі інтарэсамі найбольш яскрава паказвае выданая 3 гады таму назад амэрыканскімі мракабесамі забарона выкладаньня дарвінізму ў некаторых амэрыканскіх штатах. Таксама вядомы „навуковыя" тэорыі аб вышэйшых і ніжэйшых расах, аб „гістарычных культурных" і „негістарычных малакультурных" нацыях, якія (тэорыі) стараюцца давесьці канечную патрэбу захопу і панаваньня імпэрыялістычных дзяржаў над колёніямі.

Найцікавейшай ілюстрацыяй сувязі паміж палітычнай і культурнай гісторыяй зьяўляецца вышаўшая ў гэтым годзе ў Пазнані работа на нямецкай мове польскага проф. Кастржэўскага[1]). На працягу двух друкаваных аркушоў Кастржэўскі дыскусуе з проф. Bolko Z. Richthofen і другімі фашыцкімі нямецкімі профэсарамі з поваду пытаньня аб гістарычным прыорытэце славянскай культуры над германскай у Прыбальтыцы, опэруючы пры гэтым цяжкаважнымі археолёгічнымі доказамі. Асабліва цікава адно месца, дзе паважаныя профэсары адкрыта выкрываюць палітычную мэту сваіх досьледаў. З абурэньнем і гневам адкідаючы Richthofenia ў тым, што славяне стварылі такіх зьнішчальнікаў культуры, як бальшавікі, проф. Кастржэўскі, б'ючы сябе ў грудзі, плаціць тэй-жа монэтай. Ён напамінае Bolko, што 1) сучасны бальшавізм—толькі ажыцьцяўленьне прынцыпаў нямецкага тэорэтыка соцыялізму Кароля Маркса, 2) што толькі дзякуючы немцам „Lenin und Gennosse" трапілі ў Расію ў 1917 г. і 3) наадварот, што толькі палякі ў 1920 годзе сваімі грудзьмі выратавалі Эўропу ад жахаў бальшавізму. Здаецца, ясна. Ніводны бальшавік ня змог-бы выкрыць клясавую сутнасьць такой „чыстай" навукі, як археолёгія, лепш, чымсьці гэтыя маэстро германскай і польскай буржуазіі.

Цяпер, на разборы этнографічных прац беларускіх нацдэмаў, мы пастараемся хоць у кароткіх рысах паказаць, як такая галіна навукі, накшталт этнографіі, выкарыстоўвалася беларускімі нац.-дэмократамі ў контр-рэволюцыйных мэтах. На сьвежых фактах мы ўба-

[1]) Rorgescnicntsforhug ünd politik. Gine Antwort unj die flugecrift. Dr. Bolko frhr. von Richfhosen: gehört ostdeücland zur Vrheimat der Polen. Poznań 1930 r.

чым, як немагчыма адлучыць такія „акадэмічныя“, на першы погляд, нявінныя, культурна-гістарычныя практыкаваньні ад актуальных пытаньняў політычнай барацьбы.

Дзякуючы былому нацыянал-опортуністычнаму кіраўніцтву катэдра этнографіі Белар. Акад. Навук цалкам і поўнасьцю знаходзілася на працягу ўсяго часу ў руках самых заядлых контр-рэволюцыянэраў нац.-дэмократаў. На чале катэдры стаяў вядомы былы міністар контр-рэволюцыйнай „Беларускай вышэйшай рады“ Ластоўскі. Гэты заядлы контр-рэволюцыянэр, які ўвесь час змагаўся супроць дыктатуры пролетарыяту, супроць Кастрычнікавай рэволюцыі, раптам пераафарбоўваецца з „вялікага“ політычнага дзеяча ў беларускага „вучонага“ этнографа і задае тон як катэдры этнографіі, так і ўсёй Акадэміі.

Контр-рэволюцыянэр Ластоўскі бярэцца за пяро і ўсе свае „навуковыя“ працы прызначае доказам таго, што назвы „Беларусь—беларусы“,—гэта, бачыце, назвы „маскоўскія“, бо маюць у сабе корань „русь—рускі“. А дзеля таго, гэтай назьве ён абʼяўляе самую бязьлітасную вайну і даводзіць патрэбу замены, згодна з яго словамі, „самаістай“ назвай—„крывія—крывічы“. Для гэтай мэты ён выдае ў Коўне надмеру тоўстую і з навуковага боку нічога нявартую, няпісьменную кнігу пад назвай „Гісторыя крыўскай кнігі“. Такі-ж „крыўска-беларускі“ слоўнік і пэрыодычны часопіс „Крывіч“, які на працягу ўсяго свайго існаваньня (1923—1927) цалкам прысьвячаецца барацьбе супроць Савецкага Саюзу, супроць „маскоўшчыны“.

У сваім часопісе „Крывіч“ Ластоўскі „супрацоўнічае“ больш чым пад дзесяцьма псэўдонімамі, і ёсьць нумары выключна з твораў аднаго Ластоўскага. Гэта ўсё для таго, каб давесьці, што яго думкі падзяляюцца шмат кім і што навакол часопісу ёсьць вялікая колькасьць людзей. Тут ён кажа, што „калі народ сіліцца адрадзіцца... ў мове, у абычаях, у мастацтве і пісьменнасьці“, дык „важна прыпомніць яму яго ўласнае імя“, якое „гаворыць аб лепшых днях жыцьця нашага народу, з яго вольнымі вечамі і слаўнымі змаганьнямі за сваю незалежнасьць... індывідуальнасьць“ [1]). Далей ён пераходзіць і да таго „імені свайго народу“, якое ён хоча прышпіліць яму, і гэта імя, паводле Ластоўскага, зьяўляецца—„крывічы“. Вось што ён у сваім часопісе кажа: „Самай-жа галоўнай і першай адзнакай... зьяўляецца нашае нацыянальнае імя „крывічэ“, якое акрэсьляе гісторыю нашага народу, як асобнай нацыянальнасьці, а ня тая „белая“ афарбоўка, якая зусім пазбаўляе нас права на гістарычную мінуўшчыну і акрэсьляе наш народ, як нейкую каляровую адмену рабоў „рускай“ нацыянальнасьці“. Далей: „трымаючыся назову „Беларусь“, мы ня можам пачынаць нашай гісторыі“, бо, бачыце, „ад часу наданьня нам гэтага назову гісторыя нашага народу канчаецца, і пад гэтым тэрмінам мы ня маем сваёй гістарычнай мінуўшчыны“ [2]). Бачыце, Ластоўскі хвалюецца, што пад назовай „Беларусь Савецкая“ мы ня маем князёў, баяр, што ўзяты рашучы курс на ліквідацыю кулацтва як клясы і што-ж гэта тады за гісторыя для Ластоўскага, што гэта за мінуўшчына, калі ўсё гэта часткай загінула, а часткай гіне. Але-ж ён марыць, што гэта ўсё (памешчык, князь, кулак) загінула і гіне не назаўсёды, што гэта, на яго думку, трэба вярнуць і таму ён заклікае тых, „хто маніцца працаваць на ніве нацыянальнага адраджэньня крыўскага народу“, і той, хто бу-

---

[1]) „Крывіч“ № 10(2). Аб назовах „Крывія“ і „Беларусь“, стар. 44.
[2]) „Крывіч“ № 10(2). Абшар, займаны крывічамі, і крыўская колёнізацыя, стар. 35-36.

дзе працаваць пад назовай „Беларусь“, а ня „Крывія“, „гэтым самым ужо робіць шкодную для сваёй-жа працы карыкатурную нелёгічнасьць і адразу-ж ставіць палку ў калясьніцу нацыянальнага руху“ [1]).

Разам з гэтым ён кляймуе ганьбай тых, хто „часьцю з рэакцыйных крыніц, а часьцю на грунце зьменавехаўства людзей, па складу душы свае чорнае, якія сьвежа перамаляваліся ў „чырвоных“, паднялі гвалт супроць імён „Крывія, крывічы“. Сьвежыя адэпты „чырвонасьці“ з роспачай хапаюцца за белы фігавы лісток „общерускосьці“, як за апошні ратунак ад паглынаючай іх чырвонасьці“ [2]). Ганьбуе ён і тых, хто не прызнае крыўскай тэорыі Ластоўскага, і тых, хто працуе на карысьць Савецкай Беларусі. Гэту крыўскую тэорыю, гэты заклік контр-рэволюцыянэра Ластоўскага жыва ўспрынялі Лёсікі, Некрашэвічы, Шлюбскія, Касьпяровічы і іншыя нацдэмы і, як мы ўбачым далей, у сваіх „навуковых“ працах стараліся ўсімі магчымымі сродкамі падвесьці пад яе „навуковы“ фундамант. Усе гэтыя ўстаноўкі паказваюць на мэтаімкнёнасьць Ластоўскага цягнуць назад, а не наперад, на яго злосную варожасьць да ўсяго расійскага і да „чырвоных адэптаў“—бальшавікоў.

Мы бачым, што, як толькі Ластоўскі зьявіўся ў Менск і стаў на чале ўсяго напрамку навуковай работы раней Інбелкульту, а потым Белар. Акадэміі Навук, як неадменны сакратар і загадчык катэдры этнографіі, зараз-жа ім быў даны загад адносна навуковага давядзеньня, што назва „Беларусь“ зьяўляецца „наноснай“ з „Маскоўшчыны“ і што яна замацавалася толькі ў часы Кастрычнікавай рэволюцыі. У гэтым напрамку запрацавала ў першую чаргу катэдра этнографіі, а далей і інстытут гісторыі і краязнаўства. На акадэмічных навуковых сходах горача абмяркоўваецца даклад акадэміка-гісторыка Ясінскага і этнографа Шлюбскага аб паходжаньні назвы „Белая Русь“.

Заказы Ластоўскага заўсёды выконваюцца вельмі хутка і акуратна. Ужо ў 1927 г. контр-рэволюцыянэр Шлюбскі, на падставе фольклёрнага матар'ялу (які ён так старанна зьбіраў ад розных „самабытных“ старых бабулек-варажэй), стараецца давесьці, што назва „Беларусь“ замацавалася ўсяго толькі ў часы рэволюцыйнага будаўніцтва БССР. Вось што ён піша пра гэта: „У некалькіх тысячах апублікаваных беларускіх народных песень знаходзім толькі 15 нумароў, у якіх ужываецца назва „Белая Русь“... іх трэба вышукваць і запісваць, бо яны цікавы ў вырашэньні пытаньня часу ўзьнікненьня назвы „Белая Русь“ і ступені яе распаўсюджаньня... Прыведзеныя песьні бясспрэчна маскоўскага паходжаньня, назова „Беларусь“ уведзена ў іх не ў часы старажытныя, а бязумоўна ў часы рэволюцыйнага будаўніцтва БССР, калі гэта назова атрымала шырокае распаўсюджаньне“ [3]). Вось з гэтай выняткі мы ўжо маем першыя вынікі заказу Ластоўскага.

Нам прыдзецца тут часта спыняцца на контр-рэволюцыйным часопісу Ластоўскага „Крывіч“ ня толькі таму, што праз яго Ластоўскі рабіў усе свае заказы, якія вельмі акуратна выконваліся нац.-дэмакратамі, але і таму, што ўвесь час у ім супрацоўнічалі і некаторыя навуковыя працаўнікі Беларус. Акадэміі Навук і Белар. Дзярж. Унівэрсытэту. Тут, да рэчы, трэба адзначыць, што паміж нац.-дэмакратамі ў БССР быў поўны контакт з усімі замежнымі беларускімі нацыянал-фашыстымі.

---

[1]) Тамсама.
[2]) „Крывіч“ № 10(2). Аб назовах „Крывія“ і „Беларусь“, стар. 44-45.
[3]) „Наш Край“ № 1(16). Год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу, стар. 31.

Нац.-дэмократы з Беларускай Акадэміі Навук пасылалі і зьмяшчалі свае артыкулы ня толькі ў ковенскім „Крывічы“, але і ў рыскіх беларускіх выданьнях палкоўніка Езавітава, а таксама і праскіх выданьнях, адначасова друкуючы свае „творы“ і ў выданьнях Савецкай Беларусі. З другога боку, у выданьнях БАН друкаваліся працы такога фашыстага, польскага дыфэнзыўшчыка, як Янка Станкевіч.

Працуючы ў контакце з замежнымі фашыстымі Луцкевічамі, Станкевічамі, Астроўскімі, Езавітавымі ды інш., беларускія нац.-дэмократы зьяўляліся непасрэднымі агентамі як унутранае, так і замежнае буржуазнае класы. Яны абапіраліся як на аджываючага свой век „роднага“ кулака ў БССР, так і на буржуазныя клясы Заходняй Беларусі. Не пакідаючы марыць аб сваёй „незалежнай“ буржуазнай беларускай рэспубліцы, нац.-дэмократы ўсімі магчымымі для іх сродкамі стараліся дапамагчы інтэрвэнтам задушыць БССР. Напрыклад, Шлюбскі, седзячы тут у Інбелкульце, праз той-жа „Крывіч“ так выказвае свае ідэалы: „Дзеля ўзросту беларускай нацыянальнай сьвядомасьці абсолютна патрэбна прызнаньне і адчуваньне ўсебеларускай нацыянальнай еднасьці: палітычнай, аб'яднаньня ўсіх беларускіх зямель у незалежную беларускую (крыўскую) дзяржаву“ [1]).

Ластоўскі, ахрысьціўшы беларусаў крывічамі, пачынае шукаць і продкаў для гэтых крывічоў і пры дапамозе прыцягваньня за валасы Птолёмэя знаходзіць такіх продкаў, якіх ён „нарэчэ“ волатамі. Ён піша: „Географ II ст. па Н. Х. Птолемёй даволі падробна пералічвае нават малыя *пляменьні* тутэйшых жыхароў, але больш за ўсё для нас цікава, што затоку, у якую ўліваецца Вісла з поўдня і Нёман з усходу, называе ён Вэнэдзкай... Ва ўсходнім кутку гэтай затокі ён памяшчае Вэнэдзкае племя Велетаў-Люціча̂ў *па нашаму—Волатаў*“ [2]). І далей, ён ужо для ўгрунтаваньня гэтай сваёй тэорыі прыцягвае і археолёгію, кажучы, што „магілы бронзавага веку ў Барысаўшчыне і некаторых паветах Віцебшчыны і Магілеўшчыны народ называе „валатоўкі“ г. зн.— магілы Волатаў, якіх наш крывіч лічыць сваімі беспасярэднымі продкамі“ [3]). „Гэтыя даныя гавораць, дадае ён, што да заняцьця немцамі торговыя шляхі ад бурштынавых берагоў у Грэцыю, знаходзіліся ў руках славянскага племя Волатаў-Люціча̂ў“. Нацдэмы даводзяць тое, што сялянства заве старадаўныя курганы валатоўкамі не таму, што яны вялікіх памераў, а таму, што там пахаваны нейкія вялікія людзі—волаты. Дарэмна і спасыланьне Ластоўскага на археолёгію, якая гаворыць якраз адваротнае, ня тое, што хочацца давесьці Ластоўскаму, калі ён даводзіць, што ад „іспакон веку“ тут жылі „крывічы“. Археолёгічныя-ж даныя даводзяць, што на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў старадаўныя часы якраз жылі літоўскія ды фінскія плямёны і не такія ўжо вялікія, як волаты Ластоўскага. Супроць тых, хто не прызнаваў гэтай тэорыі, Ластоўскі змагаўся ўсімі сродкамі, аж да звальненьня са службы ў Белар. Акадэміі Навук.

Як толькі Ластоўскі ў „Крывічы“ гукнуў, дык адразу ў Белар. Акад. Навук нацдэмы адгукнуліся на гэту тэорыю. Даецца заказ акадэміку Ясінскаму, і той піша навуковую працу пад назваю „Два

[1]) „Крывіч“ 1925 г. № 9(1). Кнігасьпіс і крытыка, стар. 106.

[2]) „Крывіч“ 1925 г. № 10 (2). Пачатны летапіс аб крывічох у асьвятленьні гістарычнай крытыкі, стар. 51-52.

[3]) Тамсама.

словы аб волатах“. Але-ж ганьба, крытычна разглядаючы рад навуковых прац былых расійскіх і замежных вядомых вучоных аб волатах і даючы ім належнае тлумачэньне, ак. Ясінскі, на падставе ўсяго вывучанага ім матар‘ялу, даводзіць, што волаты, як племя, наогул не існавалі нідзе і ніколі і не маглі быць, як таго хочацца Ластоўскаму, яшчэ і продкамі яго крывічоў. У канцы сваёй працы ак. Ясінскі кажа, што: „ўжо даўно настаў час, каб адмовіцца ад імкненьня тлумачыць народныя вераньні аб волатах, ставячы іх ўзьнікненьне ў сувязь з якімісь велетамі або вільцамі або хаця-б з сапраўднымі люцічамі“, і далей ён дадае, што „пажадана, каб сучасныя дасьледчыкі ўзьняліся на вышыню хронографа 1484 году: „тогда бо быша чудове на земли, рекше волотове“ [1]).

Але як-жа можа адмовіцца нацдэм ад сваёй тэорыі, як можа адмовіцца контр-рэволюцыянэр ад здрадніцтва, ад замахаў на зьнішчэньне дыктатуры пролетарыяту? Не, ня можа, пакуль пільны вартаўнік дыктатуры ня возьме яго за карак. Так і тут.

Касьпяровіч бярэцца ў „Маладняку“ пярэчыць ак. Ясінскаму. Нацдэм Касьпяровіч мае больш ведаў у гэтай галіне за Ясінскага і вось ён даводзіць, што „сучасныя *выдатныя* спэцыялістыя трымаюцца зусім іншага погляду; так, Кагараў лічыць спрэчным супастаўленьне „волота“ з кельцкімі, а Ляпуноў сьцьвярджае, што магчыма, што волат—„гигант“, „исполин“—атрымалася ад уласнай назвы якогась народу“ [2]). Вось мы бачым, хто нац.-дэмаўскія выдатныя вучоныя— Кагараў, Ляпуноў ды ўжо, вядома, і Ластоўскі, Шлюбскі і сам Касьпяровіч, гэта ўжо-ж вядома і бяз назваў.

Далей, у сваім разборы працы Ясінскага, Касьпяровіч, прыводзячы „сваіх“ „выдатных спэцыялістых“ для падтрыманьня нац.-дэмаўскай тэорыі, гаворачы, што: „катэдра этнографіі Беларускай Акад. Навук уключыла гэта пытаньне ў плян сваёй чыннасьці“ [3]), кажа, што хоць Ясінскі і хутка адазваўся на пастаўленае пытаньне нац.-дэмаўскаю катэдраю аб давядзеньні, што „волаты“—продкі крывічоў, а апошнія— амаль усіх славян, але-ж: „праца яго не дае нічога ў справе высьвятленьня пытаньня, дый паказвае яго хоць і хуткую, але-ж надуманую адзыўнасьць на ўзьнятае да вывучэньня пытаньне [4]).

Нездаволіўшыся вырашэньнем пытаньня Ясінскім, Касьпяровіч друкуе 20 тысяч анкет з пытаньнямі, ці ня чуў хто дзе-небудзь аб волатах, і пры дапамозе Наркамасьветы рассылае іх па ўсёй Савецкай Беларусі і за межы. Атрымаліся „ласкавыя“ адказы ад панскай Кракаўскай акадэміі і ад фашыцкага палкоўніка Езавітава з Рыгі. У выніку ўсіх гэтых анкет Касьпяровічам пішацца праца пад назваю „Волаты“ і ў 1930 годзе выдаецца Акадэміяй з вялікім рэзюмэ на нямецкай і расійскай мовах. Што-ж хоча давесьці нацдэм Касьпяровіч у гэтай сваёй „навуковай“ працы, якую выдалі так, каб можна было ўвесь „цывілізаваны сьвет“ пазнаёміць з *вывадамі* яе? На працягу 8 друкаваных аркушоў Касьпяровіч, опэруючы рознага роду гістарычна-геаграфічнай номэнклятурай, празнымі народнымі казкамі і паданьнямі, „даводзіць“, што тэорыя Ластоўскага аб волатах, а гэта значыць і аб

[1]) Ясінскі. Два словы аб волатах. Працы клясы гісторыі БАН, т. III, стар. 216 (18).

[2]) „Маладняк“ 1929 г. № 11-12. Касьпяровіч. Рэцэнзія на працу Ясінскага, стар. 129-220.

[3]) Тамсама, стар. 219.

[4]) Тамсама, стар 222.

крывічох, цалкам пацьвярджаецца „навуковымі довадамі“. Ён у сваёй працы зьмяшчае некалькі карт з паказаньнем, што гэтыя продкі крывічоў (беларусаў) займалі вялізную тэрыторыю, куды большую, чым сучасная БССР, і галоўным чынам пашыраліся яны на ўсход і поўдзень.

На першы погляд здавалася-б, навошта патрэбны былі Касьпяровічу ўсе гэтыя доказы аб волатах, крывічох і іх тэрыторыі? Але-ж вось мы пабачым, што гэта патрэбна для далейшых тэорый і вывадаў Ластоўскага.

Для Ластоўскага мала давесьці, што продкамі сучасных беларусаў было „магутнае племя волатаў-крывічоў.“ Ён усялякімі сродкамі стараецца давесьці, што крывічы калісьці мелі вялізныя колёніі. Для доказу сваіх „вывадаў і дапушчэньняў“, як кажа сам Ластоўскі, ён лічыць самымі галоўнымі аргумэнтамі гістарычна-географічную номэнклятуру. У сувязі з тым, што апошняя цесна зьвязана з лінгвістыкай, кажа Ластоўскі, ён у сваім часопісу „Крывіч“ зьвяртаецца да „крыўскіх“ лінгвістых з прапановаю „прылажыць асаблівую стараннасьць у досьледах географічнай номэнклятуры, якая мае аграмаднае значэньне ня толькі для гістарычнай географіі, як навукі, але можа праліць многа сьвятла на гістарычнае жыцьцё крыўскага народу, імені якога прыслужнікі чужацкай дзяржаўнай політыкі старэнна ўнікалі і ўнікаюць на балонах гістарычных навук, але якога ніяк ня можа выкрасьліць з балонак старажытных пісьменных помнікаў і той аграмаднай кнігі нашага народу, якая называецца крыўскай зямлёю“ [1]). Так заклікаючы да працы „крыўскіх“ лінгвістых, сам Ластоўскі практычна паказвае, як гэта лёгка можна пры дапамозе такой номэнклятуры і пры спасыланьнях на „паважаных“, кажа ён, а мы скажам самых махровых, чорнасотніцкіх царскіх профэсароў, як Барсаў і Ілавайскі, навукова давесьці, што „крывічы-беларусы“ мелі такія вялізныя колёніі, як пачынаючы ад Пултуска (Люблінскай губ.) і канчаючы сутокамі рэк Акі і Волгі і Белавозера; Ластоўскі кажа: „што абшар, на які дасягала колёнізацыя крывічоў... можна абмежаваць на поўначы Белавозерам, ад апошняга граніца крыўскае колёнізацыі простай лініяй ідзе на захад немаль да вусьцяў р. Дзьвіны, адгэтуль па сярэдняй Вяльлі і Нёману мяжа крыўскіх пасяленьняў, агібаючы крывой лініяй тэрыторыю літвінаў, ідзе на паўднёвы захад да г. Пултуску Любл. г., ад Пултуску мяжа ідзе простай лініяй на Ковель, адгэтуль—да сярэдняга цячэньня р. Варонежа, ад апошняй—да сутокаў р.р. Акі і Волгі, а адгэтуль да Белавозера“ [2]). Вось які абшар займаўся крывічамі Ластоўскага. Тут мы бачым, што і карты распаўсюджаньня волатаў Касьпяровіча амаль што супадаюць з гэтымі „межамі“ за выключэньнем усходняй мяжы, бо, мусіць, Касьпяровічу было няёмка ці нават брыдка адразу ўсё захапіць. І ад вышэйпаданага абшару „Крывіч“ Ластоўскага выводзіць далейшую *тэорыю,* што крывічы, зьліўшыся з фінскімі плямёнамі, сталіся „галоўнай асновай“ „велікарускай народнасьці“, а палуднёвая крыўская колёнізацыя ў значнай меры лягла ў аснову украінскай народнасьці“, і далей дадае, што з усяго гэтага „трэба зрабіць вывад аб вялікай бяссэнсоўнасьці мянюшак „Русь, рускі“, якімі была ахрышчана Крыўская зямля і народ сьпярша пануючай выдатнай дынастыяй, і „Беларусія, беларус“... якія пасьля былі накінуты крывічом маскоўскай уладай у адрозьненьне ад „вялікаруса“

[1]) „Крывіч“ № 10 (2). Абшар, займаны крывічамі, і крыўская колёнізацыя, стар. 28.

[2]) „Крывіч“ 1925 г. № 10 (2). Абшар, займаны крывічамі, і крыўская колёнізацыя, стар. 34.

і „Вялікарусії“ [10]). Вось вам волаты, крывічы, Крывія, далоў Беларусь Маскоўшчыну,—усе згодны ў адным, як мы бачылі вышэй,—Ластоўскі, Шлюбскі, Касьяровіч і толькі кожны з сваімі нязначнымі зьменамі, а напрамак адзін—прэч ненавісную ім назову Беларусь Саветаў і няхай жыве Крывія Ластоўскіх.

Мы ўжо бачылі з ранейпаданага прыкладу, як фашыцкія і польскія вучоныя ў сваіх навуковых працах па археолёгіі ламаюць пікі аб тым, каб давесьці, што культура іх нацыі вышэй за культуру другой нацыі. Ластоўскі таксама стараецца давесьці, што крывічы, г. зн. беларусы, пачынаючы з старадаўных часоў, на працягу ўсёй сваёй гісторыі мелі вышэйшую культуру, чым іншыя нацыі, у прыватнасьці, чым вялікаруская і украінская. Так, ён даводзіць, што „крыўскія (беларускія) школы з іх школярнасьцю папярэдзілі..: Украіну і ў многім прышчапілі ёй свой тып, а ў Маскоўскае царства ў канцы XVII ст. тып гэтых (крыўскіх) школ цалкам перанесены. Літаратурная крыўская мова... сталася агульнай для ўсёй Заходняй Русі, не выключаючы і Украіны, і ўвайшла... у вялікарускую (маскоўскую) пісьменнасьць“ [2]). І далей, у 1926 годзе ён заходзіць яшчэ далей, калі гаворыць: „каб ня наша старая пісьменнасьць, ня было-б у Расіі Пушкіна. На нашых помніках разьвівалася і шліфавалася цяперашняя расійская мова... на нашай мове ўзрастала адраджэньне Польшчы ў XV і XVI ст. і сыцілася ў часе заняпаду яе дзяржаўнасьці ў XIX ст.“ [3]). Каб ня было крывічоў, ня было-б Пушкіна, каб ня было крывічоў, ня мелі-б пісьменнасьці ні Украіна, ні Вялікаросія,—вось да якой бязглуздзіцы можа дагаварыцца чалавек, памяшаўшыся на нацыянал-фашыцкіх тэорыях.

Далей, Ластоўскі ў 1927 г., ужо седзячы ў БССР, у апошнім нумары свайго „Крывіча“ асабліва абураецца супроць такога палажэньня: „Культура Белінскага, Чарнышэўскага, Плеханава, Леніна павінна стаць і стане пануючай над культурамі ўсіх народаў, якія насяляюць СССР... а прыдзе час і ва ўсім сьвеце“. На гэта Ластоўскі, працытаваўшы словы Пушкіна: „зьліюцца ўсе славянскія руччы ў рускім моры“, кажа: „Знача дух заборчага маскоўскага імпэрыялізму за апошнія 100 гадоў ня толькі ня зжыўся, але раздабрэў і вырас, бо ўжо не агранічваецца адным славянствам, але імкнецца распашырыцца на ўвесь свет“ [4]). Хто гэта можа даводзіць, што культура Леніна, Плеханава, Чарнышэўскага павінна стацца пануючай, што-ж тады будзе з „крывічамі“, з „крывічанскай культурай“, ад якой, паводле Ластоўскага, „сыцiліся“ маскоўская, украінская ды іншыя культуры, гэтага ня можа зьнесьці нацыянал-фашыцкі гонар былога міністра „крывічанскай зямлі“ Ластоўскага.

Да чаго даходзіць азьвярэлы нацыяналізм Ластоўскага, гэта найбольш яскрава выяўляецца, калі ён разглядае гісторыю рэволюцыйнага руху і Кастрычнікавай рэволюцыі ў Расіі. Той чалавек, які ўсімі фібрамі сваёй контр-рэволюцыйнай душонкі ненавідзіць пролетарскую рэволюцыю, які ўвесь час змагаўся з ёй, аднак і тут, калі справа ідзе аб нацыянальным моманце, гатоў працягваць сваю тэорыю аб тым, што ўсё выдатнае, усё лепшае робіцца толькі крывічамі Ластоўскага, што ён і робіць у сваім „Крывічы“; так, ён кажа і выхваляецца, што

---

[1]) Тамсама, стар. 35.
[2]) „Крывіч“ 1925 г. № 10 (2). Запіскі, стар. 107-108.
[3]) Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі, стар. 5.
[4]) „Крывіч“ 1927 г. № 12. Больш сьцісласьці ў тэрмінолёгіі, стар. 78.

ў Менску ў першым горадзе „завязалася рэвалюцыйная народніцкая організацыя“, што тут друкаваліся першыя нумары „Чорнага перадзелу“, а таксама „першай у Расіі работніцкай газэты „Зерно“ і проклямацыя з прычыны забойства Аляксандра II. У Менску, а не ў Маскве ці ў Ніжнім адбыўся першы зьезд марксыцкі (1898 г.)“ [1]). Бачыце, усё як-быццам ідзе на руку Ластоўскаму. Далей, гаворачы аб ліпнёўскіх падзеях у Пецярбурзе супроць часовага ўраду, на падставе складу арыштаваных таварышоў бальшавікоў у „крэстах“, ён кажа, што „павылаўлялі тады ўсіх бальшавіцкіх павадыроў і пасадзілі ў „крэстах“, сабралося аж 103 лідараў і агітатараў; паводле нацыянальнага агляду было заарыштавана украінцаў і беларусаў—75, эўрэяў—20 (паміж імі Троцкі і Каменеў), латышоў—2, 1 прыбальтыцкі немец і ўсяго толькі 6 вялікарусаў “[1]). Для Ластоўскага не існавалі тысячы заарыштаваных у тыя часы ня толькі комуністых, але нават і беспартыйных рабочых і салдат. Для яго не існавалі рабочыя і сяляне ўсіх нацыянальнасьцяй, якія вялі тады барацьбу супроць часовага ўраду на ўсім абшары былой Расіі, бо гэта-ж тады супярэчыла-б яго тэорыі аб пераважнасьці крывічоў (беларусаў), а ён, каб давесьці сваю тэорыю, бярэ нават няпоўныя лічбы заарыштаваных ды імкнецца, бачыце, давесьці, што вялікарусы „маскоўцы“ амаль ніякага ўдзелу ня прымалі ў барацьбе супроць буржуазіі, у барацьбе за ўладу Саветаў.

Пасьля таго як адбылася Кастрычнікавая рэвалюцыя і ўладу ўзялі рабочыя ды сяляне, Ластоўскі і тут, каб давесьці, што справа заваёў Кастрычніка была справаю ня ўсіх рабочых і сялян усіх нацыянальнасьцяй, але справаю толькі больш прыгнечаных за царызмам нацый, кажа: „Калі бальшавікі перамаглі ўжо і стварылі свой першы ўрад—„раду народных камісараў“, то распадзел урадавых абавязкаў наступіў такі: кіравецтва надзвычайнай камісіяй узяў віленец, паляк Дзяржынскі, камісарыят закардонных і вайсковых спраў эўрэй Троцкі, камісарыят народнай асьветы украінец Луначарскі, кіравецтва III інтэрнацыяналам эўрэй Зіноўеў, а прэдседацелем быў Ленін, расіец, але татарскага паходжаньня, ды ўсё-ж такі чалавек не вялікарускай псыхікі“ [2]). Вось бачыце, усе ёсьць, а вялікарусаў „маскоўцаў“ паводле Ластоўскага няма; і далей, робячы вывад, ён пытае: „Што ўсё гэта нам кажа?“ і дае наступны адказ: „што бальшавіцкі „ўзрыў“ ня быў духоўным творам вялікарускага народу, ня быў узрывам расійскай нацыянальнай інтэлігенцыі, — маскоўская нацыянальная інтэлігенцыя актыўна змагалася супроць бальшавіцкай „навалы“, а калі міма ўсяго гэтага бальшавіцкая „апокаліптычная бэстыя“ перамагла, то маскоўская нацыянальная інтэлігенцыя ў большасьці сваёй апынулася ў эміграцыі“ [4]). Нацдэму Ластоўскаму надзвычай не падабаецца, што „апокаліптычныя бэстыі“ бальшавікі перамаглі і прымусілі частку белагвардзейцаў уцячы за межы. Ён надта шкадуе іх, бо гэта-ж яны аднаго поля ягады, разам змагаліся і змагаюцца ўвесь час супроць улады Саветаў, супроць ненавісных Ластоўскаму рабочых і сялян, якія, адкінуўшы ўсе нацыянальныя абмежаванасьці, усе нацыянальныя забабоны, разам дружна змагаліся ў часы Кастрычніка супроць буржуазіі і памешчыкаў розных нацыянальнасьцяй дый змагаюцца і цяпер супроць усясьвет-

---

[1]) Тамсама, стар. 77.
[2]) „Крывіч“ № 12. Больш сьцісласьці ў тэрмінолёгіі, ст. 77.
[3]) „Крывіч“ 1927 г. Больш сьцісласьці ў тэрмінолёгіі, ст. 77.
[4]) Тамсама.

ных эксплёататараў, што самі і праз контр-рэволюцыянэраў тыпу Ластоўскіх стараюцца сарваць соцбудаўніцтва першай у сьвеце дзяржавы рабочых і сялян. Але-ж цікава адзначыць і падтасоўку фактаў, якую Ластоўскі робіць, гаворачы пра склад Саўнаркому. Па яго выходзіць, што СНК тады складаўся толькі з т.т. Леніна, Дзяржынскага, Троцкага і Луначарскага. Дзе-ж усе іншыя трынаццаць тагочасных наркомаў? Дзе-ж Мілюцін, Антонаў, Крыленка, Дыбенка, Скварцоў і іншыя таварышы? Вось і тут на гэтым яскравым прыкладзе мы бачым, як Ластоўскі падтасоўвае факты з пэўнай нацдэмаўскай контр-рэволюцыйнай мэтаю, каб давесьці пераважнасьць сваёй тэорыі, тэорыі аб волатах, крывічох, іх колёніях і іх пераважнай культуры над культурамі другіх нацыянальнасьцяй. Каб давесьці гэта, ён ня грэбуе падтасоўваньнем гістарычных фактаў. Бо гэта яго мэта, гэта яго ідэал. І вось, для „навуковага" абаснаваньня сваіх этнолёгічных тэорый аб волатах, крывічох і г. д. контр-рэволюцыянэры Ластоўскі, Шлюбскі, Касьпяровіч і К°, апрача некаторых археолёгічных матар'ялаў, гістарычна-географічнай номэнклятуры, карысталіся таксама і фольклёрам. Недарма катэдра этнографіі Акадэміі Навук падзялялася толькі на дзьве камісіі: 1) камісію вывучэньня фольклёру Беларусі і 2) камісію па вывучэньні матар'яльнай культуры Беларусі. У гэтых двух напрамках і вялася, галоўным чынам, як зьбіральніцкая, так і дасьледчая работа катэдры. Спачатку мы спынімся на разглядзе фольклёрнага матар'ялу, які зьбіраўся і выдаваўся нацдэмамі. Чаму і для чаго нацдэмократы так старанна зьбіралі ўсё старое і „самабытнае"? Пра гэта ясна гаворыць контр-рэволюцыянэр Шлюбскі яшчэ ў часы грамадзянскай вайны ў 1919 г. Ён кажа: „До безумия много в этом народе плохого, но в каждом нравственно забітом мужиченке, каждом самом мрачном уголке жизни таится много ценностей, которые, не выявляясь культурному миру, гибнут, как гибнут и уничтожаются в современную страшную, великую эпоху и другие культурные ценности" [1]). Вось, даўшы такую ўстаноўку, ён там-жа дае і програму што зьбіраць. Ён кажа, што зьбіраць трэба сьпяшацца таму, „что в народной жизни совершается теперь трагическая ломка: древняя обрядность, носившая ореол святости, исчезает и ничем не заменяется. Бесследно исчезло кумование, исчезают колядные торжества—вертеп, звезда, ряженье, терешки, ящури, за ними исчезают купальные костры; исчезла сказка, гибнет песьня, исчезает и нынешний свадебный обряд" [2]). Бачыце, як Шлюбскі ў самы востры момант барацьбы рабочых і сялян супроць окупантаў белапалякаў, скрыстоўваючы савецкі друк, выступае супроць пролетарскай рэволюцыі. Ён ненавідзіць гэты „страшны" для яго момант, бо рэволюцыя, ломячы ўсю старую абраднасьць, нясе з сабою новае жыцьцё, новыя рэволюцыйныя песьні, новы рэволюцыйны, непадобны да старога быт.

Паўстае пытаньне,—ад каго-ж зьбіраць такі „дарагі" для нацдэмаў „самабытны" матар'ял, які пачаў замяняцца новым, рэволюцыйным? Для ўсіх іх гэта ясна: ад найбольш консэрватыўных людзей і ў першую чаргу ад старых бабулек, варажбітак, гэтых галоўных „хранительниц" рознай крыўскай старасьветчыны. Ні ў якім разе ні этно-

---

[1]) Известия Велижского Уездного Совета Р. К. К. и Б. Д. № 138 (191). Велиж 1919 г. О собирании материалов по этнографии, стар. 2.

[2]) Тамсама.

графы Ластоўскі, Шлюбскі, Касьпяровіч, ні лінгвістыя Лёсік, Гарэцкі, Некрашэвіч ня могуць лічыць каштоўнымі і навуковымі матар'ялы, што былі-б сабраны ад моладзі, быўшай у Чырвонай арміі, у горадзе, хаця-б, нават, і ад старых нідзе ня быўшых, але граматных людзей, і што адбівалі-б у тэй ці іншай меры новы рэволюцыйны быт.

Шлюбскі ва ўступе да першага тому сваіх „Матар'ялаў да вывучэньня фольклёру і мовы Віцебшчыны" дае як-бы навучаньне, адкуль ён запісваў матар'ял і як павінны рабіць другія яго пасьлядоўцы; ён кажа, што „матар'ял запісан у беларускіх вёсках... і галоўным чынам са слоў жанчын, якія ў сучасны момант, дзякуючы агульнажаночай консэрватыўнасьці, зьяўляюцца галоўнымі захоўцамі вуснай беларускай народнай творчасьці. Пераважная большасьць запісаў зроблена са слоў няпісьменных жанчын... гарадзкая культура... не датыркнулася беспасярэдна да мотываў іх нацыянальнай творчасьці" [1]). У непасрэднай-жа інструкцыі аб зьбіраньні народнай творчасьці, надрукаванай у тым-жа самым годзе ў § 17 ён дазваляе запісваць толькі „са слоў старых жанчын. У выпадку адсутнасьці паміж імі асоб, ведаючых песьні, казкі", ён кажа, „што запісваць можна і ад іншых асоб, толькі „робячы перавагу няпісьменным" [2]).

Такую самую ўстаноўку, калі мы паглядзім ніжэй, для запісаў народнай творчасьці дае і былы беларускі палкоўнік Езавітаў, седзячы за межамі Савецкай Беларусі. Ён кажа, што „пры запісваньні слоў кіравацца гаворкай карэнных жыхароў, пераважна тых, якія не выяжджалі за межы свайго павету... значную цікавасьць выяўляе мова... *няпісьменных жанчын* [3]). Хто-ж павінен брацца, на думку палкоўніка, за гэту навуковую працу і хто павінен весьці і вядзе яе? І на гэта запытаньне мы зараз-жа атрымліваем адказ і вось які: „Настаўнікі-беларусы, а таксама і вучні старшых клясаў былых настаўніцкіх і духоўных сэмінараў на Беларусі... яшчэ задоўга да сучаснага росквіту беларускага нацыянальнага адраджэньня, прарабілі вялікую працу па зьбіраньню матар'ялаў, лёгшых у аснову... і адыграўшых надзвычайна вялікую ролю ў першыя дзесяцігодзьдзі нашага нацыянальнага адраджэньня" [4]). Вось мы бачым пэўную мэтодолёгію Езавітавых-Шлюбскіх у напрамку як, што і ад каго зьбіраць. Ад старых консэрватыўных, няпісьменных жанчын, настаўнікаў і вучняў духоўных сэмінарый, вялікая роля ў нацыянальным адраджэньні якіх выявілася. Усё гэта, як мы бачым, робіцца далей і ў працах нацдэмаў тут, у Савецкай Беларусі. Падаючы руку за межы, яны ўсё робяць для таго, каб давесьці, што толькі на аснове паданьняў старых бабулек можна будаваць і аднавіць стары „крыўскі" быт. Усё гэта робіцца, каб пазбыцца новага жыцьця, пазбыцца новага рэволюцыйнага быту, выратаваць старасьветчыну і „нацыянальнае адраджэньне". Ластоўскія, Шлюбскія, Езавітавы, Некрашэвічы усе згаджаюцца на адным,—прэч рэволюцыйны новы быт, прэч пролетарскую культуру, нацыянальную па форме і пролетарскую па зьместу.

Цяпер разгледзім, што-ж контр-рэволюцыйныя нац.-дэмократы раяць зьбіраць для сваіх „навуковых" твораў па этнографіі? Яны раяць зьбіраць усё рэакцыйнае, усе старыя перажыткі, усё прымітыў-

---

[1]) Шлюбскі. Матар'ялы да вывучэньня фольклёру і мовы Віцебшчыны, ч. I, стар. 1.

[2]) „Наш Край" 1927 г. № 2 (17). Ад каго і як трэба запісваць, стар. 20.

[3]) Езавітаў. Інструкцыя да зьбіраньня народнага слоўніка тэрміналёгічнага матар'ялу ў беларускай мове, стар. 14.

[4]) Езавітаў. Бярэцеся ўсе за навукова-дасьледчую справу, стар. 3.

нае, забабоны, праклёны і галоўным чынам розную папоўшчыну. Вось установка наццэма Шлюбскага ў яго інструкцыі, што і як зьбіраць. Як мы ўбачым далей, гэту ўстаноўку, пачынаючы з 1919 году, ён праводзіў аж да апошніх часоў, праводзіў упарта, настойліва. Вось што, паводле яго інструкцыі, трэба зьбіраць „заговоры, заклятия, поверья, суеверные обычаи, приметы, божба, проклятия, ругань. Песьни обрядовые: а) песни колядные, масленные, купальские, петровские, никольские, русальные, б) песьни... крестинные, свадебные, „голос“ (плач при погребении)“[1]). Далей у § 6 ён раіць запісваць „духовные стихи, сложенные на темы христианской библии, напр., о Лазаре, кончине мира, страшном суде“ [2]), „поминальные дни, молебствия, часовни, церкви, месточтимые иконы, ахвяры (жертвы: полотенца, яички, масло)“ [3]). Вось займайцеся, савецкія дасьледчыкі, зьбірайце песьні аб „Лазары“, „канцы сьвету“, „страшным судзе“, вывучайце гэта, бо паводле Шлюбскага, як мы бачылі раней, Кастрычнікавая рэволюцыя—гэта для яго „канец сьвету“, рэволюцыя губіць усё старое.

Прайшло колькі год. Скончылася грамадзянская вайна. Пролетарыят, закасаўшы рукі, пачаў будаваць сваё жыцьцё, пачаў адбудоўваць разбураныя за часы імпэрыялістычнай вайны фабрыкі і заводы і будуе новыя. Пачаў нараджацца новы рэволюцыйны быт, а Шлюбскі нічога гэтага наўмысьля ня бачыць. Ён заклікае да таго-ж, да чаго заклікаў і ў 1919 годзе ў сваёй програме па зборы фольклёрнага матар'ялу. У артыкуле „Што трэба запісваць?“ ён кажа, што трэба запісваць „замовы, а таксама заклінаньні, закляцьці, адкляцьці, кляцьбу, зьневажаньні, бажбу, праклёны“ [4]). Далей, у зьбіраньні веснавых песен ён асабліва раіць зьбіраць „валачобныя песьні, якія, паводле аўторытэтнага сьведчаньня ак. Карскага, існуюць выключна ў беларусоў. На зьбіраньне валачобных песен трэба зьвярнуць найбольшую ўвагу“ [5]), падкрэсьлівае Шлюбскі. Апрача гэтага, ён таксама і тут у 1928 годзе зноў-жа раіць зьбіраць „духоўныя вершы“ і ўжо дае для іх нават падзелы на групы, так: „духоўныя вершы падзяляюцца на групы—аб скончэньні сьвету, аб страшным судзе, аб „Лазару“, аб „Аляксеі“, „плач Адама“, аб „пятніцы“, вершы з жыцьця хрыста, песьні на прошчу, памінаньні за памерших і г. д.“ [6]).

Адным словам, мы тут бачым, як дарага наццэмам уся тая „спадчына“, чым карміў царызм з яго вернымі слугамі, папамі, ксяндзамі, рабінамі дарэволюцыйную, забітую, цёмную, лапцюжную вёску. Эксплёататарскія клясы царскай Расіі былі зацікаўлены ў тым, каб пры дамозе цемры трымаць у сваіх руках рабочых і вясковую беднату. Для гэтага царызм падтрымліваў розныя дзікунскія, перамешаныя з рэлігійнымі, забабоны; для гэтага ён не даваў магчымасьці вучыцца на роднай мове, не дапушчаў ніякай магчымасьці пранікненьню ў гушчы працоўных мас якога-б там ні было культурнага ўплыву, якіх-бы там ні было сапраўдных навуковых ведаў аб лепшым жыцьці гэтых мас. Эксплёататарскім клясам гэта цемра, забабоншчына была выгоднай

---

[1]) Шлюбскі. Сведения по собиранию устного народного творчества в Белоруссии, г. Велиж, 1919 г., стар. 6.

[2]) Тамсама, стар. 7.

[3]) Тамсама, стар. 11.

[4]) Шлюбскі. „Наш Край“ № 2 (17), 1927 г., стар. 19.

[5]) „Наш Край“ № 4 (31). Програма для запісваньня помнікаў вуснай народнай творчасьці. 1928 г., стар. 42.

[6]) Тамсама, стар. 43.

і патрэбнай для лягчэйшай экономічнай і політычнай эксплёатацыі працоўных. Вось у гэтых старасьвецкіх рознага роду забабонах нац.-дэмократам „что-то слышится родное“, якаясьці „самабытная Беларусь“.

Не гаворачы ўжо пра катэдру этнографіі, працаўнікі якой— Ластоўскі, Шлюбскі ды інш.—займаліся, галоўным чынам, зьбіраньнем, „вывучэньнем“ і выданьнем фольклёру рэлігійнага паходжаньня і зьместу і матар'яльнай царкоўнай культуры, але і лінгвістыя, некаторыя гісторыкі і камісіі мастацтва і музыкі займаліся зьбіраньнем і вывучэньнем царкоўнага матар'ялу і на ім будавалі свае „каштоўныя“ для социялізму навуковыя творы і вывады. Досыць толькі пералічыць некаторыя галоўныя „працы“ нацдэмаў, каб пераканацца ў іх контр-рэволюцыйнасьці. Так, б. віцэ-прэзыдэнт акадэміі Некрашэвіч, „вучоны мовазнаўца“, зьмяшчае ў 1928 г. ў зборніку „Працы клясы філёлёгіі“ свой „навуковы“ артыкул аб мове „кнігі прападобнага атца нашага Касьяна Рымляніна Ераміты“. Лёсік таксама вывучае графіку, правапіс і мову ў „тэстамэнце кн. Саламарэцкага і ў двух другіх документах з гісторыі Саламарэцкіх XVI ст.“

Шчакаціхін піша некалькі тамоў і рад паасобных артыкулаў аб беларускім мастацтве, будуючы ўсе свае працы выключна на царкоўным матар'яле (Бачыце, другога, апроч царкоўнага матар'ялу нацдэмы не маглі знайсьці ў БССР). Анцаў—супрацоўнік камісіі музыкі—таксама „дасьледуе“ беларускую песьню і выдае вялізную працу аб... „калядных песьнях“. У зборніку Гарэцкага і Ягорава, выданым катэдрай этнографіі з портрэтам маткі Гарэцкага (цана 5 руб.) усе песьні запісаны Гарэцкім ад сваёй маткі (66 г.); у гэтым зборніку, апроч хрэзьбінных, вясельных песен, больш дзесятка зьмешчана розных псальмаў царкоўнага паходжаньня.

У працах катэдры этнографіі за 1928 г. Ластоўскі зьмяшчае такую „навуковую працу“, як духоўныя вершы 1702 году“. Тут яшчэ варта адзначыць, як ён, будучы дырэктарам Белдзяржмузэю, арганізаваў у музэі аддзел царкоўнага мастацтва і, езьдзячы ў экспэдыцыі, зьбіраў, галоўным чынам, папоўскія рызы, а потым з дазволу і блаславеньня б. старшыні галоўнавукі Некрашэвіча і наркамасьветы Баліцкага гандляваў з папамі і адзяваў іх у гэтыя рызы (Пра гэта ў пачатку 1929 г. пісалася ў газэце „Зьвязда“).

У працах катэдры этнографіі за 1930 г. (конфіскаваны) Ластоўскі з вялікім замілаваньнем апісвае сабраныя ім у часе экспэдыцыі 1929 году і дастаўленыя ў Дзяржмузэй як „беларускія нацыянальныя каштоўнасьці“ бажніцы і самым падрабязным чынам іх апісвае. Так, ён піша: „Скрынка ўнізе бажніцы прызначана да заховы сьвечак, крыжыкаў, мэдалікаў, сьвянцоных зёлак і г. д. У бажніцы № 7179—17, набытай у в. Асташкавічы ад к. Пунтус, знаходзіліся ў скрыні наступныя рэчы: 2 цэлыя і 1 падпаленая васковыя сьвечкі... мяшочак са сьвянцонымі зёлкамі... 2 бронзавыя мэдалікі і 1 бронзавы крыжык з адломаным вушкам, скарынка сьвянцонага хлеба... Пад адкрытай аркай у тэй самай бажніцы, акром іконы, была бутэлечка са сьвянцонай вадой“ [1]) і г. д. і г. д. Уся гэта „навуковая“ праца складаецца толькі з апісаньня „крыжыкаў“, „сьвечачак“, „іконак“ ды „бутэлечак з сьвянцонай вадой“. Апрача такога апісаньня, ён там і „навукова“ даводзіць, што значыць слова „бажніца“ і дзе і як яно ўжывалася.

[1]) Працы катэдры этнографіі. В. Ластоўскі. т. II, стар. 184.

Ня спыняючыся на цэлым радзе іншых этнографічных прац аб царкоўшчыне і папох, мы толькі прыпомнім, што Шлюбскі ў сваёй програме аб зьбіраньні народнай творчасьці асабліва падкрэсьлівае аб канечнай патрэбе зьбіраць валачобныя песьні, бо, бачыце, Карскі казаў, што гэтыя песьні захаваліся толькі ў беларусаў. Ён і сам вельмі цікавіцца дасьледваньнем вялікадня і ўсіх атрыбутаў, зьвязаных з гэтым сьвятам. Так, ён разам з Некрашэвічам у 1927 г. апрацаваў спэцыяльную анкету і разаслаў яе ва ўсе куткі БССР з запытаньнямі, дзе і як фарбуюць яйкі на вялікдзень. Яны прасілі даслаць весткі ці, нават, і пафарбаваныя яйкі ў Інбелкульт.

У 1927 годзе ў Польшчы, у Варшаве, вышла кніжка „R. Z. Pisanki. Warszawa. 1927 г. ст. 31, і на гэту кніжку Шлюбскі зараз-жа дае ў „Полымі“ рэцэнзію, бо, бачыце, кніжка гэта па Шлюбскага спэцыяльнасьці,—як фарбаваць яйкі. Вось што ён піша ў рэцэнзіі: „Да тэксту даецца 72 здымкі розных узораў фарбаваньня яек. На-жаль“, кажа Шлюбскі, „у гэтых здымках няма вызначэньня,—якія з узораў зьяўляюцца польскімі, а якія беларускімі, што, бясспрэчна, у этнографічных адносінах зьяўляецца вельмі буйным недахопам у разгледжанай цікавай працы“ [1]).

Паўстае пытаньне: чаму-ж так конр-рэволюцыянэры нацдэмы цікавяцца ўсімі бакамі рэлігійнага і царкоўнага жыцьця? А мо‘ яны ў гэтых сваіх працах вядуць антырэлігійную пропаганду, ці мо‘ зьбіраюць так старанна ўсе рэлігійныя матар‘ялы для таго, што хочуць іх выкарыстаць для антырэлігійнай пропаганды?—падумае хто-небудзь. І калі хто-небудзь гэта падумае, дык ён глыбака памыліцца. Пролетарыят ведае словы К. Маркса: „рэлігія—опіум для народу“. Пролетарыят добра ведае, што рэлігія—самы люты вораг працоўных і самы лепшы прыяцель буржуазіі. Добра ведалі таксама і контр-рэволюцыянэры нац.-дэмократы, навошта ім патрэбна рэлігія. Калі яны тут, у БССР, прымушаны былі вельмі тонка маскавацца, прыкрываючы сваю сутнасьць нібы об‘ектыўным апісальніцтвам і „навуковасьцю“, і толькі падводзілі чытача ці гледача да гэтага рэлігійнага ці царкоўнага матар‘ялу, то ў дасыланых адгэтуль з БССР артыкулах за межы і зьмешчаных у „Крывічы“ Ластоўскага яны яскрава формулявалі сутнасьць сваіх поглядаў і надзей на рэлігію. Вось, напрыклад, як яскрава піша нацдэм Шлюбскі, навошта патрэбна ім (нацдэмам) рэлігія: „Першае-ж і самае даступнае паняцьце нацыянальнай еднасьці, пасьля нацыянальнай мовы, дасягаецца пры помачы рэлігіі. Вось утварэньне гэтай адзінай для ўсіх беларусоў рэлігі і павінна быць заданьнем кожнага беларуса, які ўсёй сваёй душой служыць беларускаму адраджэньню“[2]) і далей дадае больш яскрава: „Але тыя беларусы, у душы якіх сільнейшая нацыянальная сьвядомасьць за ўсякую гістарычную шалуду, павінны ўсімі сіламі імкнуцца да ўтварэньня *беларускай аўтакефальнай хрысьціянскай царквы* (падкрэсьлена намі—Б. і Ш.). Мы павінны рваць і з Рымам і з Масквою і ўтвавыць сваю ўласную нацыянальную царкву. Нам няважна тое, што нашы дзяды і прадзеды насілі на сваіх карках маскоўскія ці рымскія ланцугі, нам важна тое, што мы ўжо ня хочам іх насіць“[3]). Вось навошта нацдэмам патрэбна

---

[1]) Шлюбскі. „Полымя“ 1928 г., № 5. Кнігасьпіс, стар. 168.
[2]) А. Шлюбскі. „Крывіч“, Коўна, 1925 г., № 9(1). Кнігасьпіс і крытыка, стар. 105.
[3]) Тамсама, стар. 106.

рэлігія! Кожны „шчыры“ беларус змагайся за „аўтакефальную“ царкву, старайся яе пабудаваць, бо пад яе крылом, як мы бачылі на прыкладзе Украіны, лягчэй будзе зьбіраць усіх ворагаў рабочых і сялян, усіх ворагаў пролетарскай дыктатуры для організацыі змаганьня супроць Кастрычніка, супроць улады Саветаў, чым нацдэмы і займаліся ўвесь час сваёй „навуковай“ і „карыснай“ працы.

*(Працяг будзе).*

---

Яз. Мацюкевіч.

# Контр-рэволюцыйная дзейнасьць беларускіх нацыянал-дэмократаў у галіне мовы.

Рабочая кляса, колгасьнікі, бядняцка-серадняцкія масы сялянства пад выпрабаваным кіраўніцтвам ленінскай комуністычнай партыі дасягнулі вялізарнейшых посьпехаў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтыя посьпехі дасягнуты, дзякуючы ажыцьцяўленьню адзіна-правільнай ленінскай генэральнай лініі партыі, дзякуючы непрымірымай барацьбе з правым і „левым“ опортунізмам. Шырока разгорнутае соцыялістычнае будаўніцтва ў нашай пролетарскай краіне адбываецца ва ўмовах абвостранай, жорсткай клясавай барацьбы. Клясавы вораг імкнецца ўсімі мерамі, усімі спосабамі сарваць пасьпяховы ход будаўніцтва соцыялізму. Ад „атакі ў лоб“ ён пераходзіць да самых утончаных сродкаў і мэтодаў барацьбы.

Беларускія контр-рэволюцыянэры нацыянал-дэмократы об'ектам шкодніцтва, свае контр-рэволюцыйнай дзейнасьці абралі рад галін нашага гаспадарча-культурнага соцыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку і беларускую мову. Пралезшы на адказьнейшыя пасады ў Інбелкульце, а затым у Акадэміі Навук, спэкулюючы сваімі „навуковымі“ ведамі, контр-рэволюцыянэры нацыянал-дэмократы імкнуліся монополізаваць некаторыя навукова-дасьледчыя галіны работы і нават працягвалі свае лапы да палітычнага кіраўніцтва. Махровы белагвардзеец нацыянал-дэмократ Я. Лёсік у сваім дакладзе на акадэмічнай конфэрэнцыі, што адбылася ў 1926 годзе, адкрыта заявіў: „Інбелькульт, як навуковая ўстанова, стаіць на чале культурнае працы на Беларусі і кіруе гэтаю працаю“. Вось да чаго клясавы вораг абнаглеў пры патураньні і садзейнічаньні нацыянал-опортуністычнага кіраўніцтва Інбелкульту.

Інстытут мовы Белар. Акад. Навук, які па сутнасьці сваёй работы займаецца навукова-дасьледчаю работаю і распрацоўкаю пытаньняў беларускай мовы, пэўны час знаходзіўся цалкам і поўнасьцю ў руках нацыянал-дэмократаў. На чале Інстытуту стаялі махровыя белагвардзейцы нацыянал-дэмократы Я. Лёсік і С. Некрашэвіч. Такім чынам, навукова-дасьледчая работа ў галіне мовы, тэрміналёгічная і слоўнікавая камісія былі поўнасьцю выкарыстаны нацыянал-дэмократычнай контр-рэволюцыяй у сваіх клясавых, шкодніцкіх мэтах.

Якія прынцыпы былі паложаны нацыянал-дэмократамі ў аснову распрацоўкі пытаньняў мовазнаўства? Прынцып „самабытнасьці“ беларускае мовы; орыентацыя на фашыцкую Польшчу, адсюль грубая полёнізацыя мовы; увядзеньне ў мову архаізмаў з літоўскае мэтрыкі,

мовы прападобных Касьянаў, Кліментаў, Цяпінскіх, князёў Саламарэцкіх і г. д.; разьвіцьцё праз мову зьвярынага шовінізму; імкненьне праз мову адчужыць працоўныя масы БССР ад працоўных мас суседніх братніх саюзных савецкіх рэспублік; орыентацыя ў пытаньнях распрацоўкі мовы на кулацка-шляхецкія колы. Лёсік у зборніку „Беларусь" адкрыта заяўляе: „Шляхціц больш захаваў культурна-нацыянальных традыцый, тыповай беларушчыны, як хто-небудзь іншы".

Нацыянал-дэмократы сваёю першараднаю задачаю ставілі пытаньне адчужэньня, адмежаваньня беларускае мовы ад мовы братніх саюзных рэспублік і, галоўным чынам, ад мовы рускай. У гэтых адносінах прасьледвалася мэта аслабленьня адзінства народаў СССР, імкненьне адмежавацца ў сваю нацыянальную дзяржаву і ўстанавіць буржуазнае, памешчыцкае клясавае панаваньне. Такім чынам, работа нацыянал-дэмократаў была накіравана на зрыў соцыялістычнага будаўніцтва, на інтэрвэнцыю капіталістычных дзяржаў, на закабаленьне працоўных мас савецкае краіны.

Перад намі працы акадэмічнай конфэрэнцыі, якая адбылася ў 1926 годзе. На гэтай конфэрэнцыі вядомы белагвардзеец, авантурнік, махровы контр-рэволюцыянэр Ластоўскі, выступаючы ў спрэчках па рэформе беларускага правапісу, сказаў наступнае: „...Наша старая самабытная мова... выглядае провінцыяльным дыялектам расійскай мовы, а гэта апошняе зьяўляецца перашкодай адраджэньню нашай пісьменнасьці. Бо як-жа можна гаварыць аб адраджэньні яе, калі з правапісу ня відаць, што наша пісьменнасьць калісьці знаходзілася на высокай ступені разьвіцьця з выпрацаванымі, згодна фонэтычным асобнасьцям жывой народнай мовы, формамі правапісу, сходнымі з цяперашнімі асобнасьцямі нашай мовы?... Трэба дасягнуць таго, каб нашы словы, формы і гукі на пісьме былі адбіцьцём гісторыі нашай пісьменнасьці, гісторыі крыўскага, а не расійскага ці польскага народаў.... Мы павінны пайсьці насустрэч вымаганьням ідэі крыўскага нацыянальнага адраджэньня і тварыць гістарычна-фонэтычны правапіс, у якім-бы адбівалася як гісторыя нашай багатай у старажытнасьці пісьменнасьці, так лексычныя і фонэтычныя асобнасьці крыўскай мовы".

Другі „кіт мовазнаўства" нацдэм Лёсік піша ў сваім артыкуле, які зьмешчаны ў часопісе „Полымя" № 2 за 1924 год, што „наша кніжная мова, мова школьных падручнікаў, популярных народных кніг і асабліва мова штодзенных газэт, агулам кажучы, мала падобна да сапраўднай жывой беларускай, або крывічанскай ці крывіцкай мовы". І далей Лёсік заклікае разьвіваць „сваю самабытную" беларускую мову.

І вось, кладучы ў аснову распрацоўкі пытаньняў мовазнаўства прынцып „самабытнасьці" беларускай мовы, орыентуючыся на архаічнае мінулае, уводзячы ў беларускую мову штучныя, незразумелыя для шырокіх працоўных мас наватворы, аб якіх Лёсік на дыспуце ў акадэміі па мовазнаўству заявіў, што „у стварэньні наватвораў нічога благога няма", выціскаючы з мовы рэволюцыйныя наватворы, якімі карыстаюцца масы працоўных, ігноруючы вывучэньне мовы рабочых прадпрыемстваў, — Лёсікі, Ластоўскія, Нэкрашэвічы і К° скарысталі мовазнаўства для барацьбы супроць дыктатуры пролетарыяту, для зрыву соцыялістычнага будаўніцтва, для адчужэньня беларускае мовы ад рускай, якая зьяўляецца дзяржаўнай мовай Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Буржуазны вучоны профэсар Пічэта ў брошуры „Белорусский язык, как фактор национально-культурный“ даводзіць, што мова разьвіваецца талентамі інтэлігенцыі, апроч гэтага „в министерствах, канцеляриях, судах происходит постоянное словатворчество. С этой стороны законодательные акты, делопроизводство судебных и административных учреждений имеет громадное значение для развития языка. Королевские писцы такие же создатели языка, как писатели, ученые и представители иных либеральных профессий. Литовская метрика, белоруская в своей основе, содержит в себе громадный совершенно неизученный материал для истории белорусского языка, в частности, для юридической и административной терминологии, которая в своей новай конструкции должна непременно отправляться от старой традиции“. Такім чынам, устаноўка Пічэты ў галіне мовазнаўства—гэта орыентацыя на архаічнае мінулае, на выкапні з літоўскай мэтрыкі, на ўвядзеньне тэрмінаў з гэтый мэтрыкі ў нашу сучасную юрыдычную і адміністрацыйную тэрміналёгію. Апрача гэтага, вельмі цікавыя размовы профэсара Пічэты аб тым, што мова разьвіваецца талентамі інтэлігенцыі, што яна ўтвараецца ў міністэрствах, канцылярыях, судох, што „создателями“ яе зьяўляюцца каралеўскія пісцы, што вуніяцкая царква, як ён далей кажа ў гэтай брошуры, „была живым отражением жизненности белорусского языка“.

Ва ўнісон профэсару Пічэце падпявае „вучоны“ мовазнаўца Я. Лёсік. Гэты ў сваёй кніжцы „Фонэтыка“ проста заклікае пісьменьнікаў пісаць так, „як пісалі раней, да чаго ўсе папрызвычаіліся. Адгэтуль у літаратурнай мове заўсёды будзе элемэнт некаторай няжыцьцёвасьці і ўхіліцца ад гэтага абсолютна нельга“.

Такім чынам, у справе ўвядзеньня ў беларускую мову архаізмаў, каб адарваць яе ад сучаснасьці, ад мовы рабочых, бядняцкага сялянства, Ластоўскі, Лёсік і Пічэта цалкам і поўнасьцю салідарызуюцца. Пічэта і Ластоўскі „навукова“ гэтую тэорыю абгрунтоўваюць, робячы экскурсы ў гістарычнае мінулае. Такое абгрунтаваньне з пункту ацэнкі сапраўды навуковай ня вытрымлівае ніякай крытыкі і ўсякі мала-мальскі пісьменны чалавек зразу разьбярэцца ў тым, што „создателями“ беларускай мовы не зьяўляюцца каралеўскія пісакі, што „хранителем“ беларускай мовы не зьўляецца вуніяцкая царква, што такія „навуковыя“ абгрунтаваньні—глупства і г. д. Але калі глыбей удумацца ў гэтую „тэорыю“, прааналізаваць яе належным чынам і супаставіць з паказаньнямі Лёсіка, якія прыведзены ў дакладзе старшыні СНК БССР тав. Галадзеда на III сэсіі ЦВК БССР IX скліканьня, дык перад намі паўстае глыбока прадуманы, тонкі плян шкодніцкай, контр-рэволюцыйнай дзейнасьці нацыянал-дэмократаў у галіне мовазнаўства, які накіроўваўся на зрыў соцыялістычнага будаўніцтва.

Яз. Лёсік гаворыць наступнае: „...язык рабочих і беднейшего крестьянства мы сознательно игнорировали... мы брали установку на кулацкие элементы крестьянского населения... Таким образом в белорусском литературном языке появились „вызыск“ вместо „эксплёатацыя“, „харда“ вместо „струна“, „вогнішча“ вместо „фокус“, „страмопіс“ вместо „парнографія“, „працівакутнае“ вместо „пэрпэндыкулярнае“ и т. д.... Потом под давлением партийной марксистской критики эта „шишковщина“ немного сглаживалась, хотя практические словари показали, что делалось это в самой скрупулезной мере для видимости, а общее направление оставалось неизменным и перенесено было в стены Академии Наук“. Значыцца, тэорытычныя ўстаноўкі цалкам

супадалі з практычнаю шкодніцкаю, контр-рэволюцыйнаю работаю нацыянал-дэмократаў.

Мы ўжо адзначалі, што „столпы“ мовазнаўства—нацыянал-дэмократы ўсімі мерамі, усімі спосабамі імкнуліся не дапусьціць у мову рэволюцыйных новатвораў. Што-ж бралася ў падставу складаньня слоўнікаў? Нацдэм С. Некрашэвіч у дакладзе „Да пытаньня аб укладаньні слоўніка жывой беларускай мовы“ сказаў літаральна наступнае: „Таксама трэба быць вельмі асьцярожным і пры ўнясеньні слоў рэзка адасобленых каст чалавечай грамады, як, напрыклад, мовы зладзеяў, жабракоў, бо мова такіх каст, па-першае, часта прадстаўляе такія-ж нічога негаварочыя конглёмэраты, як і нашы модныя, запазычаныя ад рускіх або складзеныя па ўзору рускіх славечкі: „Інбелкульт“, „Наркамасьветы“, а па-другое, такія „зладзейскія“ словы могуць быць і не беларускія, а інтэрнацыянальныя. Іншая рэч—мова пастухоў, рамесьнікаў, рыбакоў. Выдзяляючыся сваёй першабытнай прастатой і сьвежасьцю, яна мае найцікавейшы матар‘ял для слоўніка“. З гэтай вытрымкі ўжо можна бачыць твар клясавага ворага. Гэты наглец нацдэм пасьмеў рабіць параўнаньне паміж нашымі рэволюцыйнымі тэрмінамі, якія складзены ў пэрыод пролетарскай рэволюцыі, у пэрыод соцыялістычнага будаўніцтва, якія адбіваюць сэнс гэтага будаўніцтва, з тэрмінамі, словамі зладзеяў, жабракоў. Зразумела, контр-рэволюцыянэр інакш нашых рэволюцыйных тэрмінаў кваліфікаваць ня можа, як мову зладзеяў, жабракоў. Але дзіўна—да чаго даходзіць нагласьць клясавага ворага, калі ён адчувае патураньне і падтрыманьне з боку былога нацыянал-опортуністычнага кіраўніцтва Белар. Акадэміі Навук. Гэты даклад быў зачытаны ў Інбелкульце, надрукаваны, прайшоў, напэўна, і Галоўліт, і між іншым ня быў дадзены адпор клясаваму ворагу. Даклад быў зачытаны і надрукаваны ў 1925 годзе. Такой фактычна ўстаноўкі пры складаньні слоўніку і трымаўся С. Некрашэвіч. У яго слоўніку рэволюцыйных тэрмінаў амаль зусім няма, затое слоў лаянкі, няпрыстойных слоў, антысэміцкіх, архаізмаў, рэлігійных тэрмінаў колькі хочаш.

С. Некрашэвіч у цытаваным намі дакладзе яшчэ сказаў наступнае: „Асобнае месца ў слоўніках займаюць так званыя няпрыстойныя словы. Іх нярэдка выкідаюць, як абразу моральных пачуцьцяў чалавека. Але мы з гэтым зусім нязгодны, іх патрэбна ўводзіць у слоўнік і таму, што такімі словамі надта багата наша мова, і таму, што за гэта гаворыць наша сучаснае грамадзянскае жыцьцё“. Вось які „прынцып“ пакладзены ў падставу ўкладаньня слоўнікаў. Прытрымоўваючыся гэтага „прынцыпу“, С. Некрашэвіч і М. Байкоў і ўлажылі практычны руска-беларускі слоўнік. Праз гэты слоўнік чырвонаю ніткаю праходзіць лаянка, на кожнай страніцы сустракаюцца няпрыстойныя словы, якія ў нашай газэтнай, кніжнай і г. д. мове нідзе нельга сустрэць. Вось некаторыя прыклады з слоўніку С. Некрашэвіча: доўбня, дурань, бабздыр, курва, шлюндра, шлюха, плёха, боўдзіла, ёлух, дупа, азадак і г. д. Каму патрэбны гэтыя вульгарызмы, гэтая лаянка? Толькі контр-рэволюцыянэру Некрашэвічу, які даводзіць, што наша мова багата такімі словамі, „і таму, што за гэта гаворыць наша сучаснае грамадзянскае жыцьцё“. Наша сучаснае грамадзянскае жыцьцё, нашу эпоху соцыялістычнага будаўніцтва контр-рэволюцыянэр нацдэм разглядае як няпрыстойнасьць, як лаянку, і гэта павінна знайсьці адбітак у слоўніках. Ён сьцьвярджае, што наша мова багата такімі словамі, значыць, пашырай гэту няпрыстойнасьць, лаянку. У гэтым як нельга лепей выявіўся

зьвярыны твар клясавага ворага, шкодніцтва, контр-рэволюцыйная дзейнасьць нацдэма ў галіне мовазнаўства.

Я. Лёсік у сваім артыкуле, які зьмешчаны ў часопісе „Полымя“ за 1924 год, пісаў: „Трэба вытварыць новыя словы, новыя фразэолёгічныя ды сынтаксычныя звароты“. Кладучы ў аснову сваёй работы „тэорыю самабытнасьці“, архаізмы, адчужэньне белмовы ад мовы братніх саюзных рэспублік, уводзячы лаянку, няпрыстойнасьць, орыентуючыся на фашыцкую Польшчу, на мову шляхецка-кулацкіх колаў, нацдэмы пачалі „вытварыць“ новыя словы. І, замест агульнапрынятых слоў, якія маюць інтэрнацыянальнае значаньне (а інтэрнацыялізмаў нацдэмы вельмі баяліся), пачалі ўводзіць у мову штучныя, незразумелыя для шырокіх працоўных мас словы. Вось частка прыкладаў з таго вялізарнейшага шкодніцкага матар'ялу, які зараз ўжо выяўлены:

| *Рускі тэкст.* | *Беларускі тэкст.* |
|---|---|
| Администратор | Упраўнік |
| Биржа | Гелда |
| Баллотировка | Лёсы |
| Анимизм | Удухаўленьне |
| Суфлер | Падказьнік |
| Ассимиляция | Прыпадабленьне |
| Класс эксплоатируемый | Вызыскная кляса |
| Коллектив | Суполка |
| Экспроприация | Высваеньне |
| Блокада | Замык |
| Кооперация | Суполка |
| Террор | Застрашэньне |
| Бесчинство | Бусаваньне |
| Кощунство | Блюзьнерства |
| Консолидация | Усталяваньне |
| Обезображение | Ашпечаньне |
| Повреждение | Ушкаджэньне |

У мову нацдэмы ўводзілі грубыя полёнізмы, якія ў жывой беларускай мове нідзе не сустракаюцца. Увядзеньне полёнізмаў Лёсік абгрунтоўвае тым, што „беларуская мова ў некаторых сваіх гукавых і слоўных асаблівасьцях набліжаецца да польскай мовы“ („Фонэтыка“ Я. Лёсіка).

Вось прыклады:

| *Рускі тэкст.* | *Беларускі тэкст.* |
|---|---|
| Аукцион | Ліцытацыя |
| Заседатель | Асэсар |
| Благо общее | Паспалітае дабро |
| Усенародны | Паспаліты |
| Собрание | Сойм |
| Колонизация | Асадніцтва |
| Конфискация | Заскарбаваньне |
| Огнестрельное оружие | Пальная зброя |

Нацдэмы сваёю першараднаю задачаю, як мы ўжо адзначалі, ставілі адрыў, адчужэньне беларускай мовы ад рускай. Лёсік у сваім праграмным артыкуле „Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы“ („Полымя“ № 2, 1924 г.) імкнецца „навукова“ даказаць, што

руская мова нікуды ня варта, што заснавальнікамі яе былі беларускія, украінскія дзеячы—Феофан Пракаповіч, Сымон Полацкі і М. Сматрыцкі і немец Грот, што руская мова зьмяртвее, як мёртвай стала і лацінская мова. Што-ж раіць Лёсік, каб не дапусьціць канчаткова зьмяртвеньня рускай мовы? Выхад, па Лёсіку, вось які: „Выпрацаваць,—як Лёсік кажа,—сваю сапраўды вялікарускую, а не расійскую літаратурную мову“. Далей Лёсік піша, што „такія спробы ўжо рабіліся. Гэта было ў скорым часе пасьля рэволюцыі 1917 году, калі вялікарусы-адраджэнцы залажылі былі сваю газэту „Великоросс“, падобную да беларускай „Наша Ніва“, дзе пісалі вялікарускай, а не расійскай мовай, дзе заклікалі грамадзянства... пазнаць сябе вялікарусамі, як украінцы—украінцамі, а беларусіны—беларусінамі. Але гэтыя першыя спробы дзесь затапіліся ў вірыстых хвалях рэволюцыі—ды ці-ж надоўга?!“

У чым сутнасьць гэтае думкі нацдэма? Лёсік адмаўляе СССР, ён супроць аб‘яднаньня працоўных усіх нацыянальнасьцяй СССР, ён заклікае да адчужэньня, да абмежаваньня, да зьвярынага шовінізму. Лёсік нездаволены, што першая спроба разьяднаць працоўныя масы ўсіх нацыянальнасьцяй СССР ня ўдалася і „затапілася дзесь у вірыстых хвалях рэволюцыі“. Але ён марыць, ён мае надзею, што яго нацдэмаўскія імкненьні, жаданьні споўняцца. Ён ставіць пытаньне: „ды ці-ж надоўга?!“

Так, панове нацдэмы, надоўга, назаўсёды. Вашы спробы і ўсялякія іншыя будуць у корані ліквідаваны магутнаю рукою дыктатуры пролетарыяту. Рабочая кляса, колгасьнікі і бядняцка-серадняцкія масы сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі ўзмацняюць цытадэль сусьветнай пролетарскай рэволюцыі, бацькаўшчыну сусьветнага пролетарыяту—СССР і нікому не дазволяць у самай малейшай ступені парушыць адзінства народаў СССР.

Разглядаючы некаторыя контр-рэволюцыйныя творы нацдэмаў, шкодніцтва ў галіне мовы, нельга абыйсьці моўчкі граматыку Лёсіка. Гэты падручнік распаўсюджаны ў сотнях тысяч экзэмпляраў у нашых культурна-асьветных і іншых установах. У гэтым падручніку сабраны такія контр-рэволюцыйныя, антысавецкія „пэрлы“, што проста дзіўна, як гэта дапушчаецца карыстаньне гэтым падручнікам да апошняга часу.

Вось настроі аўтара ў сувязі з нашым пераможным соцыялістычным будаўніцтвам. „Хаджу—блуджу, хаджу—блуджу, як то сонца ў крузе; куды пайду ці што раблю, а ўсё сэрца ў тузе“ (ст. 40). „Блуканьне на цэлае раньне“ (ст. 32, 97). „Няхай плачам у сіняй далі песьня разальецца“ (ст. 32, 129, 155). „Жалем сьціскаюцца грудзі“ 137). „Даль паўнютка ціхай смуты“ (ст. 140).

Чаму такі сум, плач у нацдэма? Вось адказ: „Плачуць думкі па вясьне, хочуць лепшай долі“ (ст. 129).

У нас вялікі процант прадпрыемстваў пераведзены на 7-гадзінны рабочы дзень, а Лёсік дае прыклад у граматыцы: „Працуй зраньня аж да зьмярканьня“ (ст. 143).

У сваіх марах па рэстаўрацыі капіталізму Лёсік даходзіць да таго, што бачыць паноў у маёнтках, жнеек і г. д.

Вось прыклад: „Да ўжо вечар вечарэе, наш пан млоды весялее, па постаці пахаджае, свае жнейкі прыганяе“ (ст. 40).

Соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі Лёсік абходзіць. Ён марыць аб капіталістычным разьвіцьці сельскай гаспадаркі. І прыклады ў граматыцы ён адпаведныя падбірае.

„Між узгоркаў над ракою выглядае сіратою наша беднае сяло“ (ст. 56). „Як слаўна глядзець на гэтыя вузкія палоскі, стужкі сялянскага збожжа“ (ст. 118). „І так яму мілы родныя палеткі... цэркаў на ўзгорку“ (ст. 46). „Конік, сошка і араты мерна ідуць па полі“ (ст. 145).

Адмаўляючы значнае палепшаньне матар'яльнага становішча бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, сумуючы па капіталістычнаму ладу, Лёсік спэцыяльна падабранымі прыкладамі імкнецца паказаць, што мы ніякіх дасягненьняў ня маем, што беднаце не дапамагаем. Зразумела, для яго асноўная фігура ў вёсцы гэта кулак. Вось характэрныя прыклады: „Па капейцы ў дзень, куды хочаш туды і дзень“ (ст. 107). Нашы цяжкасьці социялістычнага росту Лёсік тлумачыць так: „Во калі разарэньне: ні табакі, ні курэньня“ (ст. 32, 92). „Жыць весела, да есьці нечага“ (ст. 56). „Ані гарэлага шэлега няма“ (ст. 89). „Без запасу ані часу“ (Вось крыніцы хвастоў у коопэрацыі—*Я. М.*). „Ні самому паглядзець, ні людзям паказаць“ (ст. 57). „У бядзе жаласьнікаў многа, да дапамагачых нікога“ (ст. 118). „Бывала горш, але рэдка“ (ст. 55). „Там добра, дзе нас няма“ (ст. 56).

Нацдэм Лёсік „супроць“ клясавай барацьбы, гэта ў яго клясавых інтарэсах. Усыпляючы пільнасьць пролетарыяту шляхам заклікў да прымірэньня, Лёсікі і К⁰ імкнуліся ў гэты самы час атакаваць дыктатуру пролетарыяту. Гэты мэтод кожнаму вядомы, гэта—мэтод буржуазіі, мэтод лёкаяў буржуазіі соцыял-фашыстаў. І вось Лёсік падбірае ў граматыцы і адпаведныя прыклады. „К свабодзе, роўнасьці і брацтву мы працярэбім сабе сьлед“ (ст. 40, 155). „Што сабе ня міла, таго і другому ня зычце“ (ст. 77). „Браты, хай кожны пасьпяшае адно нам думаць і рабіць“ (ст. 77, 147).

Лёсік супроць самакрытыкі. Ён раіць: „Болей думай, а меней гавары“ (ст. 55).

Разам з сумам, плачам, нацдэм марыць, што будзе для яго і яго прыхільнікаў лепшая доля. Ён і прыклады прыводзіць адпаведныя: „Загляне сонца і ў наша ваконца“ (ст. 65, 98). „Будзе кірмаш і на нашай вуліцы“ (ст. 107). Вось якая нацыянал-дэмократычная, контр-рэволюцыйная атрута ўкладзена ў падручнік.

Усё гэта рабілася ў мэтах контр-рэволюцыйных, нацыянал-дэмократычных. Тав. Галадзед старшыня СНК БССР, у сваім дакладзе на III сэсіі ЦВК БССР IX скліканьня прыводзіў паказаньне аднаго нацдэма. Гэтая асоба паказала: „Другим каналом, через который национал-демократизм плыл в школы, были учебники. Наилучшим считался тот учебник, в котором совершенно не упоминались такие слова, как „советская власть“, „диктатура пролетариата“, „коммунистическая партия“. Это был так называемый идеал белорусских национал-демократов, и нужно сказать, что этот идеал в белорусских учебниках нередко достигался. В этом направлении особенно были удачны грамматики и правописы Лесика. В целом ряде изданий своих книжек этот автор действительно был на высоте национал-демократических установок. Он умудрился почти не упоминать таких слов, как „советская власть“, „диктатура пролетариата“, „коммунистическая партия“. Зато тут-же была собрана национал-демократическая премудрость... Советская власть и коммунистическая партия в Белоруссии характеризовались Лесиком таким образом: „Апанавалі чэрці месца сьвятое“.

Сапастаўляючы гэтае паказаньне з тымі прыкладамі, якія мы прывялі з граматыкі Лёсіка, прыклады гэтыя яскрава паўстаюць перад

намі ў сьвятле контр-рэволюцыйнай шкодніцкай работы нацыянал-дэмократаў. Напрактыкаваўшыся ў контр-рэволюцыйнай, белагвардзейскай рабоце, Яз. Лёсік як і другія нацдэмы, добра ўлічылі і ацанілі значаньне падручніка для выхаваньня маладога пакаленьня і праз гэтыя падручнікі—граматыкі, географіі, чытанкі і г. д.—несьлі нацыянал-дэмократычную атруту. Некаторы час складаньне падручнікаў знаходзілася цалкам і поўнасьцю ў руках нацдэмаў, яны монополізавалі было гэты вучастак работы. І толькі ў апошнія гады монополія на складаньне падручнікаў была выбіта з рук нацдэмаў.

Зараз нанесены руйнуючы ўдар нацыянал-дэмократызму. Ускрываецца шкодніцкая, контр-рэволюцыйная дзейнасьць нацдэмаў. Беларуская Акадэмія Навук перабудоўвае сваю работу, каб стаць сапраўды цэнтрам пролетарскай навукі, падначаліць сваю работу задачам соцыялістычнага будаўніцтва, разгортваючы бальшавіцкія мэтоды работы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва, весьці бязьлітасную барацьбу з варожымі буржуазнымі тэорыямі ў навуцы, рашуча весьці барацьбу з усякімі адхіленьнямі ад генэральнай лініі партыі.

Першарадная задача, якая стаіць зараз перад інстытутам мовазнаўства БАН—гэта задача тэрміновай ліквідацыі тых прарываў, якія мы маем у мовазнаўстве ў выніку контр-рэволюцыйнай дзейнасьці нацдэмаў. Комуністычная партыя і савецкая ўлада надавалі і надаюць зараз вялікае значэньне беларусізацыі. Ажыцьцяўленьне беларусізацыі—гэта руйнуючы ўдар па ўсіх антыленінскіх тэорыях і ўстаноўках вялікадзяржаўных шовіністаў, гэта руйнуючы ўдар па контр-рэволюцыйным нацыянал-дэмократызьме і яго агентуры ў радох партыі—нацыянал-опортунізьме. XIII зьезд КП(б)Б даў цьвёрдую дырэктыву аб узмацненьні беларусізацыі. Генэральны сакратар ЦК УсеКП(б) тав. Сталін на XVI зьезьдзе УсеКП(б) сказаў, што ў пэрыод шырака разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, які мы зараз перажываем, „национальные языки не только не отмирают и не сливаются в один общий язык, а наоборот, национальные культуры и национальные языки развиваются и расцветают. Не ясно ли, что теория отмирания национальных языков и слияния их в один общий язык в рамках одного государства в период развернутого социалистического строительства, в период социализма в одной стране, есть теория неправильная, антимарксистская, антиленинская“. І ў другім месцы тав. Сталін кажа: „Надо дать национальным культурам развиваться и развернуться, выявив все свои потенции, чтобы создать условия для слияния их в одну общую культуру с одним общим языком. Расцвет национальных по форме и социалистических по содержанию культур в условиях диктатуры пролетариата в одной стране для слияния их в одну общую социалистическую (и по форме и по содержанию) культуру с одним общим языком, когда пролетариат победит во всем мире и социализм войдет в быт,—в этом именно и состоит диалектичность ленинской постановки вопроса о национальной культуре“.

Разгортваньне работы па беларусізацыі патрабуе слоўнікаў, правапісаў, граматык. Такі слоўнік павінен быць тэрмінова складзены. Слоўнік павінен адбіваць наша соцыялістычнае будаўніцтва, ён павінен адбіваць мову колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкіх мас сялянства і, галоўнае, рабочых нашых прадпрыемстваў. Зараз такі слоўнік інстытутам мовазнаўства БАН укладаецца. У абгаварэньні прынцыпаў укладаньня беларускага тэксту павінны прыняць шырокія колы пролетарскай грамадзкасьці. Новы практычны руска-беларускі слоўнік павінен

быць пазбаўлены нацыянал-дэмократычных установак, архаізмаў, штучных словатварэньняў. Трэба, каб у слоўніку знайшлі адбітак рэвалюцыйныя наватворы, словы інтэрнацыянальнага значэньня.

Інстытуту мовазнаўства трэба будзе пераглядзець тэрмінолёгіі, якія выпушчаны нацдэмамі. Прыдзецца выпусьціць рад тэрмінолёгій новых па паасобных галінах ведаў. У гэтай вялікай рабоце актыўны ўдзел павінны прыняць краязнаўчыя організацыі шляхам зьбіраньня тэрмінёлагічнага матар‘ялу на заводах і фабрыках, у колгасах і г. д. Краязнаўчыя організацыі і раней дапамагалі ў гэтай рабоце Інбелкульту і БАН, але нацдэмы атрыманы з месц матар‘ял скажалі, перараблялі ў сваіх клясавых контр-рэволюцыйных мэтах.

Поруч з гэтаю работаю, трэба весьці работу па спрашчэньні правапісу. Гэтае пытаньне зьяўляецца зараз актуальным. Матар‘ял, які ёсьць па спрашчэньні правапісу, трэба зараз-жа прапрацаваць, зьбіраць такі матар‘ял з месц, каб падрыхтаваць проект спрашчэньня для ўнясеньня ў законадаўчыя органы. Гэта работа таксама павінна праводзіцца пры самым шырокім удзеле пролетарскай грамадзкасьці. Тут краязнаўчыя організацыі, настаўніцтва і наогул шырокія колы пролетарскай грамадзкасьці могуць і павінны дапамагчы ў рабоце інстытуту мовазнаўства.

Пры шырокім, актыўным удзеле пролетарскай грамадзкасьці, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі Беларуская Акадэмія Навук выправіць прарывы, недахопы ў сваёй рабоце і стане сапраўдным цэнтрам пролетарскай навукі.

---

Проф. П. Салаўёў.

# Фэнолёгічная праца на БССР.

Раней чым разьвіваць сваю тэму, я лічу мэтазгодным прывесьці некалькі думак партыйцаў навуковых працаўнікоў адносна прыродазнаўчай працы наогул і працы навуковых інстытуцый у прыватнасьці.

Проф. Е. Каровін у сваім артыкуле: „К вопросу о коллективизации научной работы“ піша наступнае:

„Часто встречается такое положение вещей, при котором конечная цель производимых опытов или исследований известна одному только руководителю института... Отсюда такие факты, как... изучение Белорусским сельско-хозяйственным институтом, очевидно, в качестве самой актуальной проблемы социалистической реконструкции в деревне, вопроса „отчего поют петухи“ и пр. и пр. (см. „Красная Газета“ от 29 янв. с. г., а также аналогичный материал обследования РКИ РСФСР научно-исследовательских институтов, см. „Известия“ от 29 апреля)“ [1]).

У тым-жа самым часопісе маецца артыкул Гразнова „Аспирантура I МГУ, как она есть“, дзе аўтар піша наступнае:

„В Зоологическом институте есть какая-то ассоциация, возглавляемая проф. Мензбиром. Ассоциация имеет для своего существования очень ограниченные рессурсы. Несмотря на это, она львиную долю, около 780 р., выделила—куда вы думаете, читатель, на какую насущнейшую и неотложную проблему?—на изучение *голосовых связок и голосового аппарата птиц*. Вместо того, чтобы следовать примеру Зоотехнического института, который разрешает насущнейшие вопросы; вместо того, чтобы заняться чрезвычайно важной отраслью научной работы—генетикой, проблемами колхозного животноводства...“

У паралель з толькі што выказанай думкай можна прывесьці некалькі іншую думку проф. Агола, які ў сваёй кніжцы „Витализм, механистический материализм и марксизм“ (1930 г., стар. 180) піша наступнае:

„Проф. Кольцов, несомненно, имеет заслуги в биологии. Его исследования в начале этого века в области строения головы миноги, его работы по изучению скелета клетки и некоторые другие более поздние специальные исследования представляют несомненный научный интерес. И смешно было бы их оспаривать“.

Урэшце, на толькі што скончаным процэсе Рамзіна і К° цікавымі зьяўляюцца наступныя словы старшыні суду [2]):

---

[1]) Революция и Культура, 1930 г. № 12, стар. 19.

[2]) „Правда“ № 335 от 6. XII. 1930 г.

„Задача научных институтов в советском государстве заключается в помощи и содействии социалистическому строительству. Мы не просто строим работу научных институтов, мы строим не абстрактно, так, чтобы результаты можно было применить через 1.000 лет, а строим так, что институты в числе целой цепи учреждений должны осуществлять и помогать осуществлению социалистического строительства. Если не делается работа, которая нужна в данном случае, если она отодвигается, а на место ее выдвигается другая, с проведением которой можно подождать, то в таком случае можно свидетельствовать о ненормальной работе данного института“.

Прыняўшы пад увагу прыведзеныя думкі, я варочаюся да свае тэмы: „Фэнолёгічная праца ў БССР“. У сваім артыкуле „Значэньне і сэнс фэнолёгічных нагляданьняў“ („Наш Край“ 1927 г. № 6-7, стар. 17-18) я прывёў прыклады, у якіх вынікі фэнолёгічнай працы садзейнічаюць посьпехам сельскай гаспадаркі.

Апрача таго, зараз я лічу неабходным пачаць працу для абгрунтаваньня думкі аб існаваньні асобнай законамернасьці, якую я прапаную назваць *фэнолёгічнай корэляцыяй.* Разгляданьне зьяў з пункту гледжаньня гэтай законамернасьці можа даць шэраг новых практычных установак. Фэнолёгічная корэляцыя вынікае з паняцьця выпадковасьці наогул і выпадковасьці ў біолёгіі ў прыватнасьці. Згодна Энгельсу, выпадковасьць ёсьць об‘ектыўная катэгорыя, якая знаходзіцца ва ўнутранай сувязі з неабходнасьцю (заўвага да „Анти Дюрингу“ 1928, стар. 467). Такім чынам, выпадковасьць ёсьць законамернасьць вузлавая, якая не вынікае непасрэдна з сутнасьці данага зьявішча ці рэчы, але якая ляжыць на пункце перасячэньня розных ліній, як шляхоў прычынна-абумоўленых, як ланцугу прычын і вынікаў. Магчымае і сапраўднае, праўдападобнае і неабходнае пераплятаюцца паміж сабою і расплятаюцца пры розных падыходах да іх. У нядаўным мінулым я цікавіўся пытаньнем „Шуканьня законаў пэрыодычнасьці масавага зьяўленьня шасьціножак“ („Наш Край“ 1926 № 10-11, стар. 23—25). Я зьвярнуў увагу на 12—14-гадовы пэрыод зьяўленьня саранчы ў паўднёва-заходняй частцы СССР і 5-6-гадовы пэрыод таго-ж зьявішча на Каўказе. На падставе свайго невялічкага вопыту я дапускаў магчымасьць масавага зьяўленьня лугавога матылька на Беларусі ў 1941 годзе. Адносна соўкі-гамы такое-ж прадбачаньне мною намечана на 1963 год. Зразумела, што гэтыя мае прадбачаньні праблематычны таму, што мною ня ўлічана, а пры сучаснай мэтодыцы і ня можа быць улічана, уся савакупнасьць магчымых і саіснуючых зьявішч. Я карыстаўся выключна гістарычнымі данымі ды часткова статыстычнымі. Але тут таксама неабходна ўдасканаленьне географічнага моманту і поўнае супастаўленьне ўсіх фэнолёгічных даных. Апошняе пры дастатковым матар‘яле дасьць магчымасьць прасякнуць у глыб біолёгічных процэсаў, дазволіць іх супаставіць ня толькі ў мэтах складаньня мясцовага календара, але і для абгрунтаваньня тае законамернасьці, якую я называю *фэнолёгічнай корэляцыяй.* Грубым прыкладам апошняй можа служыць наступнае. Наглядаючы на працягу 8 год фэнолёгічныя зьмены ў адным пункце, я зазначыў, што ў першым годзе было моцнае разьвіцьцё хэрмэсаў і іх галаў на елках. У наступныя гады хэрмэсаў на елках ня было, але-ж мела месца панаваньне жытняй коласавай мухі ў жыце і цімафееўцы. Мінулым летам (1930 г.), ня гледзячы на ўсё маё жаданьне знайсьці жытнюю коласавую муху, я не змог гэтага зрабіць: яе ня было. Але-ж якраз у гэты

час зноў я пачаў сустракаць усюды на елях хэрмэсы і іх галы. Ніякай яснай прычыннай сувязі паміж зьявамі няма. Гэта і ёсьць выяўленьне той выпадковай законамернасьці, якую я прапаную называць *фэнолёгічнай корэляцыяй*.

Зьвярну ўвагу на другі прыклад. У Горках я знаходзіў як усходняга майскага жука (Melolontha hippocastani), так і заходняга (Melolontha vulgaris). У вядомым каталёгу Арнольда (1901) называецца выключна толькі адзін усходні жук (Melolontha hippocastani). Проф. Ю. М. Коласаў гаворыць, што дасьледчыкі нашай краіны ў мінулым—Арнольд і Бальлён—згодны ў гэтым сэнсе. Што я не памыляюся, называючы для Горак абодва віды жукоў, можа сьведчыць той-жа проф. Коласаў, якому я дэмонстраваў іх не ў колекцыях, але ў жывой прыродзе. Адсюль выходзіць, што раней у Горках ня было двох жукоў, а зараз ужо яны існуюць і сустракаюцца. Гэтае пытаньне належыць таксама да *фэнолёгічнай корэляцыі*. Для мяне зразумелым зьяўляецца самы шлях расьсяленьня ў нас заходняй формы. Каб высьветліць позыцыю, дазвольце зьвярнуцца перш за ўсё да літаратуры.

Проф. Я. П. Шчалканаўцаў у сваёй працы „Очерки по биологии лесных вредных насекомых“ (Воронеж 1928 г., стар. 12) піша наступнае: „Западный или обыкновенный хрущ встречается главным образом в З. Европе, у нас в юго-западных заднепровских губерниях. На восток от Днепра, напр., в Черниговской губ. и уезде, по моим наблюдениям в конце девяностых и в начале девятисотых гг., его можно было ловить среди массы дикокаштановых в количестве 5—10%. Граница распространения обоих видов по Шевыреву: Западный доходит до линии, проходящей с северо-запада на юго-восток через Изборск, Остров, Торопец Псковской г., Полоцкий у. Витебской г., Рославльский у. Смоленской губ. и далее на Харьков и Изюм Харьковской губ.“

Вельмі цікавай зьяўляецца наступная заўвага проф. Шчалканаўцава:

„В Курской г., согласно неопубликованным еще данным Н. Н. Конакова, до самой границы Воронежской г. преобладает западный майский жук“.

Далей проф. Кулагін у першай частцы сваёй кнігі („Вредные насекомые и меры борьбы с ними“ т. I, 1927, стар. 325) піша наступнае:

„По исследованиям Шевырева („О границах распространения майских жуков. “Труды Рус. Энт. О-ва, т. XXI, 1898) M. melolontha занимает всю юго-западную часть России, северо-восточным пределом которой будет линия, идущая из губ. Псковской через Витебскую, Рославльский уезд Смоленской губ., Изюмский и Харьковский уезды Харьковской г. к Ставрополю. К северо-востоку от этой линии M. melolontha не встречается. К сожалению, нет в настоящее время данных, где начинается указанная граница на западе. На восток пределом распространения является Урал“.

„Для M. hippocastani паказана значна большая зона на поўнач і ўсход: „Он сплошь и рядом встречается в Финляндии, в Олонецкой губ.; на юге границу его распространения, повидимому, составляют южно-русские степи; на востоке был найден около Иркутска“ (там-жа).

У працы Знойко („Материалы по распространению и экологии хрущей в Одесской области“. Зашита растений от вредителей. 1928 г. № 5-6, стар. 488) паказана, што M. vulgaris паяўляецца на поўнач ад

Адэсы і пачынае сустракацца на мяжы з лесастэпам. Паказаньне Кулікоўскага наконт M. hippocastani аўтар лічыць памылковым.

Урэшце, вельмі цікавымі зьяўляюцца заўвагі Цвэйгельта (Zweigelt. Der. Maikäfer. Рэфэр Защ. раст. 1928 № № 1, стар. 131) адносна распаўсюджаньня абодвух жукоў у Аўстрыі: „Наколькі чулымі зьяўляюцца майскія жукі да ўмоў тэмпэратуры, відаць, напрыклад, з факту супаданьня тэрыторыі іх масавага зьяўленьня ў гарах з гадавымі ізотэрмамі; так, у Тыролі ў даліне Інна ізотэрма +10° адпавядае падняцьцю жука ўгару да 800 м, ізотэрма +11°—да 900 м, +12°—да 1.000 м.“

З прыведзеных літаратурных даных можна сабе ўявіць процэс расьсяленьня M. melolontha ў часы, пазьнейшыя за часы пражываньня ў Горках Арнольда. Калі мы паглядзім на географічную карту, дык убачым праход паміж вышнявінамі Заходняй Дзьвіны і Дняпра. У гэты праход прасоўваўся жук, запаўняючы спачатку правы бераг Дзьвіны і заходзячы за вытокі Дняпра да Рослаўлю і Курску, адкуль ён потым ужо накіроўваўся паміж Дняпром і Сажом не на ўсход, а на захад, у напрамку Горак. Гэта быў пэрыод з 1901 году, калі напісаў свой каталёг Арнольд, да 1922 г., калі я пачаў рабіць свае нагляданьні ў Горках. Агульная мяжа распаўсюджваньня жука ляжыць паміж ізотэрмамі 4° і 6°. Трэба думаць, што і самыя ізотэрмы зьяўляюцца зьменнымі велічынямі і падлягаюць штогоднаму вывучэньню. Штучны падзел часу мэтэоролёгамі на дэкады і, значыцца, штучная характарыстыка гэтых дэкад, таксама як і мэханічнае інтэрполяваньне, не зьяўляюцца мэтодамі, прыгоднымі для вывучэньня фэнолёгічных зьяў і іх зьмен. *Фэнолёгічная корэляцыя,* якая існуе і якая павінна вывучацца, для апошняй мэты вымушае зьбіраць больш шырокія, дасканалыя і няштучныя даныя.

Майскі жук не зьяўляецца выключэньнем. Так, на Захадзе, апрача жытнёвай мухі—Cleigastra, s. Amaurosoma Flavipes маецца яшчэ іншы від—Amaurosoma armillatum. Мне здаецца, што ў нас, у Горках, сустракаюцца абодва віды. На ўсход ідзе першы від.

У сваім артыкуле „Прыяцелі і ворагі сельскай гаспадаркі“ (Зборнік „За лепшы ўраджай“. Горкі, 1929) я заклікаў працоўнае грамадзтва дапамагчы краязнаўству зьбіраньнем народных пагаворак. Апошнія могуць даць узоры тых суадносін у прыродзе, якія ўвойдуць у склад зьместу *фэнолёгічнай корэляцыі.* Напрыклад, пагаворка— „калі на Міколу на бярозе ліст з палушку, прыпасай на Ильлю хлеба кадушку“ паказвае на тую сувязь, якая відавочна існуе паміж зьявамі, але якая знойдзена чыста эмпірычна і для ўдасканаленьня вымагае навуковага аналізу і вывучэньня.

Фэнолёгічны каляндар Марканава для г. Хвалынска Саратаўскай губ. пачынае лічыць дні з прылёту гракоў і дае даволі добры малюнак пасьлядоўнасьці фэнолёгічных зьяў. Але гэтага мала. Трэба вывучаць усе існуючыя сувязі. Потым трэба трымацца данай мясцовасьці, бо інача́й можа здарыцца непаразуменьне, аб якім піша Сьвяцкі, гаворачы аб фэнолёгічнай інтэрцэпцыі (Д. О. Святский. Фенология в краеведческой работе. 1926, стар. 99—103).

Такім чынам, зьбіраньне фэнолёгічных матар'ялаў і распрацоўка іх ня толькі для складаньня мясцовага календара прыроды, але і для высьвятленьня законамерных зьяў *фэнолёгічнай корэляцыі,* бясспрэчна, дасьць магчымасьць прадбачаньня наогул і рацыяналізацыі складаньня сельска-гаспадарчых плянаў вытворчасьці.

Падкрэсьліўшы значэньне і сэнс фэнолёгічных нагляданьняў і пэрспэктывы працы, я прасачу далей шляхі фэнолёгічнай працы на Беларусі.

У 1923 годзе ў Ленінградзе заснаваўся Фэнолёгічны аддзел пры Расійскім Т-ве аматараў сьветазнаўства, з якім я зараз-жа ўстанавіў сувязь і пачаў дасылаць туды свае фэнолёгічныя нагляданьні ў Горках. Апошнія мною аформлены ў наступных маіх артыкулах: „Фенологические наблюдения“ (Записки Горецкого с.-х. института 1925, т. III, стар. 30—43); „Фэнолёгічныя нагляданьні ў Горках у 1925 годзе“ (Праца Навуковага т-ва па вывучэньні Беларусі. Горкі. 1926 г., т. I, ст. 1-9); „Фэнолёгічныя нагляданьні ў 1926 г. ў Горках“ (Наш Край 1926 № 12, стар. 49—52); „Чарговыя фэннагляданьні ў Горках“ (Запіскі Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Сельскай Гаспадаркі 1930 т. XI, стар. 91—102).

Калі яшчэ ня было штомесячніка Беларускага ЦБК, мною была надрукавана кароткая програма фэнолёгічных нагляданьняў ў часопісе „Плуг“ (1925 № 3) з мэтай скарыстаць вясну 1925 году. Калі, урэшце, апрача „Плуга“ НКЗ з яго аддзелам краязнаўства, пачаў выдавацца пры Інбелкульце ў кастрычніку 1925 году „Наш Край“, дык у першым-жа нумары быў надрукаваны мой артыкул „Некаторыя вывады з фэнолёгічных нагляданьняў“. Значна пазьней у „Нашым Краі“ зьмясьціў свае артыкулы М. П. Сьмірноў: „Асноўныя элемэнты біоклімату Беларусі“ („Наш Край“ 1928 № 3, стар. 5—10) і „Яшчэ пра біоклімат Беларусі“ („Наш Край“ 1928 № 4, стар. 5—10).

У першым артыкуле Сьмірноў, між іншым, дае наступныя весткі.

„Фэнолёгічныя нагляданьні... на тэрыторыі Беларусі вядуцца ўжо досыць даўно. Найбольш значныя матар'ялы такога роду сабраны Т. Я. Главацкай, якая вядзе нагляданьні з 1895 г. да гэтага часу ў ваколіцах в. Лазаравічы Быхаўскага р. Магіл. акр. Матар'ялы гэтыя з 1895 г. па 1921 год знаходзяцца ў архіве З. Н. Кайгарадава—у Зоолёгічным Музэі Акадэміі Навук у Ленінградзе, а за 1925—1927 гг.— у архіве Расійскага т-ва аматараў сьветазнаўства, куды нагляадальніца Главацкая дасылае свае нагляданьні пасьля сьмерці Кайгарадава, корэспондэнтам якога яна была. На жаль, адсутнічаюць матар'ялы за 1922—1924 г. г. За 1900—1902 і 1904-1905 гг. маюцца нагляданьні В. Н. Шнітнікава над прылётам птушак у б. Пінскім павеце (Птицы Минской губ. м. 1907 г.); з 1920 па 1927 гг. праводзіліся нагляданьні ў г. Магілеве В. І. Мярцалавым (архіў Р. Т. А. С.); з 1923 по 1927 гг.— у г. Горках проф. П. Салаўёвым і некаторымі іншымі асобамі. Там-жа— у Горках—праводзілі свае нагляданьні над ростам дрэў у 1923 і 1924 гг. проф. Марохін і ў 1926 г. проф. Мельнік. У мінулым годзе быў надрукаваны ў № 4 часопісу „Наш Край“ артыкул проф. Бурштэйна, у якім, паміж іншым, маюцца даныя аб цьвіценьні і дасьпяваньні пладоў шэрагу садовых дрэў у б. Лепельскім павеце з 1892 па 1924 год. Апрача таго, у гэтым-жа часопісе, у якасьці дадатку да № 8-9 за 1927 г., было надрукавана падагульненьне фэнолёгічных нагляданьняў па БССР з 1 студзеня па 1 ліпня 1927 г., у якім паказаны тэрміны надыходу зьяў прыроды ў 35 розных пунктах рэспублікі“.

У дадатак да Шнітнікава, аб кніжцы якога гаворыць Сьмірноў, можна яшчэ назваць наступныя артыкулы.

Штам—„Материалы для познания зверей и птиц Полесья“ (Народное Хозяйство Белоруссии 1923 г. № 6), дзе маецца сьпіс птушак з паказаньнем іх вясновага зьяўленьня ў Лучыцкай воласьці Мазыр-

скага павету Менскай губ. Вобелг—„Перелет птиц в Борисовском у. Минской губ.“ (Природа и Охота 1878 г.). Ждановский—„Орнитофенологические наблюдения весной 1913 г. в м. Ушачы Лепельского у. Витебской губ.“ (Орнитологический Вестник 1913 г.).

Урэшце трэба назваць працу апошняга году—Г. А. Рэмізаў. „Фэнолёгічны агляд па БССР за 1928 год“ („Наш Край“ 1929 г. № 12, стар. 20—27).

Гэтым абмяжоўваецца вядомая мне друкаваная продукцыя ў адносінах да фэнолёгічнай працы на Беларусі.

Што датычыцца маіх вусных выступленьняў, то трэба ўказаць на выступленьні: а) з програмай фэнолёгічных нагляданьнаў у Горацкім краязнаўчым т-ве, якое заснавана 7 сьнежня 1924 году; б) з вынікамі нагляданьняў на паседжаньні т-ва 1/III-1925 г. і 10/I-1926 г., в) у Менску на Ўсебеларускім краязнаўчым зьезьдзе 12/II-1927 г. з дакладам аб фэнолёгічных нагляданьнях і г) на Аршанскай акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі 26/III-1928 г. з дакладам на тую-ж тэму.

З першай друкаванай справаздачы Фэнолёгічнага аддзелу пры Р.Т.А.С. за 1925 г. відаць, што ў 1923 годзе існавала 55 фэнапунктаў, а ў 1925 годзе іх было ўжо 580. З справаздачнай табліцы 1925 г. відаць, што, апрача Горак, у БССР існуюць гэткія пункты: Ворша, Менск, Магілеў, Мазыр, Віцебск, Барысаў, Мар'іна Горка. У 1926 годзе ў Аддзеле было ўжо зарэгістравана 876 фэнапунктаў, і нагляданьні дасылалі 1.061 асоба. У гэты час быў надрукаваны сьпіс наглядальнікаў і ў ім значацца, апрача мяне, з Воршы Анікіеў і Вятчынкін, які перайшоў у Горкі студэнтам. Таксама ў Горкі пераехаў зарэгістраваны па Менску Б. І. Федарака, які працаваў разам са мною да сканчэньня ў нас лесфаку. Яшчэ ў гэтым сьпісе значацца наступныя асобы: Галавацкая з Нова-Быхава Магіл. акр., Гохштэйн з Смалявіч Менск. акр., Пірутка з Унечы, Рэмізаў і Садоўскі з Менску, Субніковіч з Плешчаніц і Трамбіцкі з Віцебск. акругі.

Што да Беларускага ЦБК, дык у яго асяродзьдзі і да гэтага часу амаль што нічога ня зроблена ў фэнолёгічнай галіне. Мы бачым, што на I Усебеларускім Краязнаўчым Зьезьдзе (7—11 лютага 1926 г.) па дакладу Фядзюшына прынята рэзолюцыя, у якой, між іншым, гаворыцца: „У кожным раёне трэба наладзіць фэнолёгічныя нагляданьні. Вынікі нагляданьняў абавязкова перасылаць у ЦБК“ („Наш Край“ №5-6, г. зн. № 2-3 1926, стар. 84). Аднак-жа ў пэрспэктыўным *пляне працы ЦБК на 1926 год ужо зусім не ўспамінаецца аб фэнолёгічных нагляданьнях* („Наш Край“ 1926 г. № 4—5, стар. 80—81). Далей відаць, што „з сярэдзіны мая да першага ліпня 1926 г. ў ЦБК паступіла 104 фэнолёгічных нагляданьняў“ („Наш Край“ 1926 г. № 6-7, стар. 70), але якой яны вартасьці і што з імі зроблена—невядома. Далей мы бачым, што да 1 верасьня 1926 г. ў ЦБК дастаўлена фэнолёгічных нагляданьняў: Аршанскай акругі—1, Бабруйскай—2, Барысаўскай—20, Віцебскай—47, Магілеўскай—15, Менскай—24, Мазырскай—10, Полацкай—3, Слуцкай—3. Усяго ад часу Зьезду да 1 верасьня атрымана 129 фэннагляданьняў. У рэзолюцыі пашыранага пленуму ЦБК (3 і 4 верасьня 1926) між іншымі чарговымі заданьнямі да 1-га сакавіка 1927 пастаўлены „сэзонныя фэнолёгічныя нагляданьні“ („Наш Край“ 1926 г. № 8-9, стар. 68 і 72). Далей мы ведаем, што пры пастаноўцы ў ЦБК 8 сьнежня 1926 г. пытаньня аб скліканьні Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду зацьверджаны парадак дня, прычым па прыродна-геаграфічнай сэкцыі намечаны даклад Макарэўскага: „Мэтэоролёгічныя і фэно-

лёгічныя нагляданьні“ („Наш Край“ 1927 г. № 1, стар. 78). Такім чынам, мы бачым, што *нават у канцы 1926 г. ЦБК яшчэ не разьдзяляе гэтых дзьвюх галін,* як гэта ўжо даўно зроблена ўсюды. Другі Краязнаўчы Зьезд у лютым 1927 г. ў рэзолюцыі па дакладу ЦБК пастанавіў (п. 16) „на бліжэйшы пэрыод у плян працы мясцовых краязнаўчых організацый паводле заданьняў ІБК павінны увайсьці сэзонныя фэнолёгічныя і мэтэоролёгічныя нагляданьні“ („Наш Край“ 1927 № 2, стар. 61-62). ЦБК надрукавала ў „Працах Усебел. Зьезду“ атрыманыя ад мяне програму і інструкцыю фэнолёгічных нагляданьняў, калі ўжо 4 гады прапрацаваў Фэнолёгічны аддзел у Ленінградзе. Далей, да № 8-9 „Нашага Краю“ за 1927 г. ЦБК надрукавала дадатак пад назваю: „Сводка фэнолёгічных назіраньняў па БССР за тэрмін з 1 студзеня па 1 ліпня 1927 г.“ Пры гэтым ЦБК піша ў канцы дадатку наступнае: „Гэта табліца фэнолёгічных нагляданьняў зьяўляецца першай спробай даць зводку тае працы, якая ў нас, на БССР, ужо распачалася і вядзецца краязнаўчымі організацыямі і асобнымі сябрамі. Яна цікава і каштоўна, як паказчык таго, дзе і якім чынам гэтая справа выконваецца... толькі адна Мазырская акруга шырока разгарнула працу (у 23 пунктах)“. Згаджаючыся з тым, што гэтая зводка вельмі цікавая, трэба ўсумніцца наконт яе каштоўнасьці. Цікава тое, што ЦБК паведамляла аб атрыманых ім у розныя часы нагляданьнях, але іх не скарыстала. Даная выпадковая спроба дала наступныя вынікі: „толькі адна Мазырская акруга шырока разгарнула працу“. Між іншым, у далейшым ЦБК надрукавала чарговую кніжку „Нашага Краю“ (№ 8-9, 1928), якая цалкам прысьвечана толькі аднэй Мазырскай акрузе, але ў ёй нічога ня маецца адносна фэнолёгічнай працы Мазыршчыны, якая быццам павінна быць узорнай. У вышэйназванай зводцы ЦБК адзначае, як недахопы, наступнае: „пункты занадта блізкі адзін ад другога і таму вядуць паралельную працу (Горкі, Жыткавічы, Кольна і інш.)“; „мэтоды і падыход да вызначэньня і нагляданьня зьяў неаднолькавы—прыклад Горкі, дзе рознымі наглядальнікамі даюцца розныя весткі аб часе апошняга выпаданьня сьнегу. Няма дакладнасьці і ў об‘ектах нагляданьня, асабліва расьлін“.

Вывады кожны робіць свае асабістыя пасьля азнаямленьня з працай ЦБК. З таго-ж нумару „Нашага Краю“ (стар. 83-84), да якога дадана зводка, відаць, што 20 чэрвеня 1927 г. на пасяджэньні ЦБК вылучана цэнтральная фэнолёгічная камісія ў складзе старшыні т. Макарэўскага, яго намесьніка Зьбіткоўскага і сакратара Жураўскага. *Толькі 14 верасьня 1927 году* на паседжаньні гэтай камісіі разам з ЦБК пачата дзелавая праца па *абгаварэньні програмы* фэнолёгічных нагляданьняў, блянкаў і проекту артыкулу з апісаньнем і малюнкамі фэноб‘ектаў. Таксама ў плян працы ЦБК на 1927-1928 г. унесены пункт 5—„наладзіць сетку фэнапунктаў“ (стар. 84) і п. 21—весьці „фэнолёгічныя і мэтэоролёгічныя нагляданьні“ (стар. 85). *Толькі ў канцы 1927 г. ЦБК шукае падыходаў да організацыі фэнпрацы.*

У протоколах пленуму ЦБК маецца даклад Жураўскага—„Організацыя фэнолёгічнай справы ў БССР“ са спрэчкамі (стар. 46—48). Жураўскі гаворыць наступнае: „Нам вядома, што кліматолёгія ня мысьліцца без вывучэньня фэнолёгічнага. З гэтага боку ў БССР вядзецца некаторая праца... Але мы ня бачым, каб гэтая праца дала заметныя вынікі. *Толькі адна Мазырская акруга зрабіла значныя посьпекі ў гэтай справе* (курсіў мой. П. С.)... Некаторыя пункты мала даюць адказаў, падыход да нагляданьняў да гэтага часу яшчэ вельмі рознастайны

Як вынік гэтага—паказаньні разыходзяцца. Напр., запісы ў Горках вельмі супярэчны".

Далей Жураўскі паведамляе аб тым, як ЦБК жадае організаваць самую справу. Яно мае намер заснаваць фэнопункты пры 7-годках з разьлікам ня менш 2-х на раён. Фэнолёгічная камісія будзе 3 разы ў год друкаваць у „Нашым Краі" падагульненьні па БССР.

Далей цікавым зьяўляецца артыкул В. Сам-іча „Першыя вынікі сыстэматычнай краязнаўчай працы" („Н. Край" 1928 г. № 1, стар. 60-61), у якім аўтар даводзіць, што Барысаўскім пэдтэхнікумам праароблена значная праца па фэнолёгічных назіраньнях за 1925, 1926 і 1927 гады.

Трэба далей адзначыць, што ЦБК, не пачаўшы яшчэ па сутнасьці фэнпрацы, ад яе адхіляецца. Справа ў тым, што на паседжаньні ЦБК ад 14/І-1928 г. вынесена пастанова—прасіць Аддзел Прыроды і Гаспадаркі Інбелкульту (Смоліч) „узяць на сябе апрацоўку фэнолёгічных назіраньняў, што дасылаюцца ў ЦБК" („Н. Край" 1928 № 2, ст. 54).

Але ў плян працы ЦБК на 1928-29 г. зноў уваходзіць пункт (п. 5), які сьведчыць аб тым, што ЦБК трэба пачынаць непачатую яшчэ дагэтуль працу: „Наладзіць сыстэматычнасьць назіраньняў фэнолёгічнай сеткай БССР" („Наш Край" 1928 г. № 10, стар. 60). На паседжаньні ЦБК 2/XI-1928 г. „заслухан даклад Жураўскага аб выніках фэнолёгічных назіраньняў у БССР; даручана фэнкамісіі абмеркаваць пытаньне аб формах апублікаваньня назіраньняў і пляне далейшае фэнолёгічнае працы на Беларусі" („Наш Край" 1928 № 11, стар. 52). У чым быў зьмест дакладу—невядома. Маюцца весткі аб II Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі (7—12 студзеня 1929 г.), на якой значыцца даклад С. К. Жураўскага „Фэнолёгічныя назіраньні ў краязнаўчай працы" („Наш Край" 1929 г. № 1, стар. 53-54). Зьмест дакладу—агульныя месцы. Такім чынам, мы можам сказаць, што ў ЦБК накіроўваўся фэнолёгічны матар'ял, але якой ён каштоўнасьці, гэтага сказаць мы ня можам. Апрача аднае зводкі, артыкулу Рэмізава і артыкулу Сьмірнова за ўвесь час ЦБК нічога не дало ў сэнсе распрацоўкі фэнолёгічнага пытаньня на Беларусі. Зварот ЦБК да Сьмірнова ў Ленінград паказвае, што Менская фэнолёгічная камісія лічыць сама сябе непрацаздольнай і некомпэтэнтнай у гэтых пытаньнях. Вось чаму і вывады і ацэнка гэтай камісіяй фэнолёгічнай працы на Беларусі зьяўляюцца досыць спрэчнымі.

В. Самцэвіч.

# За баявое выкананьне задач другой бальшавіцкай вясны.

Пасьпяховае правядзеньне другой бальшавіцкай веснавой сяўбы мае надзвычайна вялікае значэньне ў справе выкананьня вялікага пляну соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, вызначанага партыяй для трэцяга рашаючага году пяцігодкі. Другая бальшавіцкая вясна павінна стацца вясной масавага пашырэньня колгаснага руху, організацыі новых і замацаваньня існуючых колгасаў і саўгасаў. Пасьпяховае выкананьне задач веснавой сяўбы—ёсьць адзін з наймагутнейшых сродкаў выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады. Выходзячы з выключнай важнасьці і вялізарнага значэньня пасьпяховага правядзеньня веснавой сяўбы, партыя мобілізуе ўвагу ўсіх організацый і ўстаноў, усёй савецкай грамадзкасьці, навукова-дасьледчых установ і друку на сваечасовую і грунтоўную падрыхтоўку да веснавой сяўбы, каб максымальна забясьпечыць выкананьне пляну сяўбы. У падрыхтоўцы да другой бальшавіцкай сяўбы павінны прыняць актыўны ўдзел і краязнаўчыя організацыі на мясцох, якія цалкам павінны ўключыцца ў вырашэньне практычных задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Які-ж удзел могуць прыняць краязнаўчыя організацыі ў падрыхтоўцы да веснавой засеўнай кампаніі?

Вывучыўшы дасягненьні колгасаў і саўгасаў у разьвіцьці розных галін гаспадаркі, організацыі працы і г. д., краязнаўчыя організацыі павінны разам з другімі мясцовымі організацыямі шырока популярызаваць гэтыя дасягненьні сярод бядняцка-серадняцкай масы вёскі, каб паказаць ім перавагу колектыўных гаспадарак і канечную патрэбу хутчэйшага аб'яднаньня ўсіх аднаасабовых (бядняцка-серадняцкіх) гаспадарак у колектывы. Шляхам вывучэньня і популярызацыі дасягненьняў лепшых колгасаў і саўгасаў, краязнаўчыя організацыі павінны дапамагаць узмацненьню і пашырэньню існуючых колгасаў, прымаючы непасрэдны ўдзел у выпрацоўцы конкрэтных мерапрыемстваў у справе замацаваньня і пашырэньня колектыўных гаспадарак.

Краязнаўчыя організацыі вялікую ўвагу павінны зьвярнуць на вывучэньне організацыі працы і вядзеньня гаспадаркі ў таварыствах па супольнай апрацоўцы зямлі і на дасьледваньне найбольш спрыяючых фактараў для пераходу гэтых таварystваў у с-г. арцелі. Трэба вывучыць усю практыку і патрэбныя ўмовы для організацыі таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі і спэцыялізаваных коопэрацыйных вытворчых аб'яднаньняў у тых мясцох, дзе няма колгасаў, каб гэтымі таварыствамі і аб'яднаньнямі ахапіць у гэту вясну ўсе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, якія яшчэ не ўвайшлі ў колгасы.

Прымаючы пад увагу, што падрыхтоўка і правядзеньне веснавой засеўнай кампаніі будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы і шалёнага супраціўленьня кулацтва соцыялістычнаму наступленьню, краязнаўчыя організацыі павінны выявіць усе формы і мэтоды барацьбы кулацтва супроць колектывізацыі, каб актыўна, разам з партыйнымі і савецкімі організацыямі, найлепш змагацца з кулацтвам да поўнай ліквідацыі яго на базе суцэльнай колектывізацыі.

Аднэй з першачарговых задач выкананьня пляну веснавой сяўбы зьяўляецца пашырэньне засеўнай плошчы яравых культур ня менш як на 17% (у параўнаньні з 1930 г.) для ўсёй БССР. Выкананьне гэтае задачы патрабуе выяўленьня ў кожным раёне, сельсавеце, саўгасе і колгасе, у кожнай вёсцы нескарыстаных да гэтага часу плошчаў пад аблогамі, зарасьнікамі, няўжыткоўных сенажацяй і г. д. Да гэтае справы павінна быць прыцягнута ўвага ўсіх гаспадарчых і плянуючых устаноў, усіх колгасьнікаў, саўгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас. У вырашэньні пытаньня максымальнага пашырэньня засеўнай плошчы, у адшуканьні рэзэрвных зямельных фондаў, у складаньні конкрэтных плянаў найлепшага скарыстаньня гэтых фондаў пад тыя або іншыя культуры актыўны ўдзел павінны прыняць усе краязнаўчыя організацыі.

Сёлета ў нас праводзіцца сталая спэцыялізацыя ўсіх раёнаў, усіх савецкіх і колектыўных гаспадарак. У выкананьне пастаноў XVI зьезду УсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б у нас організуюцца буйныя фабрыкі малака і мяса, растуць і пашыраюцца сьвінагадоўчыя і жывёлаводныя саўгасы і колгасы, малочныя фэрмы і г. д. Усё гэта зусім па-новаму ставіць пытаньне адносна пропорцыі розных культур у яравым кліне. У раёнах і паасобных соцыялістычных гаспадарках, якія будуць спэцыялізавацца на гадоўлі буйной жывёлы або сьвіней, трэба з гэтае-ж вясны ўзяць цьвёрды курс на стварэньне моцнай кармовай базы для жывёлагадоўлі, на пашырэньне засеву кармовых траў, кораньплодаў, палепшаньне сенажацяй і г. д. Усё гэта патрабуе масавай дасьледчай работы, якая павінна легчы ў аснову вытворчых плянаў саўгасаў і колгасаў. Вывучэньне ўсіх умоў для перабудовы гаспадаркі, пераразьмяркаваньня засеўнай плошчы ў адпаведнасьці з новым характарам гаспадаркі, вывучэньне найбольш падыходзячых культур і г. д. зьяўляецца работай краязнаўчага характару, у якой, бязумоўна, павінны прыняць удзел усе гаспадарнікі, агрономы, брыгады масавых досьледаў і краязнаўчыя гурткі.

Краязнаўчыя організацыі, разам з шырокімі масамі колгасьнікаў, саўгасьнікаў, батракоў, беднякоў і серадпякоў вёскі, павінны пры дапамозе агрономаў распрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы па павышэньні ўраджайнасьці на падставе дасьледваньня практыкі мінулых гадоў. Пры гэтым трэба паказаць усім бядняцка-серадняцкім гаспадаркам перавагу буйных савецкіх і колектыўных гаспадарак у сэнсе павялічэньня ўраджайнасьці розных культур, каб тым самым стымуляваць аб'яднаньне бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у колгасы.

Вялізарнейшае і рашаючае значэньне ў правядзеньні веснавой засеўнай кампаніі будзе мець правільная організацыя працы ў колгасах і саўгасах. У гэтым напрамку трэба правесьці вялікую падрыхтоўчую работу па выяўленьні ўсяго дзейнага с-г. інвэнтару, машын, цягавой і рабочай сілы, па вызначэньні нагрузкі для кожнае машыны, трэба вывучыць і організаваць правільную расстаноўку ўсіх наяўных сіл.

Тут канечна трэба выкарыстаць усю назапасеную практыку організацыі працы ў лепшых саўгасах і колгасах, каб пашырыць гэту практыку. Пытаньне організацыі працы ў колгасах і саўгасах зьяўляецца вельмі сур'ёзным і актуальным пытаньнем, якое патрабуе грунтоўнага вывучэньня ў мэтах самага шырокага абмену практыкай. Краязнаўчыя організацыі вялікую ўвагу павінны зьвярнуць на вывучэньне вынікаў соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў колгасах і саўгасах у мэтах рацыяналізацыі працы, у мэтах укараненьня гэтых соц. мэтодаў працы ў штодзённую работу колгасаў і саўгасаў.

Вось рад пытаньняў, у вырашэньні якіх актыўны ўдзел павінны прыняць усе краязнаўчыя організацыі, каб дапамагчы партыі з найбольшым посьпехам і найлепшымі вынікамі правесьці другую бальшавіцкую веснавую сяўбу. Зусім зразумела, што ўся памянёная вышэй работа краязнаўчых організацый павінна быць цесна ўвязана з работай усіх грамадзкіх організацый і праводзіцца паводле адзінага пляну.

У тых колгасах і саўгасах, дзе ўжо організаваны краязнаўчыя гурткі (з колгасьнікаў і саўгасьнікаў), яны і павінны ўзяцца за вырашэньне практычных задач па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы шляхам усебаковага вывучэньня ўмоў, якія будуць найлепш забесьпячаць выкананьне і перавыкананьне плянавых заданьняў. У тых-жа колектыўных і савецкіх гаспадарках, дзе краязнаўчых гурткоў няма, раённыя краязнаўчыя таварыствы павінны організаваць (разам з праўленьнем колгасу ды інш. організацыямі) спэцыяльныя дасьледчыя брыгады з пэўнымі конкрэтнымі задачамі: вывучэньне пытаньня найлепшай організацыі працы ў часе веснавой сяўбы; дасьледваньне ўмоў і магчымасьцяй пашырэньня засеўнай плошчы і г. д. Гэтыя брыгады потым могуць працаваць, як сталыя краязнаўчыя організацыі (гурткі, ячэйкі).

Колгасы і саўгасы павінны быць апорнымі пунктамі разгортваньня работы усіх грамадзкіх організацый па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Краязнаўчыя організацыі сваёй дасьледчай і популярызацыйнай работай павінны дапамагчы партыйным організацыям прысьпешыць процэс рэконструкцыі сельскай гаспадаркі ў сваім раёне, хутчэй закончыць суцэльную колектывізацыю і на базе яе ліквідацыю кулацтва як клясы.

---

Ул. Мяжэвіч.

# Цэмантны Гігант

*(Нарыс)*

## ЗА БЕЛАЙ ГАРОЙ.

### З мінулага...

...Адгрымелі навальніцы, сунялася маланка, градавыя хмары адышлі пад націскам буйнага ветру, сярдзітыя, натхнёныя помстай, падраныя ў клочча і да болю перапалоханыя. Вятры ў тыя гады былі надзвычайныя, яшчэ сьветам ніколі нябачаныя. Дзьмулі з фабрык, заводаў, капальняў, дзьмулі з бязьмежных прастораў вялікай неабсяжнай вольнай краіны...

Памятна, як па небу паўзьлі гураганныя хмары, усё шчыльней з кожнай гадзінай акружаючы сонца.

Быў невялічкі кавалак сьвету, які заставаўся пад сонцам, але і тут было неспакойна, пахла навальніцай. Сярод лясоў узьнімаліся віхуры...

...І вось падзьмуў вецер...

Паміж чорнымі лютымі хмарамі і маладым новым ветрам пачалася сьмяртэльная барацьба. Вецер жалезным кулаком разьбіваў лютыя хмары, хмары зьбіралі ўсе свае сілы на змаганьне з ветрам.

Вецер быў адзін, а хмар было многа. Але сонца сьвяціла ня хмарам, а маладому вольнаму, магутнаму ветру...

Гэта было даўно...

### На кручах ракі.

...Шырокая буйная рака прарэзала горы, вышла з-за лесу і панесла свае неўгамаваныя воды ўніз, на поўдзень. Навакол ціха, як дзесяткі, сотні год назад. Срабрыцца вада пад праменьнямі гарачага жнівеньскага сонца. Здалёк прайшоў цягнік, пусьціў клубы шэрага дыму і зьнік за мастом за далёкім гаем.

Мы стаім над Сажом. Мой спадарожнік апавядае аб мінулым і сучасным.

— Вось тут з крутога берагу, з невялічкага хваёвага бору, па традыцыі, у Сож „сьвяточнымі днямі“ спускаліся дзесяткі маладых хлапцоў. Тут добра купацца ў гарачыя летнія дні пад вечар, калі вада, нагрэтая за дзень, робіцца цёплай, прыемнай.

Давалі нырца, фыркалі, абліваліся вадой, даставалі з дна ракі белую зямлю і аблеплівалі ёю адзін аднаго. А дно ракі—белае, нібы сьнежны абрус,—раскінулася на прасторах зямлі.

Белае дно ракі шмат каго цікавіла, прымушала думаць над паходжаньнем такой „дзіковіны“. Часта людзі распраналіся, бралі рыдлёўкі і недалёка ад берагу капалі дно, рылі ямы ў пошуках звычайнай чорнай зямлі. Рылі не таму, што была патрэба ў чорнай зямлі, а толькі каб давесьці тым, якія сьцьвярджалі, што белае дно ня мае ні канца, ні краю. Але колькі ні прабавалі капаць, нікому не ўдалося на дне ракі знайсьці чорную звычайную зямлю.

Дзеці часта пыталі ў сваіх бацькоў пра белую зямлю, але ніхто ня мог як сьлед расказаць пра яе. Гаварылі, што сотні год жыве рака, але ніколі яна не зьмяняла свайго аблічча, свайго белага дна. Рака пільна сочыць за сваёй бялізной. Кожнай вясной дзесяткі ручаёў бясконца нясуць у раку бруд, пясок—рака яго змывае, кудысьці зносіць—і дно застаецца белым, роўным і чыстым.

Ад ракі да м. Крычаў цягнуцца вялікія горы. Горы здаўна лічыліся таямнічымі, незразумелымі, неразгаданымі і гэтым выклікалі шмат спрэчак, здагадак, непаразуменьняў. Праўда, ужо некалькі дзесяцігодзьдзяў, як белыя горы перасталі цікавіць мясцовае вакольнае сялянства.

Але часта і да апошніх дзён сяляне прыходзілі да гор за некалькі кілёмэтраў з рыдлёўкамі і кошыкамі, прыяжджалі на конях, капалі белую зямлю, бялілі ёю печы, сьцены сваіх хат, абсыпалі дзіўнай зямлёй сьцежкі ў палісадніках, заместа чыстага жоўтага пяску. Калі абсыпалася пабеленая печ, хата, надыходзілі вялікія сьвяты,—зьбіраліся, ішлі і ехалі зноў на белую гару за патрэбнай белай зямлёю.

Так было, калі ня было яшчэ чыгункі, ня было маленькай станцыі з невялікай шыльдай „ст. Крычаў“.

### Дзьве эпохі...

...Пачала будавацца краіна, залечваць раны ад шматгадовых боек. Аднаўлялася разбуранае, разварочанае, пачало будавацца новае. Весткі аб белай рацэ, аб белых гарах дайшлі да цэнтраў—да Менску, Масквы.

Зацікавіліся людзі, організацыі. Прыехалі інжынэры, дасьледчыкі з малаточкамі на шапках. Хадзілі па крутых берагох Сажа, распраналіся, мацалі на дне ракі белую зямлю, пыталі сялян, глядзелі пабеленыя печы, хаты, палісаднікі. Вёска зноў загаварыла пра белую гару. Вечарамі на прызьбах зьбіраліся сяляне, слухалі навіны, расказвалі бачанае і танулі ў здагадках, што будуць рабіць інжынэры з белай гарой.

А інжынэры ўсё рэзалі горы, дзюравілі, вымяралі, абмяркоўвалі, запісвалі і адвозілі кудысьці ў патаемных торбачках белую зямлю.

Так была знойдзена крэйда. Сотні, тысячы, мільёны тон яе захавала прырода ў крычаўскіх гарах на кручах і на дне ракі. Крэйда ляжала тысячы год, недасьледванай, нявыкарыстанай, да пабудовы на берaзе ракі, ля хваёвага бору крэйдавага заводу. Сотні, тысячы тон белай зямлі завод ператварае ў высока-гатунковую крэйду. Але завод ня можа выкарыстаць тых багацьцяў, што хаваюць у сабе крычаўскія горы. Горы багаты ня толькі на крэйду, але і на дзесяткі гатункаў рознай гліны.

Краіна, дасягнуўшы высокіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, стаўшы на шлях разьвіцьця цяжкой індустрыі і карэннай перабудовы сельскае гаспадаркі на колектыўных асновах, перажывае востры дэфі-

цыт у будаўнічых матар‘ялах. Мы штогод будуем сотні заводаў, фабрык, электрастанцый, тысячы клюбаў, тэатраў, хат-чыталень, рабочых пасёлкаў і дзесяткі тысяч будынкаў у колгасах і саўгасах. Як паветра, як хлеб, нам патрэбны жалеза, цэмант, лес, цэгла, крэйда, гліна. Крэйда і гліна зьяўляюцца асноўнай сыравінай для вырабу цэманту. У канцы 1929 г. ўрадам БССР на аснове даных аб багацьцях сыравіны ў Крычаўскім раёне была прынята пастанова пабудаваць цэмантны завод.

### Нараджэньне гіганту.

Калі сонца пагнала сьнежныя прасторы ўніз, засьпявалі ручаі і панесьлі каламутную ваду ў раку, калі паказалася зямля, мокрая, ліпучая, цяжкая, зноў над р. Сож зьявіліся людзі з малаточкамі на шапках; хадзілі цэлымі днямі ад усходу і да заходу сонца, вымяралі, пісалі, рэзалі зямлю стужкай, забівалі на пустцы калы — сустракалі вясну 1930 г.

Потым прышлі людзі. Сотні людзей у кажухох, сьвітках, гарадзкіх палітах, у лапцёх, камашах, галёшах... кастрамскія, калускія, тамбоўскія, аршанскія, магілеўскія, полацкія, вяцкія, бабруйскія, тульскія... з рыдлёўкамі, сякерамі, піламі, кусачкамі, малаткамі... муляры, цесьляры, арматуршчыкі, апалубшчыкі — сотні людзей. Пустка напоўнілася людзкім гоманам, сьмехам, песьняй, моцным „расійскім“ сказам. На кручах ракі вырасьлі першыя палаткі — палатняны горад прытуліў рабочых, прышоўшых заваяваць пустыр, будаваць карпусы цэмантнага гіганту, ажыцьцяўляць плян вялікіх работ. Чыгунка, па якой раней рэдка праходзілі цягнікі, пачала кожны дзень выкідаць на пустку дзесяткі вагонаў жалеза, лесу, дошчак, цэглы, пяску, каменьня, шкла, цэманту і безьліч людзей.



Галоўны корпус цэмантнага гіганту.

І вось цяпер, дзе яшчэ гэтай вясной гуляў сярдзіты вецер, дзе на пустцы красаваўся горкі палын, сьпяваючы песьні жальбы перад сьмерцю, вокам ня скінеш карпусоў і будынкаў крычаўскага цэмантнага гіганту. Вырас галоўны корпус, стаіць, прыбраны рыштаваньнямі, нібы важны госьць, на кручах ракі.

Двор заводу нагадвае грандыёзны мурашнік, захаваны і незразумелы опортуністычнаму наглядальніку. Стукаюць моторы часовай электрычнай станцыі, грымяць каменякрышылкі, растворамяшалкі, сьпяваюць песьні перамогі над пусткай, над белай гарой, над старым Крычавам ваганэткі, сякеры, пілы, рубанкі, кусачкі ў руках соцень ударнікаў пры лютым марозе.

Падыходзяць да канца жалезабэтонныя работы.

Так нараджаецца цэмантны гігант, скідаючы з сябе парадную форму рыштаваньняў—сьведак геращчных дзён, гераічнай эпохі.

### Твар Ігнатава.

У канторы пабудовы шумна. Па заклiку райкому партыі для ліквідацыі прарыву на пабудове прыбылі пяцьдзесят колгасьнікаў. У маленькі пакойчык колгасьнікі прынесьлі з сабой подых суровай зімы, подых марозна-сьнежных прастораў.



Колгасьнікі дапамагаюць ліквідаваць прарыў.

Іх сёньня пяцьдзесят. Заўтра будзе дзьвесьце—гэта першыя з тых, каго накіравалі колгасы дапамагчы ліквідаваць прарыў і гэтым паставіць у тэрмін у строй соцыялістычнай прамысловасьці Савецкай Беларусі цэмантны гігант.

— Мы да вас да канца штурму. Разам будзем змагацца! Мы з посьпехам скончылі сяўбу і ўборку і прышлі да вас,—так намаляваў задачы свайго прыходу адзін з ліку пяцідзесяці.

Са скрыпам адчыніліся дзьверы—увайшоў прысадзісты малады рабочы. Раступіліся колгасьнікі, увайшоўшы падышоў да стала—і раптоўна, нечакана для ўсіх стукнуў нагой аб стол і сярдзітым голасам закрычэў:

— Разьлік!

— Тав. Ігнатаў, чаму разьлік, у чым справа?

— Бачыш, боты есьці просяць, у роце зубы паіржавелі.

— Сёньня атрымаеш валёнкі. Станавіся на работу. Пра паіржавелыя зубы маніш, табе ніхто не паверыць.

— Ня стану!

Ігнатаву пачалі даводзіць, што ён сваімі паводзінамі зрывае будаўніцтва свайго-ж заводу, што яго ўчынак зьяўляецца ганебным дэзэртырствам з фронту соцыялістычнага будаўніцтва. Ігнатаў сядзеў і цягнуў цыгарку, смактаў яе, як малое дзіця соску.

— Гэта завод ня мой.

— Як ня твой, а чый-жа?

— Беларускі, а я калускі. У мяне ў Калузе ёсьць свая гаспадарка, свой конь, свой і завод.

Для ўсіх стала зразумелым, што Ігнатаў—не выключэньне, што ён адзін з тых, хто на лета ідзе на работу, а на зіму варочаецца на сваю гаспадарку, што Ігнатаў не карэнны рабочы, але звычайны сэзоньнік, якога ані ня цікавіць ні завод; ні што іншае, апрача сваёй гаспадаркі ды ўласнага заводу (сям'і).

Адзін з колгасьнікаў ня вытрымаў. Ён сядзеў, глядзеў на Ігнатава, слухаў яго гаворку і, нарэшце, запытаў·

— Дык ты-ж што-ж, гаспадарку маеш?

— Маю.

— А чаму ў колгас не ўвайшоў?

— Не хацеў, дык і не пайшоў. У мяне свой колгас. Вось зарабіў грошы, прыеду дахаты і організую колгас.

Колгасьнік зразумеў словы Ігнатава як і належала.

— Значыць, прап'еш?

— І прап'ю. Грошам, якія я зарабіў, я гаспадар, а ня ты і ня твой колгас...

Колгасьнік змоўк, у яго трэсьліся рукі ад злосьці і крыўды, якую яму нанёс Ігнатаў. Махнуў рукой.

— Што-ж з табой гаварыць, з несьвядомым... Колгасьнік скруціў цыгарку і закурыў.

— Ігнатаў! ты галасаваў за абвяшчэньне штурму па ліквідацыі прарыву і за тое, каб не пакідаць работы да канца штурму?

— Галасавалі ўсе—галасаваў і я.

— Так, учора галасаваў, каб штурмаваць прарыў, а сёньня кідаеш работу.

— Гэта мая справа: хачу—працую, хачу — не.

Калі рабочыя пайшлі на паказальны суд над прагульшчыкам, Ігнатаў сабраў свае рэчы, кінуў завод і паехаў да сябе на бацькаўшчыну.

Прагульшчык, дэзэртыр... Факты — суровы прысуд ня толькі Ігнатаву, але і дзесяткам людзей, якія становяцца на шлях Ігнатава.

### „Скончым, ці ня скончым?“

Прыслухайцеся да творчага гулу, акінце вачыма будаўніцтва, перагарнеце старонкі газэт, зводак, тэлеграм, пастаноў, рэзолюцый

і падслухайце званкі тэлефонаў — вы пачуеце ўсхваляваныя галасы:

— Цэманту, цэманту, цэманту!..

Не хапае цэманту. Бяз цэманту нельга будаваць. Апусьцелі цэмантныя бочкі, ходзяць пахмурыя бэтоншчыкі, муляры, армартуршчыкі, апалубшчыкі. Бяз цэманту непатрэбна арматура — яна ляжыць зваленая грудамі, іржавее пад дажджом, вецер сьпявае над ёю сваю нудную песьню. Бяз цэманту не растуць карпусы, не абрастаюць рыштаваньнямі, бяз цэманту пустка—пусткай застанецца.

Усхваляваны голас, патрабуючы цэманту, говар няскончаных карпусоў пачулі і зразумелі тыя, хто прышоў на пустку ўвесну 1930 г. з рыдлёўкамі, кусачкамі, сякерамі. Але гэтага голасу і говару няскончаных карпусоў не пачулі тыя, што былі пастаўлены на чале пабудовы. Не пачулі і кіраўнікі з Белдзяржбудаб'яднаньня, „Стромстроя", Белкоопсаюзу.

XIII зьезд КП(б)Б у сваіх пастановах пабудову заводу аднёс да ліку ўдарных пабудоў, якія павінны быць максымальна забясьпечаны ўсімі патрэбнымі матар'яламі, сродкамі, людзьмі, продуктамі харчаваньня. Мы можам будаваць так, як ня будуе ніводная капіталістычная краіна. Мы ў год пасьпяваем зрабіць столькі, колькі „цывілізаваныя" краіны робяць у дзесяткі год. Наш дзень — месяц—эпоха, нябачаная сьветам. Такі гігант, як крычаўскі цэмантны завод, царскі ўрад будаваў-бы некалькі год—рабочая кляса нашай краіны ўзялася выканаць заданьне партыі і ўраду і за восем месяцаў пабудаваць завод і паставіць у строй. Толькі людзі, якія палохаюцца высокіх тэмпаў, якія няздольны зразумець магутнай творчай актыўнасьці рабочае клясы, могуць адмаўляць нашы магчымасьці будаваць у некалькі разоў хутчэй, чым капіталістычныя краіны. Такія людзі знайшліся сярод кіраўнікоў будаўніцтва. Яны спрачаліся, дыскутавалі— „скончым, ці ня скончым" і сваімі хістаньнямі глушылі ініцыятыву рабочых і не давалі магчымасьці як сьлед разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва між паасобнымі групамі рабочых. Кіраўнікі Казлоў і Эстрын ажыцьцяўлялі тэорыі правых, падтрымлівалі клясавага ворага, які імкнецца сарваць пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва. Яны з скуры вон лезьлі, каб форсаваць работы ня першай чаргі, але другарадныя пабудовы. Казлоў і Эстрын, чыноўнікі з Белдзяржбудаб'яднаньня, „Стромстроя" давялі пабудову да вялізнага прарыву. Так, надворныя жалезабэтонныя работы і кладка складаных тонкіх конструкцый ня былі скончаны да маразоў. Праводзіць жалезабэтонныя работы ў маразы — гэта значыць кідаць на вецер лішнія тысячы рублёў і ставіць пад пагрозу сваечасовае сканчэньне пабудовы. Да гэтага давяло опортуністычнае кіраўніцтва, якому ў падрыўной рабоце дапамаглі галавацяпы ўсіх колераў, усіх гатункаў.

## Энтузыястыя справы.

Пад нагамі хлюпае гразь. Сібірны вецер зрывае апошняе пажоўклае лісьце з адзінокіх дрэў. Ідзе зіма, суровая, марозная, моцная. Пад вечар вецер уняўся, дождж перастаў біць у твар халоднымі кроплямі. На захадзе паказалася сьветлая паласа — выглянула сонца і ў полымі пажару схавалася за далёкім хваёвым борам.

Людзі ня бачылі сонца некалькі дзён, але зьяўленьне яго ні ў кога ня выклікала пачуцьця радасьці. Сонца бачылі ўсе: муляры, арматуршчыкі, цесьляры, але яно іх ня ўзрадвала.

— Зьмітро, будзе мароз! Бяда!

— Застанецца адзінаццатая рама, фундамант.

— Не застанецца! Прыдзецца будаваць цеплякі.

— Паляцяць тысячы на вецер!

— Начальства лепш ведае, „начальству пытаньняў не задаюць, яно само задае пытаньні“—жартаваў арматуршчык Іваноў.



Тав. Арлоў—брыгадзір арматурнай арцелі. Прэм'яваны за ўдарную работу.

— Ты, браце, правільна кажаш, але ты памыляешся.

— Чаму?

— Хіба ў першую чаргу трэба было будаваць конны двор, карэтню? Га?

— Сёньня сход, пагаворым, пабачым — трэба, ці ня трэба.

Сход быў гарачы, дымны, шумны. Уставалі і гаварылі тыя, хто з першага дня працаваў на пабудове і ні разу яшчэ ня выявіў сваёй актыўнасьці. Гаварыла рабочая кляса. Кожнае слова было суровым прысудам опортуністычнаму кіраўніцтву, якое ішло насуперач жалезнай волі рабочай клясы.

У далёкім кутку сядзеў чалавек, прагна слухаў кожнае слова, некалькі раз уставаў ізноў. Калі старшыня абвясьціў „спрэчкі скончаны“, устаў чалавек з лаўкі, падыйшоў дастала і сказаў:

— Досыць гаварыць! Трэба рабіць, а не „часаць“ языком. Прапаную абвясьціць двухтыднёвік штурму па ліквідацыі прарыву. Ніводны рабочы не павінен кінуць работы на працягу штурму — ніводнага прагулу. Зробім і пабудуем, калі ўсе... — вось мае словы і словы маёй брыгады.

— Правільна! Правільна! — закрычалі арматуршчыкі з брыгады Арлова.

Арлоў ня любіць гаварыць, ён ня кідае слоў на вецер, у яго кожнае слова—справа, павялічаная на кілёграмы арматуры. У брыгадзе Арлова няма прагулаў, дэзэртыраў, гультаёў — яна паказвае лепшыя ўзоры сапраўднай бальшавіцкай работы. Брыгада ня лічыцца з часам, сваімі асабістымі інтарэсамі. Брыгада Арлова большасьць сваіх выходных дзён адпрацавала па ліквідацыі прарываў.

Калі праходзіш міма брыгады Арлова, ня можаш ня ўспомніць Ігнатава, частку брыгады Антонава, якім свая хата, сваё асабістае

даражэй за соцыялістычную будоўлю. Рабочыя-арматуршчыкі з брыгады Арлова могуць быць залічаны да тых рабочых-сэзоньнікаў, што цалкам пайшлі разам з пролетарыятам, цьвёрда пастанавілі працаваць ня толькі ў сэзон, але быць на будаўніцтве цэлы год. Яны зразумелі, што краіна перажывае востры недахват у кваліфікаванай рабочай сіле.



Брыгада Арлова за работай.

Сваёй упартай, энэргічнай работай арлоўцы цьвёрда сказалі сваё слова: — Мы за няўхільнае ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

### „Па сьвеце хадзіў бальшавік...“

Калі ноч агортвае прасторы, зацягвае туманам даліну, калі тонуць у зморку лясы, рака, далёкі мост,—завод загараецца электрычнасьцю, полымем электрычнага пажару. У барках зьбіраюцца людзі,—пачынаюцца гутаркі, сьпевы. Нехта ў кутку расказвае анэкдот—чуваць гучны, бадзёры, малады сьмех. Брыгада Арлова абмяркоўвае свой прамфінплян на заўтрашні дзень.

У далёкім і цёмным куту чутны няроўны, глухі шэпт. Нехта ўздымаецца на ложак і крычыць на ўвесь голас:

— Таварышы, прашу ўвагі! Адбываецца нарада прагульшчыкаў. На павестцы дня першым пытаньнем разглядаецца ліквідацыя „рускай горкай“. У бягучых справах—гульня ў карты. Жадаючыя могуць прыняць удзел.

Узрыў рогату. Падымаецца шум, крык. Нехта ўхітраецца ў гэты час выключыць сьвятло. Барак тоне ў цемры. Цемната дае натхненьне і сьмеласьць ліквідатарам „горкай“. Пад стольлю вісіць лаянка, ляцяць бутэлькі, услоны, крэслы.

— Значыць,—кажа комсамолец Мікола,—амаль кожны дзень. П'юць, прагульваюць заробленае, ня выходзяць на работу па некалькі

дзён. Іх дзевяць чалавек. Днямі ляжаць на ложках, пераціраюць салому ў сяньнікох. Падбухторваюць другіх рабочых кінуць работу і ехаць дахаты. Хто гэтыя людзі?—Прагульшчыкі, зрыўшчыкі будаўніцтва. За кожным з іх налічваецца за сем месяцаў работы на пабудове па 30—40 дзён прагулаў.

* * *

У рэдколегію насьценгазэты паступіла заметка. Тэкст яе нас зацікавіў. Заметка напісана няроўным почаркам, на брудным кавалку паперы. Вось яе тэкст:

„Маленькая заметка“.

„Па сьвеце хадзіў, блудзіў бальшавік. Яму ня было куды ісьці. Нідзе яго ня любілі і з ім ня лічыліся. Думаў, думаў бальшавік і, нарэшце, надумаў: узяў чатыры крэслы і пайшоў на сцэну. Прышоў на сцэну, чакае. Прыходзіць мужык.

— Здарова, бальшавік!

— Здарова, мужык!

— Што ты тут робіш, бальшавік, навошта табе крэслы?

— Як навошта? У цырку дрэсыроўшчыкі на такіх крэслах дрэсыруюць быкоў, ну, а я буду дрэсыраваць мужыкоў“.

— Вось, бачыце, ідэолёгія?—гаворыць рэдактар—бухгальтар кантторы пабудовы. Гэта ў нас не ўпяршыню. Нейчая рука спраўна амаль кожны тыдзень падсоўвае такія „малюнкі“, поўныя кулацкага зьместу, накіраваныя супроць пабудовы заводу.

Чалавек, які піша, што „бальшавік дрэсыруе мужыка“, калі ён сам не зьяўляецца кулаком, дык выконвае соцыяльны заказ нашага заклятага клясавага ворага.

— Э! Глупства. Ці ёсьць аб чым бедаваць! Хто дасьць веры гэтай агіднай байцы?—хіба Ігнатаў ды яго дзевяць прыяцеляў — п‘яніц, прагульшчыкаў? Гэта—ня людзі, у іх няма нават чалавечага гонару, яны патанулі ў бутэльцы, за бутэльку прадалі ня толькі наш завод, але сваю ўласную сям‘ю з гаспадаркай.

## На сходзе прагульшчыкаў.

На сьценах канторы, сталовай, у бараках раніцою былі разьвешаны абвесткі: „Штаб штурму сёньня склікае сход рабочых, якія за апошнія дні ня выходзяць на работу, з наступным парадкам дня: 1. Становішча будаўніцтва. 2. Прычыны нявыхаду на работу. Штаб штурму“.

Каля абвестак зьбіраліся групы рабочых, хто-небудзь чытаў, а іншыя ўважліва слухалі, зьдзекваліся над пасяджэньнем п‘яніц.

— Цікава. Трэба абавязкова зайсьці.

— Ды яны ня пойдуць, чорт іх панясе на сход, каб з іх сьмяяліся.

— Пойдуць, брат, паглядзіш пойдуць.

Аб тым, ці пойдуць прагульшчыкі на сход, горача спрачаліся рабочыя паміж сабой, у штабе таксама ня дужа былі пераконаны, што прагульшчыкі прыдуць.

Пачало вечарэць. Прагуў гудок, рэха разьнеслася па дварэ пабудовы і зьнікла за белай гарой.

Рабочыя пасьля вячэры па некальқі чалавек накіроўваліся ў рабочком, дзе павінен адбыцца сход прагульшчыкаў.

Праз некалькі хвілін у пакоі стала цесна і душна.

— Досыць паліць вам „буржуйку“, дыхаць няма чым, пазапарымся, як у лазьні.

— Нешта, брат, прагульшчыкаў ня відаць!

— Пэўна, „горкую“ ліквідуюць.

Час ішоў, прагульшчыкаў ня было, штабістыя пачалі хвалявацца.

— Пэўна, ня прыдуць?

— Трэба за імі каго-небудзь паслаць?

— Вылучым дэлегацыю,—прапанаваў нехта і весела расьсьмяяўся.

— А мабыць і сапраўды вылучыць дэлегацыю?

У склад дэлегацыі ўвайшлі прадстаўнікі ўдарнікаў, штабу, „зраднік“ прагульшчыкам Макараў, які падаў заяву, што бярэцца за работу, больш ня будзе рабіць прагулаў і абвяшчае сябе ўдарнікам. Пакой напоўніўся напружным чаканьнем. Людзі курылі, гаварылі, але твары іх былі сур'ёзнымі і заклапочанымі. На кожнага з прысутных зрабіла цяжкае ўражаньне кароткая інформацыя начальніка штабу, які гаварыў перад тым, як вылучыць дэлегацыю.

— Надворныя жалезабэтонныя работы нясканчаны. Надыйшлі маразы. Працаваць стала ў шмат разоў горш, чым да маразоў. Не хапае людзей. Трэба 150 цесьляроў. Патрэбны муляры, арматуршчыкі, апалубшчыкі. Пры такім вострым недахваце людзей добры дзесятак



Лепшыя комсамольцы-ўдарнікі.

ня выходзіць на работу. Паставіць прагульшчыкаў на работу, вырваць з іхных зубоў шклянку з гарэлкай—справа ўсіх рабочых пабудовы.

Разам з увайшоўшымі людзьмі пацягнула нафтай ад матораў электрастанцыі, засьмярдзела нешта падобнае да цыбулі з горкай. Рабочыя, якія сядзелі на лаўках і грэліся каля печкі, паўставалі і моўчкі адыйшліся да сьцяны, да дзьвярэй. Нехта ня вытрымаў і ўпаўголаса сказаў:

— Сядайце, паны-„генэралы“!—і дробненька, яхідна засьмяяўся, але на яго цыкнула некалькі чалавек, і ён пакорліва змоўк.

У пакойчыку стала ціха. Усіх захапіла нейкае жудаснае маўчаньне. Выразна чуваць быў грукат мотораў станцыі. Прагуў дзесьці паравоз. Начальнік штабу даставаў з скрынкі паперы, перагортваў, углядаўся, чагосьці шукаў.

У клюб прайшлі комсамольцы. Пачуўся сьмех, гоман, за сьцяною зайгралі і нехта зацягнуў вясёлую песьню. А ў пакойчыку ўсё яшчэ стаяла цяжкая цішыня. Начальнік штабу скруціў цыгарку, папрасіў у суседа сярнічкі. Цішыня трэснула, адыйшла кудысьці ад пакойчыка, пакінуўшы людзей. Пачуўся стрыманы гоман. І...

— Павел Шакалаў ёсьць?

— Ёсьць!

— Андрэй Шакалаў?

— Я!

...Мы сёньня вас паклікалі, каб запытаць, чаму ня выходзіце на работу, чаму зрываеце наша будаўніцтва.

— Мы ня зрываем, мы просім пусьціць нас дамоў.

— Мы што, мы не прагульшчыкі... Пара дамоў... Папрацавалі—і хопіць.

— А дзе-ж вашы абяцаньні?

— Якія?

— Ня ведаеце? За штурм рукі паднімалі?

— ?

Да стала падыйшоў малады рабочы, выцягнуў з бакавой кішэні паперку і падаў начальніку штабу.

— Што гэта ў цябе, Міхась?

— Тэлеграма з дому.

— Аб чым?

— Памерла маці. Я заўтра павінен выехаць.

Устаў дзесятнік Валодзін, адзін з лепшых ударнікаў на пабудове, некалькі раз прэм‘яваны за ўзорную работу. Падыйшоў да стала і зьвярнуўся да старшыні штабу.

— Дай мне зірнуць на тэлеграму.

— Няўжо і дзесятнік паедзе з братам хаваць маці?—пытаў рабочы ў „генэрала“.

Дзесятнік прачытаў тэлеграму, паглядзеў на начальніка штабу, на свайго роднага брата Міхася і раптам зусім нечакана зарагатаў, так што ў пакойчыку вокны дрыжэлі.

— Міхась! Сабака ты! Каго ты хочаш абдурыць? як гэта так, твая маці, значыць, памерла, а мая як-жа?

— Калі мая памерла, значыць, і твая...

— Досыць!—перапыніў дзесятнік,—разумею. Арынка па табе засумавала. Маю, браце, маці калом не заб‘еш. Дарма ты гэту штучку прыдумаў.

Міхась стаяў і паціскаў плячыма, нібы не разумеючы ў чым справа, аб чым гаварыў яго брат.

Дзесятніку Валодзіну ніхто не даваў слова, але ён пачаў, як казалі аб ім, „наварачваць“. Доўга лаяў прагульшчыкаў, абзываючы іх гультаямі, апокамі і чым папала.

— Ты думаеш, Шакалаў,—гаварыў Валодзін,—што я ня ведаю, чаму ты на работу ня ідзеш? Ведаю, брат! Хочаш каляды гуляць у дварэ. Новы год спатыкаць са сваякамі. А я вось такі самы, як і ты, і ка-

ляды і новы год буду тут, пакуль не пабудую завод—адгэтуль не пайду. Час уразумець, што з-за тваіх каляд мы можам да тэрміну завод не пабудаваць. Трэба класьці бэтон, а як скончым—тады і пагуляем. Эх! брат, як...

— Слова! Дайце слова!—закрычэў Шакалаў. Валодзін змоўк. Шакалаву далі слова.

— Дарэмна ты, таварыш дзесятнік, на нас клепеш. Мы, як і ўсе... Заўтра выходжу на работу—вось і ўсё!..

— А я не пайду!—закрычэў Міхась.

— Пойдзеш, брат, дамоў ня пушчу, Арынка твая будзе жыва.

На другі дзень „генэралы“ патанулі ў чалавечай масе на пабудове. А маці Міхася... „жыва, здарова, чаго і вам жадае“...

## „Здесь будет город заложен“...

Мястэчка... Вузкія, гразкія вуліцы... Маленькія драўляныя хаткі з мізэрнымі акенцамі, палісаднікамі з рабінай і клёнам пад вокнамі. Калі ад вакзалу едзеш у мястэчка, дык абавязкова на ўскраіне напаткаеш возьнікаў, якія гуртам выцягваюць вазы, што завязьлі ў гразі. Гразь па калені, блішчыць, нібы шкляное бясконцае поле. Вуліца вядзе ўніз, праз рэчку і зноў на гару і зноў спускаецца ў нізіну. Крычаў раскінуты ў гарах. Калі на яго глядзіш, мімавалі ўспамінаеш аулы ў Закаўказьзі. Маленькія хаткі на схілах гор і такая-ж цішыня, як у Крычаве. Можна праехаць усё мястэчка, спускаючыся з гор і ўздымаючыся на горы, і не напаткаць ніводнага чалавека. Рэдка сустракаюцца мураванкі, але і тыя, што ёсьць, у сваёй большасьці стаяць пад саламянымі стрэхамі.

У двух кілёмэтрах ад Крычава відаць ужо якіясьці вялікія вежы.

— Што гэта такое там відаць?—пытаю возьніка.

— Гэта касьцёл, зараз клюб, тэатр і пошта.

Касьцёл стаіць на гары, вялізны волат засьціў сабою ўсё мястэчка. Касьцёл, царква, адна, другая, трэцяя і добры дзесятак сынагог—спадчына мінулага, былое багацьце, „гонар“ мястэчка Крычава. Праўда, за трынаццаць год Крычаў мала чым зьмяніўся з надворнага выгляду. Хоць касьцёл ужо больш не касьцёл, хоць менш стала сынагог, хоць выступае рад вялікіх мураванак,—усё-ж Крычаў ня той, якім ён будзе заўтра.

Крычаў вымушаны будзе ў бліжэйшыя гады зьмяніць свой твар. Цэмантны гігант, што вырас за белай гарой, прымусіць мяшчанскі стары Крычаў даць дарогу новаму Крычаву, які нараджаецца разам з гігантам. Замест сьляпых ліхтароў, хутка лямпачка Ільліча асьвятліць будучыню для Крычава, як пролетарскага цэнтру БССР, які праз пэўны час будзе ня менш такіх цэнтраў, як Барысаў, Ворша. Адлегласьць паміж цэмантным гігантам і старым Крычавам будзе запоўнена социялістычным горадам.

Сотні год Крычаў нагадваў сабой закінуты аул на кручах гор з вежамі цемры, з брудам на вуліцах, з ліхтарамі, якія ня сьвецяць, з паламанымі тратуварамі, з палісаднікамі і рабінай пад вокнамі, з дробнымі гандлярамі, са спрытнымі дзялкамі. Успаміны аб гэтым старым Крычаве будуць заслонены социялістычным горадам, які гіганцкімі тэмпамі будуецца абапал белае гары.

Сьледам за цэмантным гігантам, вось тут, на пустках і на палёх, дзе калосіцца ў жніўні ядранае жыта, хутка вырасьце яшчэ рад за-

водаў. З вясны будуць распачаты работы па пабудове комбінату будаўнічых матар'ялаў... Хутка маленькая станцыя Крычаў зробіцца вузлавой вялікай станцыяй. Ужо цяпер адгэтуль цягнікі разыходзяцца ў чатыры бакі: Ворша—Унеча, Магілеў—Рославў. Праз некалькі месяцаў расквітнее пустка. Замест горкага палыну, будзе красавацца адбудаваны цэмантны волат, дзесяткі пад'езных шляхоў, сотні, тысячы рабочых крычаўскія багацьці ператвораць у цэмант, і сотні цягнікоў разьвязуць па ўсіх канцох Савецкай Беларусі кроў для новага будаўніцтва. „Чорнае золата“ Багомскіх балот, якое сотні год ляжала, нікім не кранутае, нікому непатрэбнае, дзесяткі, сотні вагонаў павязуць на завод, каб напоўніць творчай энэргіяй ненажэрныя катлы і турбіны электрастанцыі. У 1931 г. цэмантны гігант дасьць краіне 200.000 бочак цэманту, а калі будаўніцтва заводу будзе скончана, дык краіна кожны год будзе атрымліваць 1.400.000 бочак цэманту. 20 вагонаў—2.000 бочак кожны дзень.

Пра цэмант гаворыць ня толькі рабочая кляса, партыя, афіцыяльныя ўрадавыя органы, гавораць колгасьнікі, бядняцка-серадняцкія слаі вёскі, гавораць нашы заядлыя клясавыя ворагі, якія бачаць у цэмантным гіганце посьпех соцыялістычнага будаўніцтва Савецкай Беларусі. Кожная новая фабрыка, новы завод, колгас, школа—гэта пролетарская соцыялістычная цытадэль ня толькі супроць замежнага ворага, які за апошні час узмоцнена рыхтуе напад на Савецкі Саюз і ў першую чаргу на яго форпост—Савецкую Беларусь, але і супроць унутранага ворага, які вельмі часта, маскуючы сябе, працуе разам з намі, імкнучыся вярнуць тое, што ніколі ня вернецца.

Не, незваротнае—ня вернецца!

Будзьце ўпэўнены, паны, імпэрыялістыя—ворагі краіны Саветаў, азьвярэлае кулаччо, правыя і „левыя“ опортуністыя—дапаможнікі клясавага ворага, Беларусь павярнуць назад на рэйкі капіталізму вам ня ўдасца. Будзьце ўпэўнены, што рабочая кляса прымусіць краіну, якая была раней пад падвойным уціскам, якая сотні год хадзіла ў лапцёх і толькі перад сьвятамі бяліла печкі ў хатах, зьменіць свой твар—яна ўжо яго зьмяніла! Замест горкага палыну, на прасторах Беларусі закрасавалі пышныя кветкі. Ці марылі вы, паны Пілсудзкі і К° што адвечныя пусткі, накшталт крычаўскай, бальшавікі прымусяць апрануцца ў жалеза-бэтон, у сталёвую вопратку вялікай эпохі росквіту соцыялістычнай гаспадаркі і культуры. Ці марылі вы, паны, абываталі, шкоднікі, клясавыя ворагі, дажываючы свае апошнія дні, што на прасторах Беларусі васількавы звон будзе заменены звонам малатоў, гудкамі волатаў заводаў і фабрык. Пройдуць дні—і вы ўбачыце, як учарайшы нявольнік памешчыка, сёнешні гаспадар колгаснай гаспадаркі будзе ня толькі бяліць печ нескарыстаным багацьцем краіны, але будзе будаваць для сябе, для грамадзтва новую, сьветлую будучыню на сваім цэманце.

### Мікітаў погляд.

З-за балот, з-за лясоў, з-за ракі ціха падыйшоў цягнік, нібы краўся, каб застацца незаўважаным.

Вагон, поўны людзей, торбаў, клункаў, кошыкаў, дыму цыгарак. І так кожны дзень прыходзіць цягнік на станцыю, пачынаецца шум, крык... Кожны імкнецца трапіць у вагон першым, нібы баючыся, каб

не застацца начаваць у адкрытым полі. Адыходзіць цягнік, на пляцформе застаецца адзінокі дзяжурны.

Пуста, ціха...

Сярод шуму чуваць нейчы гучны голас. З кожнай хвілінай нарастае сіла ў голасе таго, хто зьяўляецца яго гаспадаром. Вось ужо засталіся далёка недзе ля Крычава апошнія словы нормальных размоў—чалавек у тахт цягніку крычыць.

— Не, браточкі! з вамі гаварыць нельга. У нашай вёсцы вось так гаворыць Сазон Раманаў—люты вораг беднаты і колгасьнікаў.

Мяне зацікавіла нэрвовая размова невядомага чалавека з невядомымі мне людзьмі.

— Чаго, бацька, хвалюешся?

— Дык як, браток, не хвалявацца, калі людзі азбукі не разумеюць.

— Якой гэта азбукі?

— Бачыў завод?

— Бачыў.

— Ну і што?

— Вялікі завод...

— Ведаю, не пра гэта. З гліны цэмант будзе рабіць—вось у чым справа.

— Няма нічога дзіўнага...

— Гэта для мяне дзіўнага мала,—чалавек з напалову сівой барадой у сялянскай шэрай сьвітцы з гонарам стукнуў сабе ў грудзі:—бо ў Нямеччыне тры гады ў палоне хадзіў. Бачыў. А яны вось ня вераць.

Людзі, што спрачаліся з дзедам Мікітай, як ён сябе назваў крыху пазьней, моўчкі сядзяць і ўважліва слухаюць размову.

— Чаму ня вераць?

— Запытай чаму? Вось кажуць, што гэта не завод для вырабу цэманту, а комунію будуюць, куды згоняць мужыкоў з усяго краю. Жывеце, як хочаце, ляпеце з белай зямлі конікаў. А я кажу: ня дрэнна было-б, каб мы ўжо цяпер пабудавалі такі колгас. Гэта, брат, ня жарты такая махіна, зямлі будынкамі рознымі займае дзесяцін з 10. Мы, брат, такія штукі і ў колгасе хутка пабудуем, але трэба раней завод...

Нямаведама, ці Мікіта пераканаў сялян, што былі ў вагоне, ці яны больш не хацелі спрачацца з заўзятым дзедам,—сядзелі моўчкі.

А Мікіта гаварыў:

— Я сам на гэтым заводзе працаваў два тыдні,—дапамагаў ліквідаваць прарыў ад колгасу. Цяпер там мой сын і дачка там. Я ім сказаў, каб не варочаліся дамоў датуль, пакуль інжынэр ня скажа, што больш няма чаго рабіць.

Мікіта гаварыў не ад сябе, ён ня свой уласны погляд выказваў. Мікіта гаварыў ад маладога вясковага жыцьця, ад колгаснай руні, што ганарова квітнее на прасторах новай народжанай Кастрычнікам Савецкай Беларусі, гаварыў ад тых людзей, што не стаяць у баку, не назіраюць, але сваімі ўласнымі рукамі твораць новае, ніколі сьветам нябачанае.

Мікіта будуе колгас, яго сын будуе завод. Паміж імі няма розьніцы. Яны абодва—героі нашай вялікай творчай эпохі.

Крычаў,
сьнежань 1930 г.

# ХРОНІКА.

## Да барацьбы са шкоднікамі сельскай і лясной гаспадаркі.

У галіне сельскай і лясной гаспадаркі галоўнай задачай краязнаўцаў зьяўляецца вывучэньне і практычная барацьба са шкоднікамі сельскай і лясной гаспадаркі.

Мы ведаем, што Асоавіяхім правёў у гэтым напрамку курсы інструктароў і распачаў організацыю барацьбіцкіх абозаў. Усё гэта трэба вітаць.

У вырашэньні гэтай вялікай задачы павінны прыняць удзел усе краязнаўцы, і вынікі іх актыўнага змаганьня будуць вельмі карыснымі. Вывучэньне шкоднікаў павінна дасканальна выкрыць, якія шкоднікі ў нас ёсьць, да якіх умоў жыцьця яны найлепш прыстасаваны, што зьяўляецца для іх спрыяючым і што зьяўляецца для іх шкодным, каб апошнюю абставіну мы маглі скарыстаць супроць іх. Паўнаты ведаў у гэтай галіне мы пакуль што ня маем. Прывядзем прыклады. У нас пашырана думка, што матыль манашка (Ocneria monacha) зьяўляецца страшэнным шкоднікам лесу; ён можа пералятаць за 20 кілёмэтраў і больш. Такім чынам, адкладаючы яечкі, ён можа заражаць усё большыя і большыя плошчы лесу.

Тымчасам апошнія назіраньні нямецкіх вучоных — Вольфа і Краўзэ (1922)—сьведчаць, што саміцы манашкі перад адкладкаю яек зусім нярухлівыя. Адгэтуль практычныя вывады з нагляданьняў будуць зусім іншыя. Роўным чынам, згодна раней прызнанай думкі, вусені манашкі маюць здольнасьць уночы спаўзаць уніз па камлю. А таму барацьба з імі заўсёды вялася ў форме накладваньня клеевых колцаў. Зразумела, што гэты спосаб барацьбы каштуе грошы, вымагае часу. Тымчасам, згодна нагляданьняў нямецкіх вучоных, вусені манашкі, калі яны вырастаюць, дык зусім страчваюць рухомасьць і ўжо ўніз не спаўзаюць. Калі гэтыя нагляданьні правільныя, дык рэч зразумелая, што ў лесе гэтыя клеевыя колцы будуць зусім непатрэбнымі.

Другі прыклад. Пры барацьбе з жукамі-караедамі адводзяцца лоўчыя дрэвы. Гэта робіцца пры масавым разьвіцьці караедаў, якія зьяўляюцца страшэннымі ворагамі лесу. Аднак-жа, паводле досьледаў Галавянкі (1926), аказваецца, што чым шчыльней заселена драўніна караедамі, г. зн. чым больш іх разьвіваецца, тым больш іх гіне. Такім чынам, можа здарыцца, што адвядзеньне лоўчых дрэў можа дапамагчы караедам, а не пашкодзіць ім, бо жыльлёвая плошча для іх павялічыцца. Зразумела, што бясспрэчная шкода для лясной гаспадаркі будзе ў тым выпадку, калі ўстаноўка лоўчых дрэў будзе несваечасовая ды няправільная. Апрача гэтай шкоды, будзе яшчэ шкода гаспадарчага зьместу, як зьнішчэньне тысяч дрэў для лову, зарплата рабочым і г. д.

Значыць, трэба добра ведаць шкоднікаў; трэба ўмець адрозьніваць іх ад няшкодных, а тым больш ад карысных форм. Пры апырскваньні і апыльваньні атрутнымі матар'яламі расьлінных плошчаў можна, разам са шкоднікамі, зьнішчыць і карысныя віды жукоў і мошак. Значыцца, праца барацьбіцкіх абозаў павінна праводзіцца з ясным уяўленьнем таго, *з якой мэтай* робіцца опэрацыя, а таксама з улікам таго, што атрымоўваецца ў выніку. Памылкі заўсёды мажлівы, асабліва там, дзе нашы веды невялікія. Вось чаму ў такой важнай справе, як барацьба са шкоднікамі, мы павінны зьвярнуць увагу на пашырэньне нашых ведаў. Прывядзем яшчэ адзін прыклад. У Горацкім раёне мы кожны год наглядаем на палёх разьвіцьцё збожжавай коласавай мухі (Amaurosoma flavipes Fall). Яна амаль зусім нявывучана ў Савецкім Саюзе ў адносінах яе распаўсюджваньня і спосабу жыцьця. Шкода ад яе значная. Аднак-жа, нам не давялося атрымаць дарослай мухі з яе вусеняў і лялечак. Прычыну гэтага я бачу ў тым, што мой дасьледчы матар'ял засыхаў. Значыцца, у барацьбе з гэтай мухай трэба прыдумаць стварэньне такіх умоў, каб зімуючыя ў зямлі лялечкі засыхалі. Але дасканала гэта можна высьветліць толькі шляхам вопытаў, шляхам навуковага дасьледваньня жыцьця гэтай мухі.

Прыведзены мною рад прыкладаў паказвае, што для соцыялістычнага будаўніцтва, для захаваньня нашых лясных багацьцяў і палявых культур ад зьнішчэньня іх шкоднікамі неабходна перш за ўсё стварыць умовы, спрыяючыя вывучэньню гэтых шкоднікаў.

Проф. П. Салаўёў.

## Этнолёгічная экспэдыцыя па ўсходняй частцы Магілеўшчыны ўлетку 1930 г.

Этнографічная экспэдыцыя мела мэтай вывучэньне шэрагу пытаньняў матар'яльнай культуры і быту ўсходняй часткі Беларусі, а таксама папаўненьне беларускімі матар'яламі Этнографічнага Аддзелу Расійскага Музэю.

Маршрут экспэдыцыі склаўся з 2-х частак: ад г. Чавус (месца збору ўдзельнікаў) на поўдзень па р. Проні, да ўтоку ў яе р. Рэсты, потым па Рэсьце да басэйну р. Ухлясьці і па правым беразе гэтай ракі да г. Быхава. Далей экспэдыцыя павінна была дасьледваць левы бераг Ухлясьці, на Прапойск і Крычаў па Сажу.

Асноўная мэта экспэдыцыі — этнолёгічная: выявіць старажытную прымітыўную культурную аснову.

Асабліва рэльефна гэта праявілася ў такім пытаньні, як жаночыя ўборы, у прыватнасьці, спадніца, якая завецца „панёвай". Наўпрэкі нацыянал-дэмократычнаму погляду, што панёва — прыналежнасьць толькі да вялікарускага нацыянальнага ўбору, а што ў беларускіх жанчын спадніцы носяць назву „андарак", „саян" і інш., у гэтай мясцовасьці выяўлена наяўнасьць азначанага тыпу спадніцы з шарсьцяной матэрыі з вялікімі клеткамі 4-х колераў — чорнага, сіняга, чырвонага і жоўтага. Пры гэтым процэс афарбоўкі тканіны настолькі нескладаны, што зьяўляецца лёгка-дaступным. Рэцэпты афарбоўкі запісаны І. Сербавым і А. Супінскім.

Побач з вопраткай, належыць адзначыць цэлы шэраг архаічных форм як у будынках, так і ў бытавых рэчах, якія захаваліся ў жыцьці беларускіх сялян гэтай акругі да самага апошняга часу.

Перш за ўсё трэба адзначыць тыповую рысу сялянскіх будынкаў старадаўняга тыпу — што яны без жалезных цьвікоў. Гэта асаблівасьць самым навочным чынам праяўляецца ў способах прымацаваньня даху і наогул пакрыцьця будынкаў. Сюды адносяцца такія архітэктурныя элемэнты сялянскіх будынкаў, як „саха", „лямех", „круча", „козлы", і нават ужо больш позьнія, навеяныя гарадзкім уплывам „кроквы". Асабліва архаізм быў выяўлен пры вывучэньні двух тыпаў будынкаў: курнай хаты з яе глінабітнай печчу (процэс яе пабудовы быў прасочан у в. Боўкі Быхаўскага раёну) і лазьні (без прадлазьніка) з надзвычайна архаічнай печчу, складзенай з круглых каменьняў, зьнізу буйных, згары — больш дробных, нічым паміж сабою несцэмантаваных. Печы, падобна вышэйапісаным, вывучаліся ў с. Пятухоўцы Чавускага раёну; сустракаліся таксама ў іншых мясцох.

Гэткія печы маюць свае прототыпы ў раскапаных вогнішчах гарадзішч, селішч і стаянак і зьяўляюцца, такім чынам, вельмі цікавым фактам перажываньня ў XX стагодзьдзі старажытных культур.

Такім-жа перажыткам зьяўляюцца і знойдзеныя экспэдыцыяй прадметы бытавога характару, як, напр.: сеткі з цяжаркамі, вельмі падобнымі да выкапных форм; тое самае трэба казаць і адносна гліняных прасьліц. Знойдзена таксама ў адной з вёсак у аднаго старога дзеда-селяніна спражка, круглая з эсавідным язычком, тыпу курганных. Цікавы ножык з круглай утулкай (такія ўтулкі вядомы ў выкапных жалезных наканечніках дроцікаў, пік і г. д.). Паводле паданьняў, з такімі нажамі, узьдзетымі на палкі, выходзілі сяляне разьбіваць паноў у час сялянскіх паўстаньняў.

У ганчарнай вытворчасьці Чавусаў прасочаны старадаўні славянскі орнамэнт — лінейны, хвалісты, кіпцевы.

Па зьвестках, у г. Крычаве да гэтага часу існуе тэхніка лепкі пасудзіны ад рукі, „налепам". Калі гэта так, то тут магчыма ўбачыць генэтычную сувязь з старой ляпной керамікай.

В. Р. Тарасенка.

## На акадэмічным савеце БАН.

### Новым прэзыдэнтам Беларускай Акадэміі Навук абраны т. П. О. Горын (Каляда).

23/I-31 г. адбылося пасяджэньне акадэмічнага савету Беларускай Акадэміі Навук. Акадэмічны савет засядаў у пераломны момант, калі Акадэмія Навук пераключылася на новыя рэйкі работы, якая павінна пераварыць БАН з пляцдарму нацыянал-дэмократаў у Акадэмію пролетарскую, будуючую социялістычную культуру, пролетарскую навуку.

Акадэмічны савет разглядзеў тры пытаньні: выбары прэзыдэнта, аб дадатковых выбарах акадэмікаў і плян работы БАН на 1931 год.

Прэзыдэнтам Акадэміі Навук акадэмічны савет аднагалосна абраў тав. П. О. Горына (Каляда).

У зьвязку з пазбаўленьнем Саўнаркомам БССР годнасьці акадэмікаў 6 нацыянал-дэмократаў — Ластоўскага, Некрашэвіча, Лёсіка, Пічэту, Гарэцкага і Дубаха — і пашырэньнем штатаў акадэмікаў на 1931 год, акадэмічны савет пастанавіў даабраць 11 новых акадэмікаў, абвясьціўшы вакантнымі пасады акадэмікаў па інстытутах: гісторыі, хэміі, мовазнаўства і паводзін чалавека, а таксама па катэдрах: марксызму-ленінізму, па аграрным пытаньні, этнографіі, матэматыкі, эконом. географіі і фізыкі і па яўрэйскім і польскім сэктарох.

Савет пастанавіў надаць кампаніі па дадатковых выбарах акадэмікаў шырокі грамадзкі характар, прыцягнуўшы да яе працоўныя масы, навуковыя і вышэйшыя навучальныя ўстановы. Кампанія па давыбарах

акадэмікаў павінна быць скончана да 20 лютага.

Для правядзеньня выбарчай кампаніі акадэмічны савет абраў камісію ў складзе т.т. Хацкевіча, Платуна, Вальфсона, Шчарбакова, Рыўліна, Пятровіча, Агульніка і Серафімава.

Акадэмічны савет пастанавіў камандыраваць членаў прэзыдыуму БАН і акадэмікаў для правядзеньня выбарчай кампаніі на мясцох.

Савет зацьвердзіў агульную частку пляну работы БАН на 1931 год і прапанаваў прэзыдыуму БАН пераглядзець канчаткова ўсе пляны інстытутаў і катэдра

* * *

Новаабраны прэзыдэнт Беларускай Акадэміі Навук тав. П. О. Горын (Каляда) нарадзіўся ў 1900 годзе ў Зах. Беларусі. Бацькі—сяляне. З 15 год тав. Горын працаваў па найму. У 1918 годзе ўступіў у рады комуністычнай партыі і з гэтага часу працуе на партыйнай, навуковай і грамадзкай рабоце. У пачатку 1919 году т. Горын быў членам валаснога рэўкому ў Зах. Беларусі і арганізатарам валасной комуністычнай парт'ячэйкі. Пасьля разгрому арганізацыі белапалякамі тав. Горын служыць добраахвотнікам у Чырвонай арміі. У студзені 1920 году быў камандыраван у Сьвярдлоўскі унівэрсытэт, па сканчэньні якога працаваў у лектарскай групе унівэрсытэту. З 1923 да 1925 году вучыцца ў Інстытуце чырвонай професуры на гістарычным аддзяленьні.

З 1925 году т. Горын зьяўляецца членам прэзыдыуму таварыства гісторыкаў-марксыстаў. У 1930 г. ён абіраецца ў правадзейныя члены і кандыдатам у члены прэзыдыуму Комакадэміі.

Да апошняга часу т. Горын працаваў намесьнікам дырэктара інстытуту гісторыі Комакадэміі, членам прэзыдыуму таварыства гісторыкаў-марксыстаў, членам дзяржаўнага вучонага савету, членам рэдколегіі і намесьнікам адказнага рэдактара часопісі „Пролетарская революция“, членам рэдколегій часопісяй „Историк-марксист“ і „История пролетариата СССР“. Адначасова тав. Горын вёў пэдагогічную работу ў 2-ім Маскоўскім Дзяржаўным Унівэрсытэце і ў Інстытуце чырвонай профэсуры.

Тав. Горын мае рад навуковых работ па рэволюцыйным руху ў СССР, па гісторыі ЎсеКП(б) і інш.

## Інформацыя ЦБК.

Прэзыдыум ВСНГ БССР пастанавіў адпусьціць 800 руб. на правядзеньне конкурсу на лепшае монографічнае краязнаўчае апісаньне фабрыкі ці заводу. ЦБК, сумесна з ВСНГ, у хуткім часе дашле ва ўсе краязнаўчыя арганізацыі програму для вывучэньня прамысловых прадпрыемстваў і ўмовы арганізацыі і правядзеньня конкурсу. Краязнаўчыя арганізацыі на мясцох павінны ўжо зараз павесьці падрыхтоўчую працу да ўступленьня ў конкурс: выявіць асоб, якія колектыўна ці індывідуальна прымуць удзел у конкурсе, дагаварыцца з адпаведнымі арганізацыямі адносна выбару прадпрыемства для дасьледваньня і паведаміць ЦБК, хто (які краязнаўчы колектыў ці асобныя краязнаўцы) будзе прымаць удзел у конкурсе і якія прадпрыемствы будуць дасьледвацца.

За консультацыяй і ўказаньнямі неабходна звярачацца ў ЦБК.

---

Пастановай Прэзыдыуму Беларускай Акадэміі Навук ад 29 лістапада 1930 г. (№ 33) зацьверджан наступны склад Прэзыдыуму ЦБК: т. т. Серафімаў В. (старшыня), Самцэвіч В. (навуковы сакратар), Садоўскі Ф. (рэдактар часопісу „Савецкая Краіна“), Шкурдзе (Колгасцэнтр), Аляксандраў (яўсэктар БАН), Сабалеўскі (2 менск. школа), Сьцепанюк (НКА), Кац Г. (ЦСПСБ), Розін (ВСНГ), Зарэмбскі (польсэктар БАН), прадстаўнік ад ЦК ЛКСМБ і 3 рабочых з буйных прадпрыемстваў г. Менску.

У мэтах карэннай перабудовы краязнаўчай працы і падпарадкаваньня яе задачам соцыялістычнага будаўніцтва і абароны краіны Прэзыдыум ЦБК пастановай ад 27/XII 1930 г. ўхваліў арганізаваць пры ЦБК наступныя сэкцыі: 1) соцыялістычнай прамысловасьці; 2) соцыялістычнай сельскай гаспадаркі; 3) соцыялістычнай культуры і быту; 4) школьна-краязнаўчую; 5) студэнцкую; 6) сэкцыю па садзейнічаньні абароне краіны.

Пры раённых і гарадзкіх краязнаўчых таварыствах (у буйных гарадох) пры наяўнасьці працаўнікоў могуць організоўвацца сэкцыі, адпаведныя сэкцыям пры ЦБК. Краязнаўчыя таварыствы пры ВНУ існуюць на правох гарадзкіх краязнаўчых таварystваў, узгадняючы ўсю сваю работу з адпаведнымі раённымі таварыствамі.

Нізавымі краязнаўчымі ячэйкамі зьяўляюцца краязнаўчыя гурткі на фабрыках і заводах, пры колгасах і саўгасах, пры школах павышанага тыпу, якія (гурткі), як правіла, на сэкцыі не падзяляюцца. Раённыя і гарадзкія таварыствы і краязнаўчыя гурткі організуюць краязнаўчыя музэі, куткі, выстаўкі.

## Конфэрэнцыі профактыву працасьветы аб краязнаўчай працы.

На нарадах профактыву працаўнікоў асьветы БССР, якія адбыліся 10—15 студзеня г. г. ў Магілеве, Менску, Гомлі і Віцебску, працаўнікамі ЦБК зроблены даклады аб шкоднай працы контр-рэволюцыйных беларускіх нацыянал-дэмократаў у краязнаў-

стве і чарговых задачах савецкага краязнаўства ў БССР.

На нарадах вынесены пастановы аб ачышчэньні краязнаўчых організацый ад варожых нацыянал-дэмократычных элемэнтаў, організацыі краязнаўчых гурткоў на прамысловых прадпрыемствах, у колгасах і саўгасах, неабходнасьці неадкладнай перабудовы ўсёй краязнаўчай работы ў адпаведнасьці задачам і тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва і пашырэньні школьнага краязнаўства, якое зьяўляецца аднэй з сустаўных частак політэхнізацыі школы.

Разам з тым, на нарадах вынесены пастановы аб узмацненьні жывога інструктажу і кіраўніцтва краязнаўчымі гурткамі з боку ЦБК і выданьні масавай популярнай літаратуры па краязнаўству.

## Рэзолюцыя профактыву 30 раёнаў Б. С. С. Р. Магілеўскага куста, прынятая на нарадзе 10/І-31 г. па дакладу „Задачы савецкага краязнаўства."

Заслухаўшы даклад аб чарговых задачах савецкага краязнаўства, нарада профактыву працасьветы (Магілеў) лічыць, што:

1) Да апошняга часу краязнаўства БССР не зьяўлялася савецкім краязнаўствам, накіраваным на ўцягненьне і прыабшчэньне да ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве шырокіх рабочых і працоўных мас БССР.

2) Наадварот, краязнаўства БССР адыгрывала ў руках беларускага контр-рэволюцыйнага нац-дэмократызму, у палоне якога яно знаходзілася, ролю сродку выяўленьня, апрабаваньня і мобілізацыі сіл беларускай контр-рэволюцыі, часопіс „Наш Край" быў найлепшай трыбунай пропаганды варожых контр-рэволюцыянэрскіх ідэй беларускай нацдэмократыяй, пры злачынным папусьціцельстве і садзейнічаньні нацыянал-опортуністычнага былога кіраўніцтва ЦБК і Белар. Акадэміі Навук.

Лічачы, што савецкае краязнаўства адыгрывае агромнейшае значэньне, як форма прыцягненьня шырокіх і працоўных мас да актыўнага ўдзелу ў пасьпяховым і пераможным соцыялістычным будаўніцтве, як форма, праз якую шырокія масы будаўнікоў новага соцыялістычнага грамадзтва аўладаюць мэтодамі навуковага дасьледваньня і вывучэньня вытворчых сіл краіны, што дапамагае вырашэньню пытаньня пролетарскіх навуковых кадраў, на сучасным этапе шпаркага соцыялістычнага будаўніцтва, па завяршэньні пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі, нарада лічыць, што практычнымі і найнеадкладнейшымі задачамі раённых профорганізацый працасьветы, профактыву, інспэктуры Нарасьветы і ўсіх вясковых асьветнікаў, разам з вясковым актывам, зьяўляюцца наступныя задачы, патрабуючыя неадкладнага выкананьня.

1) Рашучае выкрыцьцё і выкарчоўваньне рэштак беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму ў краязнаўстве, у школьным будаўніцтве, у падручніках, у экономіцы, гісторыі і іншых галінах навукі, шырокае выяўленьне перад масамі рабочых, колгасьнікаў, батрацтва, беднаты і серадняцтва ўсёй шкоднасьці для працоўных нацыянал-дэмократызму.

2) Рашуча і практычна перабудаваць работу краязнаўчых раённых організацый шляхам аформленьня раённых краязнаўчых таварыстваў і іх бюро, забясьпечыўшы склад райбюро краязнаўства працаздольнымі таварышамі.

3) Неадкладна прыступіць да організацыі нізавой вясковай краязнаўчай сеткі, ячэек пры прадпрыемствах, саўгасах, колгасах, пры ВНУ, тэхнікумах, ШКМ і школах-сямілетках, уцягнуўшы ў ячэйкі шырокія масы рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкую частку вёскі, вучнёўства і студэнцтва ВНУ і тэхнікумаў. Праверыць соцыяльна-клясавы склад раённых краязнаўчых таварыстваў.

4) Па-баявому правесьці краязнаўчую пяцідзёнку з 25—30 студзеня г. г., склаўшы конкрэтныя пляны пяцідзёнкі для свайго раёну, зрабіць пяцідзёнку сапраўды пераможным этапам у краязнаўчай рабоце, шырока скарыстаць студэнцтва тэхнікумаў і ВНУ для баявога правядзеньня краязнаўчай пяцідзёнкі.

5) Наладзіць сталую і дзелавую сувязь з кіруючымі і плянуючымі раённымі організацыямі, паклаўшы пры гэтым зьместам работы раённых краязнаўчых таварыстваў і нізавых ячэек, заданьні плянуючых організацый, якія (заданьні) патрабуюць дасьледваньня і вывучэньня.

6) Сувязь і кіраўніцтва нізавымі краязнаўчымі ячэйкамі пабудаваць па прынцыпу асобных тэматычных заданьняў з боку райтаварыстваў — ячэйкам для вывучэньня і дасьледваньня.

Нарада лічыць, што выкананьне гэтых задач зробіць сапраўды краязнаўчую работу карыснай для соцбудаўніцтва, вырве канчаткова яго з рук элемэнтаў, варожых гэтаму будаўніцтву, зробіць краязнаўства сапраўды савецкім.

Дабіцца сталага, практычнага кіраўніцтва нізавымі краязнаўчымі ячэйкамі і раённымі краязнаўчымі таварыствамі з боку Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

7) Тэмамі для навуковых і вучэбных досьледаў у ВНУ, тэхнікумах, ШКМ і сямігодках браць такія, якія патрабуюць хуткага вывучэньня і дасьледваньня ў тых гаспадарчых прадпрыемствах, з якімі вытворча зьвязаны гэтыя вучэбныя ўстановы.

## Да ўсіх райколгассаюзаў і праўленьняў колгасаў.

Краязнаўства зьяўляецца аднэй з форм актыўнага ўдзелу працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве сваёй краіны праз усебаковае вывучэньне прыродных багацьцяў і энэргетычных рэсурсаў свайго раёну, разьвіцьця прамысловасьці, соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, арганізацыі вытворчасьці ў соцыялістычным сэктары народнае гаспадаркі і соцыялістычнай культуры для практычных задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Краязнаўчая праца ў мінулым не садзейнічала соцыялістычнаму будаўніцтву; яна мела варожы для пролетарыяту і шкодны для соцыялістычнага будаўніцтва характар і зьяўлялася пляцдармам контр-рэволюцыйнай дзейнасьці беларускіх нацыянал-дэмократаў. У краязнаўчую працу зусім ня ўцягваліся рабочыя, колгасьнікі і бядняцка-серадняцкія масы.

У мэтах карэннай перабудовы краязнаўчае працы і накіраваньня яе на шлях сапраўднай дапамогі партыі і рабочай клясе ў соцыялістычным будаўніцтве, неабходна шырока популярызаваць сярод рабочых, колгасьнікаў, саўгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, комсамольцаў і наогул працоўнай моладзі задачы савецкага краязнаўства,уцягнуць у краязнаўчую працу шырокія працоўныя масы і зрабіць яе сапраўднай формай актыўнага ўдзелу працоўных у будаўніцтве соцыялізму.

Практычнымі задачамі краязнаўчае працы ў галіне сельскае гаспадаркі для ўсіх краязнаўчых організацый на цяперашнім этапе соцыялістычнага будаўніцтва павінны зьяўляцца: дасьледваньне вытворчых сіл і экономікі свайго раёну, вывучэньне разьвіцьця прамысловасьці і соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, колгасаў і саўгасаў, вывучэньне арганізацыі працы, соцспаборніцтва і ўдарніцтва, як соцыялістычных мэтодаў працы, рацыяналізацыі вытворчасьці і вынаходзтва, вывучэньне клясавай барацьбы і соцыялістычнага наступленьня на кулацтва, вывучэньне быту колгасьнікаў і саўгасьнікаў, ажыцьцяўленьне задач культурнай рэволюцыі і г. д. Уся праца краязнаўчых організацый павінна садзейнічаць разгортваньню суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі на гэтай аснове кулацтва як клясы.

Надаючы вялікае значэньне масавай краязнаўчай працы ў вывучэньні прыродных сіл краіны, прамысловасьці і соцыялістычнай сельскай гаспадаркі ў мэтах актыўнай дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву, прапанаваць усім райколгассаюзам і праўленьням колгасаў аказаць усямерную дапамогу раённым краязнаўчым таварыствам шырока популярызаваць задачы і значэньне краязнаўчае працы і разгарнуць сетку краязнаўчых гурткоў у колгасах, уцягнуўшы ў краязнаўчую працу актыў колгасьнікаў, ударнікаў, вынаходцаў, селькораў. У дасьледчай працы краязнаўчых гурткоў у колгасах скарыстаць вынікі працы вытворчых нарад, брыгад вынаходніцтва і рацыяналізацыі, вучот адміністрацыяй эфэктыўнасьці працы ўдарных брыгад і г. д.

Бліжэйшымі задачамі ў працы краязнаўчых гурткоў у колгасах павінны быць: усебаковае вывучэньне і монографічнае апісаньне свайго колгасу, вывучэньне паасобных галін гаспадаркі, організацыі працы, разьмеркаваньня прыбыткаў і організацыя вытворчых музэяў, якія павінны популярызаваць дасягненьні ў разьвіцьці соцыялістычнае сельскае гаспадаркі і агітаваць бядняцка-серадняцкія масы за колектывізацыю ўсіх аднаасабовых гаспадарак.

Старшыня Праўленьня
Белколгассаюзу С. Міцькоў.

Старшыня Цэнтральнага Бюро
Краязнаўства В. Серафімаў.

Выдавец—Беларуская Акадэмія Навук.
Рэдактар—Рэдакцыйная Колегія.

Менск, Друкарня БАН. Заказ № 634. Галоўлітбел № 66. Тыраж 1300 экз. 6 арк.

# ЗЬМЕСТ

Стар.

**В. Серафімаў** — За ўдарныя тэмпы ў перабудове краязнаўчай працы . . 3

**В. Самцэвіч** — Пастановы XVI зьезду ЎсеКП(б) і задачы краязнаўчых організацый 7

**П. Ф. Садоўскі** — Выкарчаваць контр-рэволюцыйныя нацдэмаўскія ўстаноўкі ў экономічных пытаньнях . . . . . . . . 13

**В. Шчарбакоў** — Проблема навуковых кадраў у БССР . . . . . 33

**Л. Бабровіч, Ів. Шпілеўскі.** — Супроць контр-рэволюцыйных нацдэмаўскіх тэорый у этнографіі . . . . . . . . . . 42

**Яз. Мацюкевіч** — Контр-рэволюцыйная дзейнасьць беларускіх нацыянал-дэмакратаў у галіне мовы . . . . . . . 56

**Проф. П. Салаўёў** — Фэнолёгічная праца на БССР . . . . . 65

**В. Самцэвіч** — За баявое выкананьне задач другой бальшавіцкай вясны . 73

**Ул. Мяжэвіч** — Цэмантны Гігант (нарыс) . . . . . . 76

## ХРОНІКА

Да барацьбы са шкоднікамі сельскай і лясной гаспадаркі . . . . . 90

Этнолёгічная экспэдыцыя па ўсходняй частцы Магілеўшчыны ўлетку 1930 г. . 91

На акадэмічным савеце БАН . . . . . . . . . 91

Інформацыя ЦБК . . . . . . . . . . 92

Конфэрэнцыя профактыву працасьветы аб краязнаўчай працы . . . 92

Рэзолюцыя профактыву 30 раёнаў БССР Магілеўскага куста, прынятая на нарадзе 10/I-31 г. па дакладу „Задачы савецкага краязнаўства“ . . 93

Да ўсіх райколгассаюзаў і праўленьняў колгасаў . . . . . . 94

## Памылкі, якія заўважаны ў часе друку.

Стар. 3, *радок 14 зьнізу* надрукавана „над капіталістымі“, трэба чытаць „над капіталістычнымі“.

Стар. 7, *радок 12 зьнізу* надрукавана „і павышэньні“, трэба чытаць „і ўздыме“.

Стар. 9, *радок 13 зьверху* надрукавана „прыдатных“, трэба чытаць „прыгодных“.

Стар. 10, *радок 19 зьнізу* надрукавана „і павышэньні“, трэба чытаць „і ўздыме“.

Стар. 15. *радок 5 і 6 зьверху* надрукавана „Маскоўкоўскага“, трэба чытаць „Маскоўскага“.
*радок 25 зьверху* надрукавана „дарогі“, трэба чытаць „дарагі“.
*радок 15 зьнізу* надрукавана „клічачы“, трэба чытаць „клічучы“.
*радок 19 зьнізу* надрукавана „ду“, трэба чытаць „да“.

Стар. 18, *радок 26 зьверху* надрукавана „воть“, трэба чытаць „вось“.

Стар. 20, *радок 23 зьнізу* надрукавана „гаворучы“, трэба чытаць „гаворачы“.

Стар. 28, *радок 25 зьверху* надрукавана „для Асінбуду і для Асінторфу і для іншых кваліфікаваных работ“..., трэба чытаць „для Асінбуду і для Асінторфу для кваліфікаваных работ“...

Стар. 30, *радок 16 зьнізу* надрукавана „экспёататараў“, трэба чытаць „эксплёататараў“.



Цана 50 кап.